Уладзімір Содаль

# БЛАСЛАВЁНЫЯ КУШЛЯНЫ

З нагоды 170-х угодкаў
Францішка Багушэвіча

Мінск
«Кнігазбор»
2009

УДК 821.161.3.09+929 Багушэвіч
ББК 83.3(4Беи)
С54

На вокладцы — карціна М. Назарчука
«Вяртанне на Радзіму» (партрэт Ф. Багушэвіча)

**Содаль, У. І.**
С54 Благаславёныя Кушляны / Уладзімір Ільіч Содаль. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 144 с.
ISBN 978-985-6930-61-7.

У. І. Содаль — вядомы даследчык жыцця і творчасці Ф. Багушэвіча. Ужо сорак год ён збірае звесткі пра паэтаву сядзібу ў Кушлянах. Упершыню значная частка сабраных матэрыялаў друкуецца асобнай кнігай.

Гісторыя сядзібы, таленавіта расказаная краязнаўцам, запрашае чытача ў часы нараджэння беларускай нацыянальнай ідэі.

**УДК 821.161.3.09+929 Багушэвіч**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-6930-61-7**

# Выток

Часам у мяне пытаюцца: як я ўзбіўся на Францішка Багушэвіча? Гэтага я і цяпер не ведаю… Але ж быў якісь пачатак, штуршок, імпульс. Самае цікавае, калі ўсё гэта здарылася, я быў малады, і мне, грамадзяніну развітога сацыялізму, будаўніку камунізму, ягоныя творы здаваліся старызнай, не вельмі абробленымі, грувасткімі, цяжкаватымі, перапоўненымі нязвыклымі для мяне дыялектызмамі, гістарызмамі. Тым не менш, я пацягнуўся да Багушэвіча, інтуітыўна адчуў якуюсь гарманічнасць гэтай асобы з яго словам, думкамі, настроямі… Мабыць, гэта найперш знайшло водгук у маёй душы і павяло Багушэвічавымі сцежкамі. А тут выпала мне рыхтаваць на тэлевізіі перадачу пра Францішка Багушэвіча. А як расказаць пра песняра, не пабыўшы на яго радзіме?..

Было гэта ў годзе шэсцьдзесят дзявятым… Я тады толькі шчэ пачынаў на тэлевізіі. Памятаю, склаў сцэнар. Уключыў у яго Багушэвічавы творы. А некаторыя з іх доўгія, як сюжэтныя вяроўкі. Я не ведаў, што з імі рабіць. Так цалкам і ўключыў у сцэнар. Пасля мне зрабілі заўвагу, што гэтак будзе не вельмі тэлевізійна. Вялікія творы разбураюць стылістыку экрана. Глядач не можа доўга слухаць. Яму патрэбна відовішча. То параілі з вялікіх твораў вылушчыць самае яскравае, трапнае, удалае. А зрабіць гэта з Багушэвічавымі творамі не проста. Яны пераважна сюжэтныя. І, папраўдзе, мне не хацелася гэта рабіць, парушаць Багушэвіча, урывацца ў яго творчую задуму… Ну, але раз гэтага вымагае тэлевізійная спецыфіка, то ўсё ж мусіў. Гэта змусіла мяне як след учытацца ў Багушэвічавы творы, каб вылушчыць з іх тыя ці іншыя радкі, зрабіць з іх выняткі, а не проста пазначыць для машыністкі старонкі для перадруку. Мо тады я ўпершыню сур'ёзна прачытаў Багушэвічаву спадчыну, адчуў яе самабытнасць. Але найбольш за ўсё, пэўна, уразіла

прадмова да «Дудкі беларускай». Яна і накіравала мяне ў Кушляны, каб паглядзець на той кут, дзе жыў і тварыў вялікі пясняр, найсумленны чалавек сваёй эпохі Францішак Багушэвіч.

Памятаю, была восень: ці канец кастрычніка, ці пачатак лістапада. Цёмныя хмары віселі над зямлёю. Кінааператар бедаваў: змрочныя будуць здымкі. Каб хоць трохі сонца пасвяціла. Галінкі дрэў былі ўсе ў расінках, як у срэбных пацерках. Гэтыя расінкі былі сугучныя з паэтавымі настроямі. Прыгадайма:

Вун стаіць бярозка тут ля самай хаткі,
Косы папусціла… плача, кажуць людзе…
Чаго ж мне маркотна? Ты ж скажы, бярозка,
Маўчыш як нямая, і сама смутная!..
Мусіць-такі праўда — гэта яе слёзка,
Што кажуць другія — капля расяная.
Мне жаль і бярозкі, чаго ж яна плача,
Калі ужо долі не пераінача?

…Кушляны сустрэлі нас глыбокай зачараванай восеньскай цішынёю, сцішанасцю. Наўкола ні душы. Усё — і дрэвы, і зямля — былі набрынялыя вільгаццю. Усё прыглушанае, прыціхлае. Знайшлі ў хаце дзядзьку Міхала. Ён узрадаваўся людзям з Мінска. Дагэтуль ніякая тэлівізія ў Кушляны не прыязджала. Не памятаю, што мы тады здымалі, што ўразіла. Але восеньская прыглушанасць запомнілася, такая засяроджанасць, што сам сябе чуеш, сам сябе разумееш і можаш нават нешта яшчэ думаць пра таго, дзеля каго сюды прыехаў…

Кінулася і колішняя ўтульнасць і асірацеласць, занядбанне і пасільная рупнасць. І загадкавасць, жаданне распазнаць тое жыццё, якое тварылася калісь тут. З такім настроем і пакінулі Кушляны. Ва ўсякім разе я адчуў, што гэта толькі разведка, што гэтую сядзібу трэба ажывіць — што праз жывых людзей, што праз архівы, што праз дакументы… За гэтую працу я і ўзяўся, нават не ведаючы, куды яна мяне павядзе, куды выведзе, дзе што я буду шукаць і ці знайду.

Найперш вырашыў распытацца ўсё пра Кушляны, хто як іх памятае, што змянілася, што знікла. Хто як запомніўся з Багушэвічавых суседзяў. Вядома, для паўнаты ўражанняў трэба

было абхадзіць усё наваколле, лясы, пералескі, спазнаць кожную сцежку, кожную дарожку, якая вяла ў Кушляны, праз Кушляны. З якіх я толькі старон не заходзіў у Кушляны! Праз Навасёлкі і Марымонты, праз Забалацце і Наздрачуны, праз Трыколі і Ваўкелы, праз Асіпаны і Рудалі…

Кожны раз я мяняў дарогі і напрамкі, каб добра сабе ўяўляць песняроў кут, каб бачыць і адчуваць яго пры любой нагодзе.

# Запрашэнне

— Ужо, мусіць, няма тае краіны, у якой я не быў! — выхваляўся адзін новы беларус.

— А ў Багушэвічавых Кушлянах ці быў?

— А от у Кушлянах не быў. Толькі чуў пра Кушляны.

— То які ж ты беларус, калі ў Кушлянах не быў?!

Раз у Кушлянах не быў, то і свету не бачыў. А калі і бачыў, то наўрад ці зразумеў яго! Каб у свет ехаць, трэба найперш самога сябе спазнаць. Багушэвічавы Кушляны хоць трошкі, ды маглі б гэтаму паспрыяць. То, калі ласка, запрашаю ў Кушляны — у гэты святы куточак. Хай гэта пакуль будзе ўсяго толькі кніжная вандроўка.

# Кушляны

Згаданы назоў — Кушляны — зараз ведае кожны беларус. Гэта адзінае на Беларусі такое найменне. У якімсь дыялектным слоўніку вычытаў: «Кушачка — гняздо ці кусток з гняздом». І прыклад: «З харошай кушачкі добрыя і птушачкі». То хай і гэтая памаўка пры згадцы пра Кушляны тут будзе.

Некаторыя вучоныя лічаць, што назва «Кушляны» паходзіць ад балтыйскай асновы, прынамсі, ад літоўскай «kuštêti» (шаптаць). Так гэта ці не — цяжка сказаць. Але шаптаць тут было і ёсць пра што і каму. Шаптаць маглі векавыя дрэвы, травы, трысцягі…

Шапталі, які тут чароўны кут, якія тут выгоды для чалавека, гармонія між прыродай і чалавекам! Вокал пушча, балоты, вадацечы. А між імі пакатыя пагоркі. На гэтых пагорках і будаваліся першыя людзі. Зямля тут была ўрадлівая. Людзі абжывалі яе. Заводзілі сядзібы. А вокал іх садзілі розныя прысады з ліпаў,

клёнаў, елак, каштанаў, бяроз. Між імі — агароды, сады, кусты ягадаў. На адным з такіх кушянскіх пагоркаў мясціўся фальварак Багушэвічаў. Побач з імі, праз прысады, жылі Маркоўскія. На другім пагорку, праз Вадацеч, аселі Ясевічы. Схілы пагоркаў, нізовіны абжывалі найміты, парабэчкі, арандатары-кутнікі.

Кушлянскі люд ніколі не пачуваў сябе на водшыбе жыцця. Тут ведалі дарогі не толькі да Вільні, балазе блізка і сама Вільня, і віленскі тракт. Сюды даходзіла водгулле Варшавы і Кракава, Пецярбурга і Масквы, і нават Парыжа! Тут зналіся і з Богам. Заводзілі свае сядзібныя каплічкі. Ведалі дарогі і да касцёла. І найперш — да жупранскага.

## Слоўка пра жытло

Францішак Багушэвіч, як вядома, нарадзіўся ў Свіранах пад Вільняй. Але свядомыя гады ягонага жыцця прайшлі ў Кушлянах. У Кушлянах Багушэвічы жылі з даўніх часоў. У 1749 годзе іх купіў за 450 польскіх злотых Францішкаў прапрадзед Антон. З тае пары і аж да саракавых гадоў мінулага стагоддзя хто-небудзь ды жыў з Багушэвічаў у Кушлянах. У пару Францішкавага маленства Кушляны нагадвалі маленькі феадальны кут з усімі яго атрыбутамі: з старасвецкімі гаспадарчымі забудовамі, нізкімі прысадзістымі пунямі, аборамі, свірнамі, стадоламі, з безліччу прыдарожных каплічак і крыжоў. Не было тут яшчэ тады тае прасторнае, на шэсць вялікіх пакояў даміны з прыгожай, праз усю сцяну, верандай.

Шыкоўны кушлянскі дом з'явіўся значна пазней, на схіле паэтавага жыцця. А гадаваўся Францішак, набіраўся сілы разам з сваімі братамі і сястрой Ганнай у больш простай, больш сціплай хаціне. Месцілася яна бліжэй да поплаву. Хату гэтую тут называлі афіцынай. Была яна на два канцы з каморай і паветкай на слупках-кругляках. Перад паветкай — плюскаты камень-парог. Уваход у хату быў ад гаспадарчых пабудоў. На гаспадарчую пабудову глядзелі і яе вокны з-пад нізка спушчанай саламянай страхі. Стаяла хата на мураваным падмурку. Падмурак той ацалеў. Многія кушлянцы памятаюць гэтую хату. Хадзілі сюды на вечарынкі, ладзілі тут скокі. Старая бацькоўская

хата праіснавала да трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Але Багушэвічы ў тыя гады ўжо ў ёй не жылі. У 1896 годзе паэт збудаваў новы дом. Яго абмінулі віхуры пажараў і войнаў, і нам, на нашу радасць, на наша шчасце, ёсць куды зайсці, ёсць дзе прычасціцца і хоць на хвілінку ўявіць тое жыццё, якое некалі снавалася пад яго страхой. Ад гэтай хаты мы і пачнём нашу вандроўку па Кушлянах.

## Парк

Паводле ўспамінаў паэтавай унучкі Станіславы Тамашэўскай, у гады яе маленства Кушляны былі як лялька. Тут расло шмат сліў, вішняў, чорных і чырвоных парэчак, агрэсту. А сам кушлянскі сядзібны дом з усіх бакоў атулялі дрэвы. І раслі яны не абы-як, а асэнсавана. Вось купка з шасці высокіх клёнаў. Яна нагадвае альтанку з жывых дрэў. Ды што нагадвае! Гэта і ёсць невялікая альтанка з клёнаў. Пасаджаны яны густа, з уваходам з боку хаты. Тры з іх крыху нахіленыя над сцяжынкаю, растуць адзін пры адным, нібы з аднаго кораня. Кожны з іх па-свойму кампануе гэты гожы куточак. А збоч атуляе яго ад ветру вялізны бэзавы куст. Некалі, калі дрэвы былі маладыя, зялёная стрэшка гэтай альтаначкі была над самай галавою тых, хто заходзіў пад яе шаты. Цяпер жа дрэвы вынеслі свае верхавіны аж пад самае неба. Альтанка нешырокая, чалавекі на два. Вельмі імпануе для закаханых!

Паўднёвы кут хаты гэтаксама, як паўночны і заходні, атуляюць дрэвы. Але найпрыгажэйшая ўкраса сядзібы, яе аздоба, безумоўна, прысады. З паўднёвага захаду яны спрэс з елак. Іх цяпер тут шаснаццаць. Некалі было болей, іх падразалі, стрыглі, падціналі. Елкавая абсада пераходзіць у доўгую, з паўвярсты, пераважна каштанавую алею. Але пра яе асобная мова.

З паўднёвага ўсходу і поўдня, за садам, замыкалі Багушэвічаву сядзібу колькі ліпаў. Дзве з іх ацалелі. Вось такі ў агульных абрысах Багушэвічаў парк сёння. Займае ён крыху больш за два гектары. Кажуць, што Францішак Багушэвіч быў выдатным агароднікам. «Аграном таго не ведаў, што ведаў Багушэвіч», — згадваў пра паэта яго кушлянскі сусед Станіслаў Альхімовіч.

Паркі падзяляюць на пейзажныя, рэгулярныя, эканамічныя. Багушэвічаў прысядзібны парк належыць да рэгулярных. У ім добра спалучалася садовая пасадка з дэкаратыўнаю.

Калісь у пасадцы прысядзібных паркаў прымалі ўдзел мастакі, архітэктары, батанікі. Багушэвіч, думаецца, не меў сродкаў запрашаць гэтулькі спецыялістаў, знаўцаў. Ён сам сабе быў і архітэктар, і батанік, і мастак. Праўда, без іх парадаў, а ў тым я пэўны, не абышоўся. У яго было шмат знаёмых сярод мастакоў і батанікаў, і ён з імі раіўся, калі будаваўся, як і што лепей і дзе пасадзіць. Дый бачыў ён, як гэта ў людзей рабілася.

## Багушэвічавы дубы

У гармоніі з Багушэвічавай сядзібаю была і навакольная прырода. І найперш дубы. Іх некалі ў наваколлі Кушлянаў было шмат. Каржакаватыя, яны раслі на паплавах, на ўзлесках, уздоўж дарогі на Наздрачуны і на ўзмежках. Хто і калі іх садзіў, кушлянцы не памятаюць, — так даўно гэта было, але дубы тыя надта аздаблялі паэтаву сядзібу. Багушэвіч ганарыўся імі і не раз цешыўся, захапляўся іх волатаўскай сілаю. Яшчэ хлапчуком ён збіраў пад імі серабрыстыя, нібы майскія жукі, жалуды. Жалудамі кармілі жывёлу, на дубовым лісці, надаралася, пяклі хлеб.

Былі гэта ўсё векавыя прыгажуны. Кожны з іх меў сваю гісторыю, сваю долю. З іх лёсам часам моцна пераплятаўся і лёс людзей. Вось каля гэтага, выпаленага ўсярэдзіне, у тры абхваты чалавечых рук таўстуна, распавядаюць, Багушэвічаў бацька ў маладыя гады ўпаляваў мядзведзя. А пад дубам, што калісь рос на поплаве, Францішак Багушэвіч вырасціў не адзін дзясятак дабрэнных баравікоў.

Пра тое, як яму гэта ўдалося, расказвала паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская.

Нібыта аднаго разу Багушэвіч прынёс з лесу старога, амаль спарахнелага — поры з яго ўжо сыпаліся — грыба. Быў гэта вельмі стары баравік. Багушэвіч размачыў яго ў цёплай даждждавой вадзе, змяшаў з лясной глебай і трымаў гэты росчын у

драўлянай пасудзіне тыдні так з два. Пасля ўзараў поплаў пад дубам і разліў грыбное месіва па ўзараным лапіку. Мінула колькі часу — і неўзабаве прабіліся першыя дзве крамяныя шапачкі, а затым яшчэ і яшчэ.

Пра гэты Багушэвічаў дослед Станіслава Тамашэўская чула ад сваёй бабкі — Багушэвічавай жонкі. Бабка паказвала ёй і той дуб, пад якім раслі добрыкі.

«Быўшы ўжо замужам, — згадвае Тамашэўская, — я збірала там па трыццаць-сорак прыгожых баравікоў».

Цікава, што ўслед за Багушэвічам і іншыя кушлянцы спрабавалі паўтарыць яго дослед. Ды толькі ў іх нічога чамусьці з гэтага не выйшла, хаця яны рабілі амаль усё тое ж, што і Багушэвіч.

Дубы раслі на Багушэвічавай сядзібе не толькі дзеля ўкрасы і ўцехі. З іх выраблялі клёпку, спіцы на колы, восі, гнулі палазы, рабілі цабэркі, штандары, капылы на сані. Таму з-за гэтых дубоў здараліся і прыкрыя сваркі, і непаразуменні з суседзямі, асабліва з-за тых, што раслі на межах. Толькі дубы не звярталі на ўсе гэтыя чалавечыя звадкі ўвагі. Шумелі сабе паціху лісцём, прагна смакталі з глебы зямныя сокі, ганялі іх па ствалах і суках, цягнуліся сваімі шатамі ўсё вышэй і вышэй да сонца, прымалі на сябе ў навальнічныя дні ўдары маланак, адводзілі іх ад гаспадарчых пабудоў. Яны былі тут нібы маланкаадводы. Перуны ў іх білі не раз. Калашмацілі іх вятры. Скарачалі век і пастушковыя вогнішчы, і сякеры бяздумных людзей. Але яны стаялі мужна, як салдаты, як вуі. І ўсё ж час браў сваё. Спакваля дубы засыхалі, чэзлі, лыселі, і тады — было ўжо гэта пасля апошняй вайны — патрыярхаў пусцілі пад пілу. Але дубы і ў агоніі заставаліся самімі сабою, пілаваццa не даваліся, супраціўляліся, рвалі пілы. Шмат пралілі поту тыя, хто наважыўся звесці іх з свету, назаўсёды разлучыць з каранямі жыцця.

Засталіся толькі два волаты. Адзін быў ужо без макаўкі і голля. Стаяў сярод незасеянага поля, нібы той воін, што выйшаў з няроўнага бою, але няскораны, з сукамі-куксамі, увесь аблуплены, аблiты дажджамі, абвеяны вятрамі і цвёрды, як костка. Але і такі ён выглядаў даволі сімвалічна і даносіў да нас якоесь дыханне сваіх часоў.

У 1976 годзе яго сухастойны век спынілі трактарысты. Падчапілі на трос — і вышмаргнулі з той зямелькі, з якой ён

зросся і з якой яму жыць было люба. Згадваюць, нават мёртвы, ён не хацеў расставацца з сваімі каранямі, доўга тужыўся, не здаваўся, моцна трымаўся за грыўку шмат гадоў неаранае зямлі, якую аб'язджалі нават трактары, баючыся, каб часам не парваць свае плугі аб яго карані. І ўсё ж сорак ці болей конскіх сіл адолелі яго, вырвалі з векавога дзірвану.

Трактарысты, безумоўна, паспяшаліся. З таго дубу можна было б выразаць добрую драўляную скульптуру — і быў бы на Багушэвічавай сядзібе і помнік яго часу, і твор мастацтва.

## Ваўкелы

Ваўкеламі ў Кушлянах называюць аграмадную — ад Трахімоў і Трыколяў і аж да самых Рудалёў — нізовіну, якая яшчэ не гэтак даўно была спрэс парослая непралазным хмызам. Калі б з нейкай прычыны мы абмінулі гэты куток, не згадалі яго, наша ўяўленне пра Кушляны было б вельмі няпоўнае.

Цяпер гэта ўжо асушаны выган. Калісьці ж тут заўсёды стаяла, ніколі не сыходзіла парыжэлая вада. Між непралазных хмызоў, на буграх, рос альхоўнік, дробны бярэзнік з каржакаватымі хваінкамі. А што тут ужо птаства featured рознага было! Як толькі надыходзіла вясна, жаласна кігікалі над прагаламі кнігаўкі. Па начах кугукалі совы. На досвітку драў горла дзяркач. У маі заходзіліся-цохкалі салаўі. На старадрэвінах ускрай Ваўкелаў клекаталі буслы. Люба слухаць было гэтае птушынае разнагалоссе, гэты птушыны грай. Усім тут было раздольна. Зумкалі над вербалозавымі коцікамі пчолы, пекна спявалі жабоцькі. Ваўкелы кармілі, паілі кушлянцаў, абувалі і шмат чаго іншага давалі. З Ваўкелаў мох, шчаўе, сена, дубцы на кашы, луцце на лапці. Трэба ягады — зноў жа ідуць у Ваўкелы. Спелі тут пры беразе маліны, ажыны, каліна, крушына. А што чаромхі было! Траплялiся чорныя парэчкі. Былі лапікі і з суніцамі, дзе вышэй ды сушэй. Стронгі захацеў — і яе знойдзеш у Ваўкелах. Праз Ваўкелы, віхляючы між хмызоў, цурчэла-абцякала крынічная ручаінка. То і стронзе там, кажуць, было раздолле — гуляла сабе, падскокваючы, пакуль хто не ўловіць яе. У гэтай жа ручаінцы кушлянскія кабеты і палотны бялілі.

Вясною з усіх кушлянскіх пагоркаў вада збягалася ў Ваўкелы. Але мінала два-тры дні — і вялікая вада сыходзіла ў далёкія рэчкі, заставалася толькі свая, і тады ўжо кушлянцы смялей ступалі ў Ваўкелы, бралі з іх усё, што толькі льга было ўзяць.

У Ваўкелах былі і сажалкі. Адна ля Рудалёў, другая ў Садках. То гэта былі не проста сажалкі. У адной з іх, у той, што ля Рудалёў, усе акалічныя сяляне сваю шарачковую апратку фарбавалі. Там быў руды торф, з рудою. То добра было фарбаваць зрэбнае ў рудое. Пэўна, з гэтага і вёска Рудалі завецца. А ў Садках была сажалка з белаю глінай. То кушлянцы гэтай глінаю бялілі сцены. Бывала, як пабеляць да свята якога, дык сцены тыя аж вочы слепяць, такія бялюткія.

З Ваўкеламі кушлянцы звязваюць шмат дзівосаў і розных неверагодных здарэнняў і прыгод. Адно з іх апісаў паэт у вершы, які так і назваў «Здарэнне». Згадаем яго пачатак:

Ехаў я раз ад Кіяны
Ды ў Смургоні, і не п’яны,
І даехаў на Ваўкелы,
А конь добры быў — мой белы.
Тыц! стаў конь, наравіцца!
І храпець і дыба стаў.
Што не можна прыступіцца,
Чуць аглоблі не зламаў.

Што ж далей адбывалася ў Ваўкелах з падарожным? Азірнуўся ён наўкола і ніяк не ўцяміць, чаго гэта яго конь наравіцца. Азірнуўся яшчэ раз і бачыць — бочка пры дарозе. Ускаціў яе на панарад, аж тая бочка зусім і не бочка, а каза з рагамі. Глядзіць — і конь яго не конь, а зыдла нейкае. І нехта ў лесе раптам як гікне, зарагоча… Набраўся страху той падарожны, пакуль Ваўкелы мінуў.

Колішнія Ваўкелы — гэта цэлая кушлянская міфалогія. Такія чмуры, якія падаў Францішак Багушэвіч у сваім вершы «Здарэнне», некалі тут надараліся досыць часта.

…Сустракаюцца два паляўнічыя. Разгаварыліся. Спадабаліся стрэльбы. «Давай мяняцца!» — кажа адзін. «Давай!» — пагаджаецца другі. Памяняліся. А назаўтра кожны прачынаецца ў сваёй хаце і бачыць замест стрэльбаў па конскай назе ў парозе.

Сёння ў гэтыя здарэнні кушлянцы не надта вераць, называюць іх байкамі. Але даўней, калі навакольная прырода была ўладаркаю над чалавекам, калі наўкола былі цёмныя непраходныя пушчы і ройствы, гэтыя здарэнні ой як уражвалі людзей.

Ваўкелы не толькі кармілі і абувалі кушлянцаў. Яны яшчэ іх і лячылі. Марыя Саевіч з Каспяровічаў, прыкладам, згадвае, што ў даўнія часы — пра гэта яна ад свайго таты чула, — калі лютавалі розныя эпідэміі, пошасці, кушлянцы збіралі ў Ваўкелах травы і лячыліся ад хвароб і мору. Ад халеры, згадваюць, ратаваліся дзягілем. Гэты дзягіль рос толькі ў Ваўкелах. Яго варылі і пілі з гарэлкай — і страшная хвароба спакваля адступала.

Марыя Саевіч згадвае і яшчэ такое. Нібыта тое здарэнне, якое апісаў Багушэвіч у вершы «Хрэсьбіны Мацюка», адбылося ля Ваўкелаў. Вось яе кароценькае, слова ў слова, апавяданне: «Да Багушэвічавых Ваўкелаў прылягалі шнуры нашай вёскі. Тата згадваў: аднаго разу ў канцы гэтых шнуроў Багушэвіча напаткалі казакі, і яны яго там страшэнна катавалі. Пасля ўсе гэтыя свае пакуты ён апісаў у вершы».

Мабыць, шмат чаго іншага маглі б распавесці нам Ваўкелы пра нашага песняра. На іх жа ўлонні прайшло Францішкава маленства, юнацкія гады. Не адзін раз ён прыводзіў сюды коней на начлег. Багушэвічы ў Ваўкелах мелі семсот сорак два сажані сенажаці. Менавіта на гэтым невялікім сенажатным лапіку, пры зыркім пастушковым вогнішчы, сярод цемені ночы, наслухаўся ён у маленстве розных кушлянскіх легендаў ды паданняў, трывожных начных гукаў, нагледзеўся самых розных досвіткаў, нацешыўся ранішнімі перагукамі пастушковых дудак. Уся гэта ваўкелаўская рамантыка не прайшла для Францішка намарна. Яна абвастрыла ў ім паэтычную чуйнасць да прыроды, да навакольнага жыцця, абудзіла назіральнасць.

І ў пазнейшыя гады Багушэвіча вабілі да сябе Ваўкелы. Любіў ён, вярнуўшыся з Вільні, з гарадскога тлуму, пахадзіць па загадкавых ваўкелаўскіх сцежках з стрэльбаю за плячыма. Кажуць, што Ваўкелы яму нават жыццё скарацілі. Нібыта пайшоў ён аднаго разу на паляванне, і ў яго пад нагамі дзярно прарвалася, і ён уваліўся ў багну і застудзіўся. А быў ён і без гэтага ўжо хворы. Нехта бачыў, як яго неслі, дык у кулаку тарфяная багна была.

Ваўкелы выцерабілі і асушылі ў пяцідзясятыя гады. Наваколле Кушлянаў, іх гістарычны ландшафт, безумоўна ж, парушаны. Не чуваць тут больш таго птушынага граю, што цешыў колісь паэтава сэрца. Зніклі з Кушлянаў усялякія дзівосы і здарэнні. Ад Ваўкелаў застаўся толькі невялікі лапік з хмызам. Гэта ля самых Трыколяў. Туды ніякія трактары не заехалі, такая там багна. Крыніцы адтуль цякуць. Бярэ выток і ваўкелаўскі ручай. Ён і сёння жвава гамоніць у глыбокім, пракапаным канаўшчыкамі рэчышчы, бяжыць да больш паўнаводнай рачулкі Сікункі. Гамоніць улетку і ўзімку, нават у вялікія маразы не замярзае. Прыкідае ручаінку трохі снегам, прысыпле. Ёй там цёпла і ўтульна. Ну але ж чаму, спытаеце, гэтая мясціна Ваўкеламі завецца? Кажуць, даўней, калі наўкола Кушлянаў былі адны цёмныя непраходныя пушчы і зімою скрозь усё замярзала, бралася на снег ці лёд, сюды, да гэтай жывой ручаінкі, прыходзілі воўчыя зграі ваду піць. То гэтую мясціну нашы далёкія продкі і назвалі Ваўкелы.

Пра Ваўкелы ў Кушлянах сёння нагадвае і яшчэ адна памятка: выносная чарэшня на паэтавай сядзібе. Яе ў 1954 годзе — расла яна ля сажалкі — дубчыкам перасадзіў Міхал Ляпеха. Дрэва з той пары разраслося, набралася моцы. У 1985 годзе ля яго прымацавалі шыльдачку, якая і апавядае нам, што гэтае дрэва з славутых кушлянскіх Ваўкелаў.

## Сажалка

Багушэвічава ўнучка Станіслава Тамашэўская казала: «Кушляны — вельмі зручныя для жыцця. Аднаго ім бракавала: не было паблізу вялікай вады. Гэты недахоп зліквідавалі сажалкай. Яе выкапалі ў канцы сядзібы, на нізкай мясціне, на ўскрайку Ваўкелаў. Сажалка гэтая невялікая, соткі на тры-чатыры, але жыццёвыя выгоды Багушэвічы мелі значныя. З трох бакоў яе абступалі чараты, кусты. Нахілены над сажалкаю вербалоз і водная роўнядзь вельмі ўпрыгожвалі сядзібу. Улетку тут любілі бавіць час дзеці: купаліся, лавілі рыбу — лінёў і карпаў. А рыба тут была, ёсць і зараз. Была яшчэ старая, пахілая над вадою вяр-

ба. Дык дзеці з яе не злазілі. Любілі на ёй хавацца ў летнюю спёку, чыталі там кнігі. Часта звінелі дзіцячыя галасы на сажалцы і зімою. Рабілі тут коўзанку-крутуху. Увесну каталіся на крыгах, плытах, у цэбрах ці начоўках. Тут заўсёды было весела, шумна. Паблізу сажалкі тулілася лазня. У пяцідзясятыя гады за гэтую сажалку была цэлая вайна. Меліяратары хацелі яе асушыць. Але Міхал Ляпеха не дазволіў гэтага зрабіць. Паглыбіў трохі, расчысціў, і сажалка зажыла сваім жыццём. Наведнікі могуць у гэтым рамантычным куточку ўявіць, як праходзілі ў Кушлянах дзіцячыя гады Францішка Багушэвіча, свет яго гульняў і забаў. Кушлянцы прыгадваюць яшчэ, што за сажалкаю, крыху воддаль, раслі маладыя дубкі, а ля самой яе праставала грэбля на Трыколі. Непадалёку была і студня з сахою і рыпучай стралою, якую тут называлі *свірчня*. Пры студні на дубовых калодах драўлянае карыта з кругляка — для жывёлы.

## Кушлянская школа

Школы ў нашым сённяшнім разуменні ў Багушэвічавых Кушлянах у дзевятнаццатым стагоддзі не было. Дзяцей тут вучылі вандроўныя настаўнікі, а таксама так званыя дарэктары. У іх у сваю пару пачатковую адукацыю атрымаў і Францішак Багушэвіч.

У 1854 годзе кушлянскіх дзяцей вучыў Восіп Клімашэўскі. Родам ён быў з Вільні, меў вялікую жыццёвую практыку. Перад гэтым жыў у Сакаловіцкім маёнтку, з год перапісваў розныя паперы ў барона Рэнэ. У Кушляны яго запрасіў Багушэвічаў сусед Станіслаў Ясевіч. У Ясевічавым доме, у яго пакоях, і праходзілі заняткі. Клімашэўскі, паводле яго слоў, вучыў кушлянскіх дзяцей любіць волю, чытаць і пісаць — па-руску і па-польску, ненавідзець царызм і прыгнятальнікаў. Апрача Ясевічавых дзяцей, да Клімашэўскага бегалі вучыцца і меншыя дзеці Казіміра Багушэвіча, прынамсі, Апалінар, малодшы Францішкаў брат. Яму ў 1854 годзе было ўсяго восем гадкоў. Тут жа вучылася і дзятва яшчэ аднаго Багушэвічавага суседа — Антона Маркоўскага. З Трыколяў да Клімашэўскага бегалі

таксама дзеці Разалі Далецкай. Вучыліся тут і Мацулевічавы дзеці, з Солаў. Аднаго з іх звалі Эдвард. Усе яны былі і Францішкавы сучаснікі. З усімі ён знаўся. Восіп Клімашэўскі вучыў кушлянскіх дзяцей пяць зімаў. У 1859 годзе ён пераехаў у Жупраны, але з Кушлянамі, прынамсі, з Багушэвічамі, повязі не парываў.

Гісторыя данесла да нас імя яшчэ аднаго старога кушлянскага настаўніка — Казіміра Людвінкевіча. Пра яго мы пакуль ведаем надзвычай мала. Вядома толькі, што жыў ён у Багушэвічаў, часта сустракаўся з Клімашэўскім — у Кушлянах і Жупранах. Зачыніўшыся, яны вялі якіясь патаемныя гутаркі. Магчыма, Казімір Людвінкевіч вучыў старэйшых Багушэвічавых дзяцей, інакш які быў сэнс Багушэвічам трымаць не ў такой ужо прасторнай хаце лішнюю душу. Хіба з міласэрнасці? Але ці толькі?

Будынак Ясевічавага дома, у якім была кушлянская школа, ацалеў. Праўда, пасля вайны яго перавезлі за Солы. Гаспадаром яго стаў Павел Мілейша. Цяпер мала хто з жыхароў Смаргоншчыны здагадваецца, што гэты дамок з Кушлянаў, што ў яго пакоях некалі адукоўваліся, набіраліся пісьменнасці юныя кушлянцы сярэдзіны XIX стагоддзя.

## Лабок

Той, хто чытаў Багушэвічава апавяданне «Сведка», мабыць, памятае, як яно пачынаецца.

Каруська, жонка селяніна, ад імя якога вядзецца аповед, ранюсенька, «яшчэ нават і дзяркач на балоце ні разу не дзёрнуў», — будзіць свайго гаспадара: «Юзук! Юзук! Ідзі ж ты касіць на Лабок…»

Назва Лабок згадваецца ў апавяданні колькі разоў. Я пацікавіўся ў кушлянцаў, адвольная яна ці мае якую прывязку да Кушлянаў. Размова засведчыла, што ў гэтым апавяданні ўсё праўдзівае, усё з кушлянскага жыцця: і людзі, і іх імёны, і згаданы Лабок. Лабком кушлянцы называюць пакаты пагорак, які пачынае разбег ад ускрайку ўсё тых жа Ваўкелаў і сягае да Трахімоў. Гэта за Багушэвічавай сажалкай, праваруч.

Пра гэты Лабок у апавяданні сказана так: «А той Лабок, каб ваша ведалі — дык чысты лабок. Як пойдзеш касіць, дык сцімбіркі толькі дзылінкаюць ля касы ды казельчыкі скачуць, а сена толькі, сколькі валасоў вунь на галаве ў пана суддзі (адзін лысы быў)…»

Да гэтых слоў дадамо: з той пары, як пісаў Багушэвіч гэтыя радкі, сена на Лабку не прыбавілася ні на чуб. Па-ранейшаму тут дзылінкаюць пад касою сцімбіркі (сівец) ды казельчыкі (конікі) скачуць. Ну, а дзе гэтая мясціна — мы ўжо ведаем. Яна, між іншым, добра відаць кожнаму з падворку Багушэвічавай сядзібы. Як станеш ад ганку з поўдня, дык і той Лабок увесь перад табою як на далоні. Яшчэ кушлянцы прыгадваюць, што на гэтым Лабку, на ўскрайку, паблізу шнуроў, раслі тры выносныя старыя хвоі. На адной з іх, згадваюць, была выразана дата: «1812». Дзве з іх зніклі неяк непрыкметна. Самую ж прыгожую спілавалі ў 1950 годзе. Некаторыя кушлянцы надта яе шкадавалі, плакалі па ёй. Кажуць, пад яе часта хадзіў Багушэвіч. Цешылі гэтыя сосны сэрцы ўсіх кушлянцаў. Яны надта ўпрыгожвалі Лабок.

## Каплічка

Гістарычная на Багушэвічавай сядзібе і драўляная, на чатырох круглячках, пад гонтавай стрэшкай крыж-каплічка. Прытулілася яна пад экзатычнай лістоўніцай на скрыжаванні ялова-каштанавай прысады з колішнім гмінным трактам. Каплічка — на мураваным падмурку. Перад уваходам у яе — пляскаты камень-парог. Мае яна няхітрую аздобу: з трох бакоў — плоцік. З боку хаты і двара гэты плоцік разарваны невысокімі стаячкамі, якія імітуюць уваход у каплічку. Гісторыя гэтай каплічкі, паводле сямейнага падання, такая.

Пасля паўстання 1863 года царская адміністрацыя разам з духавенствам пачала, паводле выразу самога Ф. Багушэвіча, наварочванне беларусаў-католікаў у праваслаўе. Гэты прымус, як і ўсялякі іншы, выклікаў абурэнне ў паэтавай душы. Ён выказаў яго ў вядомым вершы «Хрэсьбіны Мацюка». Але не толькі ў ім. Паводле слоў Станіславы Тамашэўскай, свой пратэст ён яшчэ выявіў і згаданай каплічкай. Збудаваў яе паэт з бацькам і

акалічнымі сялянамі, суседзямі, за адну ноч. Гэта быў, на думку Багушэвічавай унучкі, доказ вялікай адвагі яе дзеда ў той трывожны, бяспраўны мураўёўскі час.

У 1929 годзе каплічку замаляваў вядомы мастак Язэп Драздовіч. Яго малюнак і дае нам уяўленне, як выглядала Багушэвічава каплічка да рэстаўрацыі. На Драздовічавым малюнку мы яшчэ бачым пры ўваходзе ў каплічку крываваценькі ядлоўчык, які пасадзіў сам паэт. Некалі каплічка была пафарбавана ў зялёна-шэры колер, што імітавала даўніну. Адзін раз папраўляў яе і Багушэвічаў сын Тамаш. Сваёй каплічкай Багушэвічы моцна апекаваліся. Яна для іх была сядзібнай святыняй. Ці то ехалі куды, ці вярталіся, заўсёды прыпыняліся ля яе, жагналіся, казалі малітвы, прасілі ў Бога дарогі без прыгодаў і толькі пасля гэтага выпраўляліся ў свой шлях. Тое самае рабілі і падарожныя, якім даводзілася ісці ці ехаць паўз Багушэвічаву сядзібную каплічку. Яны таксама, згледзеўшы між дрэў гэтую маленькую сядзібную святыню з фігуркай раскрыжаванага Хрыста, хвалілі Бога, жагналіся. Сам жа Францішак Багушэвіч, згадваюць, заўсёды, перш чым брацца за пяро, прасіў у Бога натхнення, і Бог звычайна даваў яму гэтае натхненне.

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу не драў,
А прад большым не корчыў спіны,
Каб грэх свой прад сабой пазнаў,
У другіх каб не відзеў віны…
[…]
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умёрці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд…

Багушэвічава сядзібная каплічка шмат чаго памятае, шмат чаго можа распавесці чуйнаму сэрцу! Не адзін раз была сведкай

паэтавых шпацыраў на Лысую Гару, розных яго настрояў. Можа, яна і аберагала песняроў дамок, які сёння для нас таксама святыня, ад розных войнаў і катаклізмаў. З цягам часу Багушэвічава сядзібная каплічка атрымала сімвалічны назоў — «Раскрыжаваная Воля». І гэты назоў адпавядае паэтавай сутнасці:

…каб сто катоў
Дралі мне скуру, пяклі на агню,
Я веры сваей тыкі не змяню!

— гаворыць Францішак Багушэвіч вуснамі свайго героя Мацея ў вершы «Хрэсьбіны Мацюка».

## Каштанавая прысада

Францішак Багушэвіч вельмі любіў свае Кушляны. Тут ён заўсёды пачуваў сябе лёгка, вольна. Гэтую раўнавагу, суладдзе надавала яму кушлянская прырода. Асабліва добра ён пачуваўся, калі няспешна гуляў між каштанавай прысады, што адразу пачыналася за каплічкай і цягнулася адтуль да лесу. Ісці гэтай прысадай заўсёды настраёва і вабна, умей толькі прыкмячаць яе хараство. Вось першыя каржакаватыя старыя каштаны. Між імі выглядваюць з травы буйныя, як сланечнікі, белыя рамонкі на высокіх сцяблінах. Кожны з іх — цуд! Дзе-нідзе трапляюцца і жоўтыя. У прысадзе суцішна, толькі таямніча, пра штось вечнае, шапоча лістота. Трава абапал высокая, у пояс. Над ёю, нібы грамафончыкі, буйныя блакітна-сінія званочкі. Яны сваім колерам асвечваюць спрэс аднастайна зялёны травяны дыван. Ад іх радасна воку і душы. Напаткаеш іх — і нешта хочацца ім сказаць, мовіць да іх як да жывой істоты. Бывае, штось і скажаш. А бывае, толькі вачыма ўсміхнешся і ідзеш далей. З травы выглядаюць сунічкі, трапляюцца сыраежкі і нават падасінавікі. Можна тут і баравіка падняць. У любую пару года гэтая прысада мае сваю вабу. Асабліва яна прыгожая ў траўні, калі каштаны цвітуць на поўную моц. Тады тут такое хараство, што вачэй не адвесці. Здаецца, толькі б гэтай прысадай і шпацыраваў, наталяўся б гэтым цудам. Некалі яна была спрэс з адных каштанаў. Зараз

тут шмат прагалаў. Іх месца захапілі бярозы, вішняк, дубкі, ляшчына. Усе яны самасейкі і растуць як патрапіць: купкамі і па адным, далей і бліжэй ад дарогі. Каштаны ж высаджаны як пад шнурочак, роўненькім шарочкам. Паміж дрэвамі шэсць-сем метраў. Больш-менш сваё пачатковае аблічча каштанавая прысада захавала на цэнтральным прамежку, праваруч. Тут ацалела аж цэлае прасла каштанаў. Паводле згадкі Станіславы Тамашэўскай, садзіў гэтыя каштаны сам паэт. Садзіў кволенькімі дубчыкамі, а зараз вунь якія павырасталі прыгажуны! Мінае пяць-шэсць хвілін нетаропкай хады — і каштанавая прысада прыводзіць нас да слыннай кушлянскай Лысай гары. Яна ад нас злева, там, дзе прысада зліваецца з лесам.

## Лысая гара

Лысай гарой у Кушлянах называюць невысокі прадаўгаваты грудок пры дарозе на ўскрайку лесу. Чым жа ён славуты? Згадваюць, што на гэтым грудку Багушэвічы любілі правіць розныя святы. Найчасцей вясновыя і летнія. Прыкладам, гуканне вясны, Купалле. Улетку часта любілі бавіць тут час і Багушэвічавы госці. Бралі, бывала, з сабою самавар, пілі гарбату. Гарэла вялізнае, аж голле на дрэвах лізала, вогнішча, іграў грамафон. Госці гаманілі, спявалі. Было весела, шумна. Надаралася, весялосць гэтая не сціхала да самае раніцы.

Некалі на Лысай гары была альтанка. Раслі тут тры выносныя сосны. Мабыць, пад іх пошум і напісаліся радкі верша, які гэтак і называецца — «Шумяць сосны».

На вяршынях сумна сосны
Зашумелі ціха,
Невясёлыя іх вёсны,
Бо наўкола ліха.

Бо наўкола пні, магілы,
Гора і няволя,
Вецер нішчыць рэшту сілы,
Рвуцца буры з поля…

І шумяць, нібы сіроты,
Нібы рэкі ў горах,
Бо не ведаюць, хто потым
Попел іх прыгорне?..
[…]

Іх дубы абаранялі,
Кожны — нібы волат,
Грабы вежамі стаялі,
Людна было ўкола!..

Цяпер на Лысай гары рэдка бывае людна. Хіба якія пілігрымы сюды завітаюць, грыбнік зойдзе. А так тут пануе ціша і спакой. Але і ў гэтай цішы чуйнае сэрца можа ўлавіць даўно адшуганыя гады і падзеі.

Бог надзяліў Кушляны і яшчэ адной Лысай гарой. Яна за Ваўкеламі, на другім баку. От гэтая дык і напраўду чыста лысая, як голае калена. На ёй не расце ні кусточка, ні дрэўца. Адно маўклівыя камяні ды living рознае дробнае сухазелле. Над ёй нават і птушкі рэдка лятаюць. На гэтай гары пры саміх Ваўкелах і правілі свой баль колісь розныя вядзьмаркі. На Купалле тут свіст, смех, бязладная гамана, улюлюканне…

З гэтага выходзіць, што Багушэвічы жылі між дзвюх гор, у д’ябальскім полі. Але ў хрысціянаў супраць усялякае нечысці ёсць абарона — крыж.

## Ідзіце ў Кушляны смела

Розныя гістарычныя падзеі — ці былі яны вялікія, ці малыя — не міналі Кушлян, хоць яны, здаецца, наводшыбе ад вялікіх шляхоў. Асабліва напружана пачувалі сябе Кушляны падчас паўстання 1863 года. Кушлянскія лясы проста віравалі паўстанцамі. Самі паўстанцы баяліся заходзіць на сядзібы. А калі і заходзілі, то выдавалі сябе за купцоў валоў.

От аднаго разу паўстанцкі гурт падышоў блізка да Кушлянаў, стаіўся ў ляску на падыходзе да сядзібы. Пачалі радзіцца, каго паслаць на выведку. І раптам адзін з паўстанцаў сказаў:

— Я пазнаў… Гэта Кушляны! Ідзіце ў Кушляны смела! Там жывуць Багушэвічы!

Праз нейкі час пасля выведу да паўстанцаў верхам на кані прыскакала дзяўчына, расказала, што робіцца ў наваколлі Кушлянаў, з кім і праз каго трымаць сувязь. Пасля накарміла паўстанцаў умлелай капустай з баранінай. Гэта была Францішкава сястра Ганна. І ляцела яна на сваім кані якраз той прысадаю, што вядзе ад сядзібы да векапомнага кушлянскага валуна.

На сувязь з паўстанцамі прыходзіў і малодшы Францішкаў брат Валяр'ян. Самога Францішка той парою ў Кушлянах не было. Ён змагаўся за волю Беларусі ў іншых мясцінах.

І дорага ж абышлася Багушэвічам тая Ганніна ды Валяр'янава сустрэча з паўстанцамі! Усіх Багушэвічаў арыштавалі і пасадзілі ў ашмянскі астрог. Усім ім пагражала высылка на Сібір, а фальварак трапляў пад секвэстр — канфіскацыю. Але неяк усё абышлося. Знайшоўся якісь уплывовы апякун і абараніў Багушэвічаў ад расправы. Пра ўсё гэта распавядаюць дакументы таго часу.

## Крыжы, крыж-каплічкі

Ужо згадвалася: у пару Францішкавага маленства, дый раней, Кушляны нагадвалі старасвецкі кут з усімі яго атрыбутамі. Колісь тут пры кожным падворку, на ўсіх ростанях дарог былі крыжы-абярэгі. Яны-то і аберагалі кушлянцаў і іхнія сядзібы ад рознай нечысці. Больш заможныя кушлянцы — фальваркоўцы — ладавалі на сваіх сядзібах каплічкі. Мелі сваю каплічку апрача Багушэвічаў і Мніховічы. Пазней гэтую каплічку пачалі называць Тунінай. Туня была ў шлюбе з Янам Мніховічам, жыла ў ягонай гасподзе, то і Туніна. Кушлянцы часта бачылі Туню з малым Франусем укленчанай ля гэтай каплічкі.

Свой сядзібны крыж-абярэг мелі і самыя блізкія Багушэвічавы суседзі — Маркоўскія ды Альхімовічы. Іхні крыж таксама быў усталяваны пры дарозе, пры заезнай браме на падворак. Альхімовічаў крыж-абярэг і Багушэвічаву крыж-каплічку адмяжоўвалі толькі памежныя прысады.

Заўсёды лічыўся ў Кушлянах скрутным вадацечны кут, вадацечная нізовіна. Тут, як і ў Ваўкелах, таксама часта надараліся

розныя здарэнні, прыгоды. То і на Вадацечы на скрыжаванні дарог спрадвеку стаяў крыж-абярэг. Як і ўсе хрысціяне, кушлянцы шанавалі свае крыжы-абярэгі, клапаціліся пра іх, аздаблялі ручнікамі. На ўсіх іх былі ўкрыжаванні. Усе яны мелі агародкі ды іншы рыштунак.

Напрыканцы Кушлянаў, згадваюць, калісь быў і яшчэ адзін незвычайны крыж. Высокі, суровы. Праклінальны. Пра гэты крыж такая гісторыя.

Адна каталічка — Бурсакавічанка — выйшла замуж за бурлака. А бурлакамі ў Кушлянах называлі старавераў з Пскоўскай і Чарнігаўскай губерняў. Пасля шэсцьдзесят трэцяга года шмат іх пасялілася на Смаргоншчыне ды Ашмяншчыне. Выйшла, значыцца, Бурсакавічанка за іншаверца. Дык ксёндз за гэта так абурыўся на гэную Бурсакавічанку, што загадаў у канцы Кушлянаў, дзе яна нарадзілася, паставіць па ёй вялікі крыж, які азначаў, што яна за жыццём пагрэбена.

Падчас рэстаўрацыі паэтавай сядзібы праектоўшчыкі захавалі добрыя кушлянскія традыцыі абярэгаў, усталявалі ў Кушлянах і колькі дэкаратыўных прыдарожных каплічак. Усё гэта адухаўляе Кушляны.

## Барок

Пра кушлянскі куточак з назваю Барок я чуў і даўней. Казалі, што колісь гэта была найпякнейшая мясцінка ў кушлянскай ваколіцы. Пекнату ёй надавала найперш пяцісотгадовая прыгожуня-сасна. Яна расла на ўскрайку маладога ляска і прываблівала сваёй прыгажосцю кожнага, каму даводзілася ісці ці ехаць гэтай мясцінаю. Ёю ўсе цешыліся, да яе ўсе прызвычаіліся. Пад яе шатамі бавіла час не адно пакаленне кушлянскай дзятвы. Пад ёй не адзін раз бавіў час з кушлянскімі дзецьмі і Францішак Багушэвіч. Яна яму таксама была любая і дарагая. Сталым чалавекам ён таксама не мог ёй нацешыцца. Высокая, разлапістая. Голле яе з поўдня звісала ледзь не да самае зямлі. З поўначы ствол быў трохі аголены, і гэта надавала кушлянскай сасне яшчэ большую маляўнічасць. Яна такі

і напраўду была красуня. Голле пругкае, пакручастае, сама статна-лагодная. Гэтак і прасілася на палатно мастака. А яе і малявалі. І фатаграфавалі. Менавіта фатаграфія, зробленая яшчэ ў перадваенную пару, і данесла да нас яе падабізну ва ўсёй яе красе.

Гісторыя гэтага здымка такая. Жыў колісь у Кушлянах Каролік Альхімовіч. Ён быў сынам Станіслава Альхімовіча. Юнаком, яшчэ ў даваенную пару, займеў такую рэдкую для вёскі рэч, як фотаапарат. Вось ён адным летам і сфатаграфаваў найбольш цікавыя і значныя на паэтавай сядзібе і ў яе наваколлі памяткі: сядзібную Багушэвічаву крыж-каплічку, валуны «Памяці Ф. Багушэвіча». І славутую кушлянскую сасну. Яна і з фотаздымка глядзіцца карцінна, от нібыта сышла з шышкінскіх палотнаў. Цяпер такіх красуняў на Беларусі амаль няма. На ўскрайку Барка ёй было колісь прасторна і сонечна. Ніхто не замінаў ёй расці так, як хацелася. І яна вырасла ўсім на ўцеху і радасць, адметная, з сваім непаўторным абліччам. Яна памятала ўсіх Багушэвічаў і каб магла гаварыць, распавяла б нам пра іх шмат-шмат чаго цікавага, пра што мы ўжо ніколі-ніколі не даведаемся. На жаль, нічога на свеце не бывае вечнага. Знікла з кушлянскіх краявідаў і прыгажуня-сасна. Знікла неяк непрыкметна. Спачатку пачала засыхаць верхавіна. Пасля спакваля адмерлі ніжнія лапы-галінкі, і сталася яна з сасны-красуні нежывой сухадрэвінай. З яе ўжо і кара пачала адвальвацца. Тады хтось з кушлянцаў пусціў яе на дровы…

Кушлянцы вельмі шкадавалі сваю сасну-прыгажуню, бедавалі па ёй, як па нябожчыку. Спакваля з памяці пачаў сцірацца і яе вобраз. Памятаўся толькі агульны абрыс. І тут раптам высвятляецца: у рупнага колішняга кушлянца Кароліка Альхімовіча маецца здымачак гэтай прыгажуні. Ён нам дапамог уявіць яшчэ адзін непаўторны кушлянскі куточак з часоў Францішка Багушэвіча і ягоных сучаснікаў.

# Ой, калючы ялавец

У адной з песняў Францішка Багушэвіча «Сватаны» співаецца:

> Ой, калючы ялавец, —
> Ягадкі салодкі.

Як згадваюць паэтавы родныя, прынамсі, унучка Станіслава Тамашэўская, ялавец (ядловец) быў адным з самых любімых Багушэвічавых дрэўцаў. Ён прывабліваў яго сваімі незвычайна курчавымі згорнутымі шатамі. Гэтыя шаты нагадвалі яму барадатых гномікаў, параскіданых па пагорках. Іх колісь у Кушлянах было цэлае войска. Здавалася, калі-небудзь гэтае войска возьме і зрушыць з свайго месца. Тады трымайся, свет! Ну але гэта так толькі мроілася ў галаве. Ядлоўчыкі з кушлянскіх пагоркаў нікуды не краталіся. Адно толькі з кожным годам іх усё прыбаўлялася ды прыбаўлялася. Але кушлянцы з гэтага не наракалі. Галінкамі ядлоўчыку яны колісь вэндзілі кумпякі, саланінку. От жа яны смачныя ўдаваліся! Падабаўся Францішку Багушэвічу і водар самога гэтага дрэўца: такі смаліста-казытлівы, церпкі, нагадваў пах шыпру. Ну а ўжо пра ядлоўцавыя ягады і казаць няма чаго! Яны і для вока любыя, і для здароўя карысныя. Наварам з іх некалі людзі лагодзілі хворыя ныркі. Якраз у апошнія гады Францішак Багушэвіч хварэў на ныркі і стараўся спажываць навар з ядлоўцавых ягад. А іх можна было збіраць не толькі ўвосень, але і зімою. Бывала, падыдзеш да заснежаных ядлоўцавых шатаў, разгорнеш, а там — аж чорна ад ягад. А калі ўважліва прыгледзішся, то сярод чорных з блакітным адлівам ягад можна ўбачыць і зялёныя. І не толькі зялёныя, але і шэрабурыя, сіня-чорныя. Гэта залежыць ад таго, з якога года ягада. Чатыры гады трэба, каб ядлоўцавыя ягады выспелі. Затое сваімі лекавымі якасцямі пры прастудах яны не саступаюць і малінам. А яшчэ з ядлоўцавых ягад квас, піва, морс!..

# Трахімы

Праўду кажа прымаўка: хто шукае, той знаходзіць. Мне здавалася, што я ўжо няблага ведаю Кушляны, ведаю кожную паэтаву сцяжынку, кожны лапік, дзе ступала яго нага. Але вось надарылася пазнаёміцца з нашчадкамі колішніх Багушэвічавых суседзяў — Марыяй і Юзафам Каспяровічамі, і яны адкрылі мне яшчэ адзін кут у Кушлянах. Трахімы, невялікае, хат на пяць, селішча паблізу паэтавай сядзібы. Калісьці ў гэтых Трахімах жылі Марысіны і Юзуфавы дзяды — Юзук і Каруся Каспяровічы. І от высвятляецца, што Францішак Багушэвіч сябраваў з Каспяровічамі, часта заходзіў да іх. Бывала, зойдзе ў хату, сядзе на зэдаль, нагу за нагу закіне, і пачынаецца між ім і Юзуком доўгая, разважная гутарка. А Юзук, трэба сказаць, быў добры апавядальнік. Як зачне што-кольвек апавядаць, дык словамі карункі вяжа. Слова за слова ў яго чапляецца. Мог з гадзіну пра самую нязначнасць гаварыць. Іншы тое самае адным словам, адным сказам перадаў бы, а ён цэлы малюнак намярэжыць. Багушэвіча ў Юзуковых апавяданнях вабіў лад мовы, думак і разваг. Знешне гэта было нешта такое гулліваквяцістае, што пераказаць можна, а перадаць немагчыма, а калі і перадасі, то ад гэтага застануцца адны бляклыя выжымкі, якія ўжо не хвалююць ні душу, ні сэрца. Тады Багушэвіч пачаў неўпрыкмет запісваць цэлыя кавалкі сваіх дыялогаў з Юзуком. Запісваў і смакаваў. Ото ж гэта мова, ото ж гэта гаворка! Больш нічога ад Каспяровічаў Багушэвічу не трэба было, абы паслухаць іх. Праўда, гэтыя сціплыя Багушэвічавы жаданні выклікалі нездавальненне ў Юзуковай жонкі. Звычайна, калі прыходзіў Багушэвіч, яна пачынала нервавацца: «От зараз пан заладзіць на цэлы дзень… Тут самая праца, спраў не абабрацца. У полі ўсё гарыць… Сена ў чубы не звязанае, а яны языкамі пра нешта менцяць. Ды яшчэ пра адно і тое самае ды па сто разоў. Толькі пан часу займае».

Багушэвіч заўважаў гэтую Карусіну незадаволенасць і звычайна казаў: «Ты, Каруліна, не злуйся. Скажы толькі, колькі будзе каштаваць наша гаворка, і я людзей прышлю, і яны ўсё нагоняць, адробяць», — і працягваў далей сваю няспешную гамонку з Юзуком. Улетку яны любілі калі-нікалі пасядзець у

халадку, на вольным ветры, пад старой разгалістай, на чатыры верхавіны, ліпай. Гаварылі пра living рознае. Пра камяні, напрыклад, пра пчолы, пра тое жыццё, якое іх чакае. Марыя і Юзаф памятаюць іх дыялогі, вядома, з распаведаў сваіх бацькоў. Нібыта Багушэвіч казаў Юзуку:

— От, Юзук, прыйдзе такі час, такая пара, што лес мой будзе не мой. І твой лес будзе не твой. Усё гэта будзе ўсіхняе. І камяні ўсе з поля звязуць у крушні. Камень будзе такі дарагі, такі каштоўны, што ты пра гэта мо і не здагадваешся. Машыны яго пазвозяць. Мы гэтага мо і не прычакаем, а дзеці нашы, унукі прычакаюць…

Шмат мінула часу з той пары. Змянілася не адно пакаленне кушлянцаў. Але ў людской памяці і сёння жывуць усе лепшыя праявы паэтавай душы, сярод іх і тыя, якія меў наш пясняр з Каспяровічамі. Ацалела на старой Каспяровічавай сядзібе ў Трахімах і тая ліпа, пад якой Багушэвіч гутарыў з Юзуком, чытаў яму свае беларускія вершы. Праўда, бураю яе крыху разадрала, але свае красы і велічы яна з гэтага не вельмі страціла. Старая разлапістая ліпа па-ранейшаму апавядае чуйным сэрцам пра тыя мудрыя гамонкі, якія калісь вялі між сабою гаспадарлівы Юзук і яго дасціпны сусед і слынны паэт Францішак Багушэвіч. Між іншым, пад шатамі старой трахімоўскай ліпы Багушэвіч запісаў не адно народнае апавяданне, не адну песню, не адно паданне. Многія з іх патрапілі ў ягоныя кніжкі. Сярод іх і два народныя абразкі — «Сведка» і «Палясоўшчыкі». У іх мы лёгка пазнаём Юзука і Карусю Каспяровічаў, колішніх Багушэвічавых суседзяў з Трахімоў. Хто пажадае спазнаць іх бліжэй, пачуць іхнія жывыя галасы, перачытайце згаданыя абразкі — тады вам вельмі лёгка і цікава будзе вандраваць па Трахімах, яны не будуць для вас маўклівыя.

## Трыколі

Калі давядзецца вам у задуменні хадзіць па Багушэвічавай хаце, аглядаць яе пакоі, не прамініце нагоды падысці да вялікага венецыянскага акна. Зірніце ў яго — і вы ўбачыце ўдалечыні за

Ваўкеламі, сярод старасвецкіх дрэў, абрысы акуратненькага, на пагорках селішча. Гэта Трыколі, колішняя шляхецкая аколіца. У гэтых Трыколях за Багушэвічавым часам жыў вельмі кемны і паважаны чалавек — Сымон Клуйша. Ва ўсёй кушлянскай акрузе без яго не абыходзілася ні адна больш-менш важная падзея. Ці памёр хто, ці нарадзіўся, ці вяселле якое — усе па Клуйшу пасылаюць. Усе ідуць да яго, усе завуць яго, усе просяць: «Пане Клуйша, дапамажы!», «Пане Клуйша, парай…» І той ахвотна раіў, кіраваў. Усюды, куды клікалі, ішоў. У такія дні толькі і быў чуваць спаважны Клуйшаў голас: «Каліце гэтага парсючка! Гэтага бычка рэжце! А гэты хай сабе яшчэ гадуецца!»

Умеў ён кіраваць, умеў і ўсё абрабляць. Меў залатыя рукі. Бывала, за што ні возьмецца — кабанчыка абсмаліць ці сані зрабіць, — дык так абробіць, што аж залюбуешся, аж заглядзішся, ды яшчэ языком пацмокаеш. Рабіў ён усё акуратна, і сам вельмі ахайны і ўдалы быў чалавек. Не любіў нядбаліц і няўдаліц. Любае яго выслоўе было «пане ласкавы». Таму яго так і звалі. Ладзіў ён і з Багушэвічамі, па-суседску не адзін раз заходзіў да іх.

Пра яго распавядаюць такую гісторыю. Нібыта аднаго разу Багушэвічы садзілі бульбу. Поле было камяністае, а тут яшчэ і сохі не ідуць у зямлю, хоць ты плач: скачуць па камянях, скрыгочуць, аж душу задзіраюць. Дык аратыя свой гнеў на валах спаганяюць: тузаюць іх, крычаць, дубцамі ды пугамі сцёбаюць. Кажуць, Клуйша доўга глядзеў на гэтае мардаванне, усё чакаў, што аратыя спахопяцца, дадуць якой рады сваім сохам. А тыя хоць сабе што — самі пакутуюцца, потам абліваюцца, і жывёлу мучаць. Тады Клуйша не стрываў, раззлаваўся — быў ён да ўсяго яшчэ рашучы, настойлівы чалавек, — папраганяў парабкаў з поля, а іхнія сохі паламаў аб крушні. А сам дахаты пайшоў. Парабкі пабеглі, паскардзіліся Багушэвічу. Багушэвіч вельмі здзівіўся гэтаму Клуйшаваму ўчынку. Вырашыў высветліць, што ж такое сталася з Клуйшам. Не будзе ж такі чалавек без дай прычыны сохі ламаць.

Багушэвіч так-сяк па кладках прабраўся праз Ваўкелы ў тыя Трыколі, а там Клуйша ўжо па двары ходзіць, ходзіць спакойна, спаважна, нібыта нічога і не здарылася, нібыта нічога і не было. Багушэвіч да яго:

— Што гэта ты, Сымоне, такое павырабляў?

А той адказвае:

— То пане Багушэвіч, навошта вашы людзі быдла мучаць? Сохі іхнія нікуды не вартыя. Трэба такія сохі мець, каб не было чуваць, як яны ў баразну ідуць. Вось бярыце, пане ласкавы, мае, новыя, і садзіце сабе далей бульбу…

Гэтую гісторыю з сохамі распавёў Клуйшаў сын Уладзіслаў. У маленстве чуў шмат расказаў пра паэта ад старэйшых людзей. Нарадзіўся ён у самым канцы XIX стагоддзя, у 1899 годзе.

Сёння ў Трыколях ніхто не жыве. Але маляўнічыя трыколеўскія краявіды па-ранейшаму вабяць людское вока. Трыколі для Францішка Багушэвіча былі такія ж блізкія і дарагія, як і Кушляны. Іх аблічча, іх малюнак паэт насіў у сваім сэрцы ўсюды, дзе б ён ні быў, дзе б ні жыў.

## Паляўнічымі сцежкамі

Кушлянскія мясціны былі багатыя на дзічыну. Тут вяліся ваўкі, зайцы, лісы, дзікі, барсукі, асабліва было шмат кунаў (куніц). Іх і цяпер шмат у кушлянскіх лясах. Францішак ведаў павадкі кожнага з гэтых звяроў і не меў асаблівага клопату высачыць каторага з іх. Але не ў гэтым ён бачыў асалоду свайго палявання. Найперш яму радасць давала само сумоўе з прыродаю. Пасля віленскага смуроду і тлуму ён тут гагавеў душою. Ну, а калі ўжо надарыцца спудзіць якога соннага зайца, то не прапускаў нагоды стрэліць яму наўздагон: каб быў больш пільны, каб на вуха не глух. Уцячэ — яго шчасце. У ляжалага ж не б’юць… Пра такога ўцекача кажуць у Кушлянах: «Пайшоў на Жупраны».

У тым баку вялікія лясы былі. Як грыбнік ведае грыбныя мясціны, то гэтак Багушэвіч ведаў, дзе, у якім лесе ці пералеску якія звяры жывуць. Абы-куды не ішоў. Куны, скажам, любілі Агульніцу, зайцы — Ройсты.

Багушэвіч быў мірны з натуры чалавек, але да стрэльбы прывык з маладых гадоў. Як жа было жыць сярод залеглых лясоў, чорных пушчаў без зброі?! Трэба было і ваўкоў адпугнуць, якія тут хадзілі цэлымі гайнямі. Дый так з стрэльбаю было смялей

жыць, нават тады, калі яе ніхто ў рукі не браў. І была яна ў Багушэвічавай хаце не адна. Даўней жа стрэльба была патрэбна ў гаспадарцы гэтак жа, як граблі ці вілы.

Падчас сваіх паляўнічых вандровак Багушэвіч не прапускаў нагоды паслухаць і апавяданні бывалых людзей.

Аднаго разу яму напаткаўся ў Жупранскім лесе вельмі стары чалавек. Разгаварыліся — і дзядуля-патрыярх расказаў паэту-паляўнічаму, што ў маладосці ён на свае вочы не раз бачыў у гэтым лесе па сем мядзведзяў разам. Нават месца паказваў, дзе гэтыя мядзведзі яблыню-дзічку абіралі.

Найчасцей Багушэвіч вандраваў з стрэльбаю адзін. Але надаралася — хадзіў на паляванне і з сябрамі, сваімі аднадумцамі. Да такога палявання ён рыхтаваўся асабліва. Былі ў яго снегавыя лыжы з доўгімі вяроўкамі для кіравання, адмысловыя торбы-ладункі і іншы паляўнічы рыштунак — розныя вабікі, парахаўніцы, пасталы, хадакі з скуры.

Найшчаслівейшым чалавекам пачуваў сябе паэт у паляўніцкіх вандроўках. Урачыстая цішыня! Сасновы водар! Загадкавыя сляды звяроў! Снежныя мярэжы! А колькі размоў было пасля! Колькі ўспамінаў і згадак! Можна толькі пашкадаваць, што пісьменнік не пакінуў нам сваіх паляўнічых замалёвак, як гэта зрабілі Тургенеў ці Прышвін. Хаця і ў Багушэвіча была такая спроба. Згадаем хоць бы яго абразок «Палясоўшчык». Ён пачынаецца з апісання збору на паляванне, ці, як Багушэвіч яго яшчэ называе, — на ляпорт.

Ведаў Багушэвіч і народныя спосабы палявання: адкопванне лісіцы, сіло (вока) на зайцоў. Пра гэта згадваецца ў ягоных творах «Кепска будзе», «Песня».

Як паляўнічы, Багушэвіч выхадзіў усе кушлянскія лясы ўздоўж і ўпоперак. Ён ведаў там кожнае прыкметнае дрэва, кожны груд, кожную лагчынку, кожны яр, кожны выварацень. Мусіць, няма ў ваколлі Кушлянаў такога лапіка, дзе б не ступала яго нага.

Багушэвічава паляўнічая стрэльба, з якой ён абхадзіў усе навакольныя лясы, пратрымалася ў Кушлянах, паводле слоў паэтавай унучкі Станіславы, аж да 1919 года. У 1919 годзе яе канфіскавалі. Вісела яна ў паэтавай працоўні за бібліятэчкай. А з гэтай жа стрэльбай, выказвае меркаванне ўнучка, дзед, мабыць, на паўстанне хадзіў. Была то дубальтоўка.

## Пан, раскажы казку!

Францішак Багушэвіч любіў дзяцей. Згадваюць, вяртаючыся з палявання, ён часта падыходзіў да пастушкоў і доўга гутарыў з імі, распавядаў казкі, легенды, паданні і розныя іншыя цікавыя гісторыйкі. Яго моцна турбавала, што не ўсе вясковыя дзеці маглі вучыцца, хадзіць у школу. Шмат каго, згадваюць кушлянцы, ён павыцягваў за вушы ў людзі.

Успамінаюць, што з усіх кушлянскіх дзяцей паэт найбольш любіў суседскую дзяўчынку Гэлю Каспяровіч. Ён часта чытаў ёй свае вершы. А аднаго разу падарыў Гэлі кніжачку з беларускімі вершамі. Гэта была «Дудка беларуская». Гэля, дзяўчынка вельмі жвавая, рухавая, цікаўная, пачала распытвацца, хто ж гэта так хораша напісаў. А паэт ёй і кажа: «Гэта, Гэля, пісаў акурат такі самы чалавек, як і ўсе. От і ты, калі будзеш вучыцца і вывучышся, то напішаш яшчэ лепш і больш». І ўсё намаўляў Гэліных бацькоў, каб тыя аддалі дзяўчынку вучыцца, і нават зрабіў якіясь захады, каб свой намер спраўдзіць. Але Гэліны бацькі не падтрымалі паэтавага парывання: маўляў, навошта ёй тая вучоба — умее чытаць і досыць ёй гэтага пры гаспадарцы.

На Багушэвічавай сядзібе, згадваюць, былі колісь змайстраваны так званыя «гіганцкія крокі» — такая спартыўная гульня, забава з катаннем на вяроўках, замацаваных у металёвай круцёлцы на высокім слупе. Гэтыя гіганцкія крокі заўсёды збіралі шмат дзяцей. Гэта вельмі цешыла паэтаву душу.

## Пан Багушэвіч слухае...

Францішак Багушэвіч з малых гадоў прызвычаіўся да вопраткі з саматканага сукна. У юнацкія ды ў сталыя гады яму даспадобы была звычайная кушлянская марынарка. З гэтай марынаркай, ашмянскага крою, ён не расставаўся нідзе. У ёй, між іншым, мы бачым паэта і на шматлікіх ягоных здымках. Відаць, гэта была колісь вельмі зручная і практычная вопратка: не камечылася, добра грэла. Няблага, мусіць, стасавалася і з постаццю, з целам. Адным словам, за штосьці любіў наш пясняр гэтую ся-

лянскую світку. Аднаго разу прыехаў да яго ў Кушляны здалёк якісьці нетутэйшы панок па нейкай судовай справе. Падышоў ён да Багушэвічавай хаты — бачыць чалавека з раскідзістай барадой у грубай суконнай сялянскай світцы і пытаецца ў яго, дзе ён можа ўбачыць пана Багушэвіча.

Чалавек у світцы хітра прыжмураным вокам кінуў на залётнага госця і мовіў:

— Зараз я яго паклічу! — і знік у доме.

Праз колькі хвілінаў на парозе з'явіўся той самы прысадзісты чалавек з вялікай раскідзістай барадою, але ўжо ў чорным адвакацкім фраку і наўмысна ўрачыста апавясціў:

— Калі ласка, пан Багушэвіч вас слухае.

І такіх здарэнняў праз гэтую світку кушлянцы памятаюць нямала.

## Падлэбнікі

Багушэвічава зямля межавала з зямлёю Абцэвічаў. Але ж надта далося Багушэвічам гэтае суседства! Абцэвічы і кралі, і бралі. Надаралася не раз, быдлам пасевы дратавалі. І з людзьмі не надта ладзілі. На людзей глядзелі «цёнгле з-пад лэба». З-за гэтага іх называлі Падлэбнікамі, Падлэбічамі. Багушэвіч не ведаў, якой ім даць рады. Прапаноўваў ім цэлую валоку зямлі. Казаў, што і фальварак ім купіць, абы яны толькі ў другое месца з'ехалі. Аднак тыя не пагадзіліся. Навошта ім тая зямля! Навошта ім тое новае месца! Навошта ім гарбаціцца! Яны і з Багушэвічавага гатовага поля ды лесу нахапаюць, нацягаюць — нават вокам не плюснуць! Чаго яшчэ ад гэных Падлэбічаў чакаць! Падлэбічы ёсць Падлэбічы. Можна было якой рады даць гэтым Падлэбнікам праз суд. Але Багушэвіч перадумаў: ці не завялікі гонар было знанаму адвакату вадзіцца з гэнымі падлэбнікамі. Гэтак і мусіў да самага свайго скону суседнічаць з Абцэвічамі, зрэдку згадваючы, што суседзяў, як і бацькоў, не выбіраюць.

# Хамуцік

Жыў некалі ў кушлянскай старане Пятрусь. Быў ён з досыць заможнай сям'і. Вучыўся на святара. Але гэная ягоная вучоба трохі разладзіла ягоны розум. Ён маліўся за жывёлін, за жывёлак, за пташак. Казаў: «Усё жывое на свеце ад Бога. За ўсіх трэба казаць пацеры, маліцца!» Як толькі надыходзіў Вялікдзень, ён ішоў да Багушэвічаў і пачынаў свае літанні за ўсіх створаў божых — за гавядак, за свінак, кныркоў, цёлак і бычкоў, каб яны добра радзіліся, пладзіліся, каб іх усялякая пошасць ды мор абыходзілі. Найчасцей важдалася з Петрусём Багушэвічава супружанка Габця. Яна слухала ягоныя літанні. Напрыканцы сваіх модлаў Пятрусь пытаўся: «А ці можна, панечка, яшчэ памаліцца за хамуцік?» А хамуцікам на Кушляншчыне называлі кілбаснае кольца. Панечка, ведама, пагаджалася. І тут Пятрусь асабліва шчыраваў, бо ведаў: гэты хамуцік будзе яму платай за ягоныя модлы за жывёлак. І яно так і было. З-за гэтага Петруся часам і самога звалі Хамуцікам.

# Хованкі

Навасёлкаўскі граф Чапскі шукаў хаўрусу з гаспадаром Кушлянаў. І не дзіва! Францішак Багушэвіч — карэспандэнт «Віленскага весніка», знаны юрыст, адвакат! А жыццё такіх конікаў выкідвае, што адвакат можа ў любую хвіліну спатрэбіцца. То навасёлкаўскі граф рупіўся наладзіць з ім хаўрус, хацеў мець свайго адваката ў кішэні. Часта наязджаў у Кушляны, часам і з гасцінцамі, з падарункамі. Гэта кожны раз бянтэжыла Багушэвіча. Тут лета, гарачыня, спёка. Жніво. Людзі рупяцца да сёмага поту. А граф запрагае сваіх гарцуноў і коціцца ў вазку на госці. Мацею Бурачку гэтае гасцяванне як костка ў горле. І што ён робіць? Як толькі забачыць, што граф Чапскі ля сядзібнай брамы круціцца, дык ён нічком, нічком ды ў лес, як калісь падчас паўстання. Перабудзе там, пакуль Чапскі па Кушлянах круціцца. А пасля паціху вяртаецца дадому задаволены, што пазбег непатрэбнай размовы з графам.

# Пустэльнік

Пры дарозе, якая вядзе з Кушлянаў у Наздрачуны, ёсць Свіркава гара. Гэта зараз на мяжы з Наздрачунамі. Некалькі сот гадоў таму на гэтай гары жыў пустэльнік у невялікім буданку з адным акенцам. На гэтым адзіным ягоным акенцы заўсёды стаяў кубак з вадою. Людзі, якія ішлі ў Баруны ці Гальшаны маліцца, пілі гэтую ваду, клалі яму на тое акенца хто што мог, хто што меў. Сам ён людзям ніколі не паказваўся, ніхто яго не бачыў. Зімою, казалі, ён напускаў у сваю хатку шмат розных пташкаў і трымаў іх цэлую зіму. Вясною тыя пташкі разляталіся. Казаць казалі, але тых пташкаў у пустэльніка, як і яго самога, ніхто не бачыў. Але ён такі быў там, нават трапіў у Багушэвічаву вершаваную казку «Хцівец і скарб на святога Яна»:

Пры выгане ў вёсцы, ў самай перагонцы,
Была хата крывенька у адно аконца;
Ў хатцы адзінока жыў хцівец лянівы,
Што думаў без працы зрабіцца шчаслівы.
[…]
За мілю ж за вёскай ды быў лес закляты;
А хціўцу жа лес той якраз проці хаты,
Ў тым лесе заклятым не расло нічога,
Праз яго ніколі не ішла дарога…

Жыла ў тым лесе ў засценку ведзьма старая. Яе хатка таксама была паўнюсенька пташкавых галовак, скрыдэлак, ножак і цэлых паловак: тая свішча, там вішча, то крэкча, гэтая стогне, а другая клекча.

Гэтую вершаваную казку Францішак Багушэвіч напісаў у 1887 годзе, чытаў яе Элізе Ажэшцы ў Гародні пры зыркім полымі ў каміне. Казка гэтая вельмі ўразіла пісьменніцу. З гэтай нагоды яна пісала Яну Карловічу ў Варшаву.

# Жывая згадка

У 1898 ці ў 1899 годзе, яшчэ невялічкім хлопчыкам, разам з бацькам, вайсковым лекарам, наведаў паэтаву сядзібу стрыечны паэтаў унук Зыгмунт Абрамовіч. Кушляны тае пары і сам пясняр запомніліся яму так:

«Багушэвічавы Кушляны — гэта невялічкі фальварак без ніякага нахілу да “панскасці”.

“Стрый Францішак”, як яго называла большасць блізкіх — польская частка сям'і, хадзіў па тэрасе і ахвотна гутарыў з кожным, хто ўваходзіў у кушлянскую браму каля надта прыгожага крыжа. Першы раз я прайшоў цераз гэтую браму, калі мне было чатыры, мо пяць гадоў, — і зразумела, што ўсё гэта цяпер далёкае і заснаванае туманамі даўнасці — быццам сон.

Трэба сказаць, што песняра наагул лічылі за чалавека больш маўклівага, маўклівага не “па-адвакацку”.

Бацькі мае праводзілі зіму ў Маскве, а летам заўсёды бывалі на Беларусі, якую мой бацька лічыў сваёй бацькаўшчынай, — і ўсё тое, што я цяпер апісваю, было ў 1898–1899 гг. Мой бацька з “прысяжным паверaным” (так называлі адвакатаў) гутарылі “папросту”.

Можна толькі шкадаваць,  што пяцігадовы хлопчык не мог ведаць: беларускі пясняр чытаў свае творы. Я быў толькі бязвольным сведкам часткі творчага працэсу.

Аднойчы мы ўсе пайшлі ў поле, адкуль вазілі сена, і Багушэвіч падсадзіў мяне на высачэнны воз, кажучы: “Вось на гэтым паедзеш дадому!”

Я надта ўцешыўся, учапіўся за шнур — і мяне павезлі. Усё было б у парадку, калі б кушлянскі “грунт” быў гладкі. Праз усё жыццё я не бачыў такога ліку каменняў у адным месцы, як там. І вось у пэўным момант я лячу з гэтага возу і падаю на велізарны камень.

Трэба было бачыць, як злякаўся Багушэвіч, як схапіў мяне на рукі і сам панёс дадому.

У памяці асталося — воблік песняра, яго глыбокі голас і добрыя вочы…

Некалькі разоў пісаў да маіх бацькоў, пытаўся, ці не было якіх дрэнных вынікаў з маёй паездкі па сена.

Яшчэ раз убачыў Багушэвіча ў маіх дзядоў у Вільні, на жаль, гэта было толькі кароткае спатканне, калі я варочаўся дадому: пясняр ужо развітаўся.

Аб маім кушлянскім сене я шмат пазней распавёў беларускаму песняру Цішку Гартнаму, а ён падумаў ды параіў: “Ведаеце што, гэтыя рэчы трэба глыбока хаваць у памяці, бо наогул мы мала што ведаем аб нашых дзеячах. Прыйдзе час, калі будзем збіраць нават самыя няважныя факты”.

Я паслухаў Гартнага і ўспомніў цяпер».

## Дубелішкі, Лапішкі...

Пра Кушляны мы мусім ведаць усё ці амаль усё: кожны камень, кожны лапік зямлі, яго назву. Гэта ж усё наша гісторыя. То якую ж яшчэ назву згадаць? Можа, Дубелішкі — поле з раскідзістымі волатамі-дубамі? А можа, Вадацеч ці Лапішкі — доўгі пакацісты ўтравянелы яр з сухім рэчышчам між Багушэвічавай і Ясевічавай сядзібамі?

Лашчыць сэрца сваёй мілагучнасцю і назва Яляшка — цяпер чыстае поле, а даўней парослае маладзенькімі ялінкамі — яляшкамі. То таму і такая назва.

Ну, а ці ведаеце вы, ці здагадваецеся, якая мясціна ў Кушлянах мае назву Падшаральнікі? Падшаральнікамі кушлянцы называюць узлесак за Дубелішкамі, за дубелішскім полем. А наогул падшаральнік, шарала — жорсткая, шчацінападобная трава, сівец. У народзе яе яшчэ называюць казліная барада, дзярніца.

А чым, скажыце, не назва Ройстры — верхавое балота з хмызам і травой.

Вакол Кушлянаў шмат лясоў, і ў кожнага з іх таксама адметная назва. Найбліжэйшыя з іх — Агульніца, Куплі, Пасека. Затым ідуць Сякеркі, Паройсці, Залеглы лес, Табары, Шатроўшчына, Мокрае… А вось назвы палеткаў — Падкудзеркі, Папярэчкі, Лабок, Шнуры, Ксянжацкае…

Усе гэтыя назвы — моўная творчасць народа. Імі карысталіся не адно стагоддзе і не адно пакаленне Багушэвічаў. Усе гэтыя

назвы часта гучалі ў іхняй гаворцы. Ведаў іх, безумоўна, і наш пясняр. Яны будуць жыць, пакуль будуць Кушляны, пакуль будзе ў іх жыць памяць пра паэта.

## Святое Пісанне, рэліквіяры

У Францішка Багушэвіча была вялікая бібліятэка. Вялікая, разнамоўная і разнастайная. Згадваюць, калі паэт пераязджаў з Вільні ў Кушляны, ягоныя кнігі перавозілі аж на дзвюх пароконных фурманках. У ягонай сям'і чыталі кнігі на розных мовах: на рускай, польскай, нямецкай і французскай. Нямала ў Багушэвічавай бібліятэцы было праўнай, юрыдычнай літаратуры. На жаль, усе гэтыя кнігі загінулі. Загінулі праз цемнату, слабую дасведчанасць тых, да каго яны патрапілі пасля смерці Францішка Багушэвіча і ягоных нашчадкаў. Імі распальвалі… печ. Але ўсё ж адна кніга з Багушэвічавай бібліятэкі ацалела. Гэтай кнігай сталася «Biblia swienta to iest: Wsystko Pismo Swiente Starago i Nowoego Przymierza», выдадзеная ў 1869 годзе ў Варшаве на польскай мове. Яна была разам з іншымі кнігамі. Але пусціць яе на глум ні ў каго не паднялася рука. Разумелі — гэта Святое Пісанне, Святое Пісьмо. Знішчэнне такой кнігі — вялікі грэх. Гэта і паратавала Біблію Францішка Багушэвіча. Цяпер яна ў аддзеле рэдкай кнігі акадэмічнай бібліятэкі суседняй Літвы. На ёй Багушэвічавай рукою напісана: «Францішак Багушэвіч году 1875, лістапада 26/14 дня ў месце Канатопе Чарнігаўскай губерні ад жаўнера Францішка Кавальчука 5-й батарэі набыў за 5 злотых».

Багушэвіч добра ведаў Святое Пісанне, часта ў сваёй адвакацкай, ды і мірской практыцы спасылаўся на яго. Прыкладам, у 1884 годзе ён пазначыў: «5 (17) з вялікім поспехам абараняў хлапчукоў — вызваленыя… Я прыводзіў Лока, Гамбрэ, Астрагорскага, Пірагова і іншых і нават Хрыста — "калі хто аднаго з іх разбэсціць…"» (словы з Евангелля). З набытай на Украіне Бібліяй Францішак Багушэвіч не расставаўся. Яна ўсюды вандравала з ім, скрозь была ягонай першай кніжкай. Ужо цяжка хворы, ён амаль штодня чытаў і перачытваў яе, шукаючы суцяшэнне сваёй душы.

Усе Багушэвічы былі людзьмі глыбока набожнымі, рэлігійнымі. Згадваюць, на сцяне пры бацькоўскім ложку вісеў вялізны драўляны крыж з фігуркай Хрыста. Пасля, як была забудавана сядзібная каплічка, гэты крыж перанеслі з хаты ў яе.

Быў у Багушэвічаў, вядома, і свой хатні іканастас. Колькі сямейных духоўных рэліквіярыкаў, як гэта нядзіўна, захавалася да нашых дзён. Гэта ў прыгожай авальнай меднай акладцы раскладны медальён з імёнамі трыццаці святых і іхнім целам. Медальёнчык вельмі гожы. З каляровымі лікамі, з папяровай аздобай пад золата па авалу на блакітнай аснове. Гэтакі ж прыгожы і шкаплерык — ладанка ў чорнай суконачцы з наразнымі зубчыкамі па краях, з дзвюма аздобленымі каляровым бісерам падушачкамі з манаграмамі. Першая з іх азначае Езус Хрыстус Збаўца. Другая — Марыя. Гэтыя абедзве рэчы некалі належалі Францішкавай сястры Ганне. Гадоў з дзесяць таму іх перадаў Беларусі ўнук Францішкавай сястры Ганны Янка Тарчэўскі. Перадаў ён таксама і яшчэ адзін бабулін рэліквіяр. Ён таксама раскладны, але значна большы, на ім таксама імёны шматлікіх святых з іх целамі. Абклады абодвух згаданых медальёнаў заводскага вырабу, зграбныя і прывабныя. Кожны з іх мае свой футаральчык. Футаральчыкі гэтыя з адной і той жа, у клетку, тканіны, мабыць, тканай кімсьці з Багушэвічаў. Сярод ахвяраваных унукам Францішка Багушэвіча ў Беларусі рэліквіярыкаў ёсць і яшчэ адзін. Ён вельмі адметны. Адметны тым, што самаробны. Расказваюць, што гэты рэліквіярык Францішкава сястра мела з сабою ў астрозе, куды яна трапіла за спрыянне паўстанцам 1863 года. Магчыма, там яна яго сама і змайстравала. Рэліквіярык гэты квадратны, зладжаны з якогась выпадковага, няроўна абрэзанага шкельца, абкладзенага шматком густа чырвонай, з якімсь пачварным узорам шпалеры. Колькі ж гадкоў гэтым святым рэчам? А бадай што каля ста сарака. Гэта што да самаробнага рэліквіярыка. А медальёнам, думаецца, і болей. Пэўна, з імі на набажэнства хадзілі яшчэ Францішкавы бацькі, а пасля ўжо рэчы перайшлі да іхніх нашчадкаў. Ва ўсякім разе яны з Кушлянаў, з кушлянскага дома Багушэвічаў. Яны нагадваюць нам пра нашых слаўных продкаў, іхнія думкі, настроі, малітвы.

# Шкаплерык

У вядомым Багушэвічавым творы «Балада» чытаем:

Ануфры з жалю расхлістаў грудзі,
Зняў крыжык, скінуў шкаплеры.
«Глядзіце, — кажа, — добрыя людзі,
Вот скарб мой — знак маей веры…»

Дык што ж гэта за знак такі — шкаплеры?

У пятым томе «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» гаворыцца: «Шкаплеры. Ладанка. Ружанец на шыі насілі, шкаплеры былі, іконачка маленькая, палатняная, з святой на ланцужку. Шкаплеры — шнурок і хрэст нарысавана, цяпер — медалік металічны. Тэй, хто носіць шкаплеры на шнурку, за яе моліцца. Шкаплеры — шарсцяная суконачка, вышыта на ёй нешта, багародзіца». З гэтых мовазнаўчых занатовак відаць, што шкаплер — гэта ладанка з абразком святых на суконачцы ці на палатне, якую вернікі каталіцкай канфесіі насілі на шыі. Гэта быў нібы абярэг ад усялякай нячыстай сілы.

Францішак Багушэвіч шкаплер называе сваім скарбам. Шкаплеры-абярэгі некалі насілі і Багушэвічы. Прынамсі, паэтава сястра Ганна. Яе шкаплер, нягледзячы, што мінула шмат часу з тае пары, як жыла Ганна, дайшоў да нас. Вось ён перад намі, цалюсенькі, жывы, як новы, нібыта ўчора зроблены, выштукаваны: дзве падушачкі з чорнага сукна, расшытыя бісерам. На падушачках манаграмы. Гэтыя манаграмы расшыты на арнатах, алтарах, харугвах. Падушачкі злучаныя між сабою спосабам выцінанкі — і гэтае выцінанне надае шкаплеру завершанасць, цэласнасць, суладнасць, прывабнасць.

Сам шкаплерык невялікі, але важкі. Важкасць яму надае бісер, якім расшыты ладунак. Некаторыя мяркуюць, што падшыўка шкаплера набіта попелам. «Попел б'е ў грудзі!» Але гэта толькі здагадкі. Усе, каму я толькі не паказваў гэты кушлянскі шкаплер, былі ад яго ў захапленні. Асабліва жанчыны. Некаторыя з іх нюхалі яго. Казалі: пахне свечачкай. Зараз гэты шкаплерык, як і ўсе астатнія Багушэвічавы рэліквіярыкі,

у Чырвоным касцёле. Пробашч Уладзіслаў Завальнюк мяркуе стварыць пры Чырвоным касцёле музей даўнейшай рытуальнай атрыбутыкі.

## З Багушэвічавага дома

Амаль да апошняга часу па-за ўвагаю ўсіх заставаліся Багушэвічавы рэчы з яго хатняга побыту. Колькі іх, дзе яны, ці ацалелі наогул? Ніхто іх як след не сістэматызаваў, не вывучаў. Але вось пачалі думаць пра стварэнне ў Кушлянах мемарыяльнага музея. Пачалі шукаць, дзе што ёсць. Прыгадалі — у Дзяржаўным музеі БССР захоўваецца сямейны альбом Ф. Багушэвіча, а таксама шматгранны, з чорнага базальту з светлым прожылкам настольны прэс-камень, зверху на камяні, на вузенькай шліфаванай палосцы значацца ініцыялы Ф. Багушэвіча лацінскімі літарамі «F. B.» і дата «1896 XII». Гэтым каменем Францішак Багушэвіч, мяркуюць, прыціскаў паперы. У гэтым жа музеі з настольных Багушэвічавых рэчаў захоўваецца і невысокая, з празрыстага шкла, гранёная чарніліца. Побач з чарніліцай і настольны, у пазалоце гадзіннік. Кажуць, некалі на ім была фігурка французскага паэта Беранжэ. Гэтую дэтальку нам трэба мець на ўвазе. Думаецца, Багушэвіч не выпадкова набыў гадзіннік з постаццю славутага француза. Мабыць, яму імпанавала творчасць гэтага паэта. Ад колішняй кампазіцыі з фігуркай Беранжэ на гадзінніку засталося толькі гусінае пёрка. Стрэлкі на гэтым гадзінніку паказваюць дзесяць хвілін па першай.

Ацалела яшчэ і ваза з белага з ружовым адценнем мармуру, з накрыўкаю, ды драўляная попельніца з якогасьці лёгкага дрэва — пэўна, з ліпы. Апошнія дзве рэчы — ваза і попельніца — мелі прытулак пад страхою Ашмянскага краязнаўчага музея. Попельніца па баках аздоблена ўзорамі — дэкаратыўнымі галінкамі, кветачкамі — і мае надпіс лацінкаю: Друскенікі.

У Ашмянскім музеі ёсць таксама два мяккія нізкія фатэлі, абцягнутыя ўзорыстай, цяпер ужо пабляклай, тканінай. Фатэлі з рухомымі мядзянымі колцамі на фігуровых ножках. Тут жа высокі, амаль на чалавечы рост, дэкаратыўны куткавы столік-

кансолька з круглай стальнічкай пад звіслыя кветкі, з адной палічкай і выцягнутымі ўнізе ножкамі і люстэрка парфумнай ці салоннай туалеткі. Люстэрка прыгожа аздоблена разной чорнай аправай, па баках дзве, нібы свечачкі, разныя фігурныя стоечкі. У Ашмянскім музеі захоўваецца і яшчэ адзін гадзіннік. Ён мае зверху ручку для пераносу яго з месца на месца, з пакоя ў пакой. Магчыма, гэта быў якісь дарожны гадзіннік. Цыферблат на ім таксама з рымскімі лічбамі.

Як бачым, тое-сёе з побытавых памятак па Ф. Багушэвічу ўсё ж ацалела.

У Дзяржаўным музеі БССР экспануецца і Багушэвічава строгае, аздобленае рознымі ўзорамі і дэкараваным накладным картушам крэсла з плеценай спінкай і сядзеннем. Гэтае крэсла, мабыць, з паэтавага кабінета. Крэсла з плеценай спінкай і сядзеннем ёсць і ў Ашмянскім музеі. Праўда, яно трохі інакш сканструявана. Да 1944 года ў Кушлянах бачылі і іншыя рэчы з Багушэвічавага дому. Напрыклад, драўляны ложак. Жыхар Кушлянаў Піменаў апісаў нам яго так: «Быў ён з дубу. Цяпер такіх ложкаў не відаць. Выпуклыя круглыя ножкі, з спінкамі і сценкай. На спінках на сярэдзіне разны ўзор, а ў ім вочка з белага каменю. Матрац-сяннік трымаўся на кручках, на шлінгах з засечкамі. На пярэдняй біле таксама пасярэдзіне быў узор з белым вочкам».

Купіў Піменаў гэты ложак у Мальвіны Трусевічыхі. А Трусевічысе гэты ложак далі Багушэвічавы ўнучкі, бо яна глядзела іхняга хворага пляменніка Франака, Багушэвічавага ўнука. З іншых Багушэвічавых рэчаў кушлянцы называюць яшчэ адзін драўляны ложак, жоўтую шафку з трыма форткамі, крэданс — для посуду. Частка рэчаў — шафа і чорнае трумо — былі забраны ў вёску Асіпаны ў хату-чытальню. Але там здарыўся пажар.

Некаторыя рэчы з Багушэвічавага дому былі ў колішняга старшыні сельсавета Яхімовіча, але гэты старшыня даўно з’ехаў з Беларусі і дзе што ён дзеў, невядома.

У Марыі Дудэк былі срэбраныя лыжкі. Маці яе, Мальвіна Трусевіч, пра гэта ўжо згадвалася, даглядала Францішкавага ўнука, і пэўна, што гэтыя лыжкі ёй дасталіся ад Багушэвічаў.

Пэўныя звесткі пра тое, якая была мэбля ў паэтавай хаце, даносяць да нас і старыя здымкі. На адным з іх мы бачым са-

мога песняра. Ён сядзіць на мяккай, даволі шыкоўнай канапе з хвалістай, на тры перакаты, спінкай. Гэтую ж канапу мы бачым і на здымку пазнейшай пары. На ёй ужо Багушэвічава жонка з нявесткаю. За канапай вазоны з экзатычнымі пальмамі.

Пэўнае ўяўленне, як быў умэбляваны адзін кут з пакояў Багушэвічавага дома, дае нам і здымак паэтавага сына Тамаша. Тамаш разам з якойсьці асобаю сядзіць на фоне лёгкай шафкі. На шафцы бачым абрысы якойсьці шкатулкі і згаданы тут гадзіннік з фігуркаю Беранжэ. Фігурка, між іншым, яшчэ цэлая, непапсаваная. І яшчэ дзве рэчы вартыя нашай ўвагі — мяккі, з аднаго, відаць, з канапаю гарнітура, фатэль на разных ножках і лямпа-свяцільня на выгнутай, як шыйка ў лебедзя, дужцы. Лямпа гэтая пры самых дзвярах.

Усе кушлянцы памятаюць, што ў Багушэвічавым доме было піяніна фірмы «Мюльбах». Стаяла яно ў гасцёўні (салоне). Згадваюць і булькотны самавар, і Францішкаву стрэльбу — вісела за шафай з кнігамі, з ёй Багушэвіч хадзіў на паўстанне. Памятаюць і пра грамафон, і пра куфар, у якім ляжаў Францішкаў паўстанцкі мундзір.

Каштоўныя звесткі Станіславы Тамашэўскай. Яна прыгадвала, што ў салоне між вокнамі, што выходзілі на веранду, стаяў столік з чырвонага дрэва. У куце — круглая, з чырвонай бляхі, грубка. Каля яе — шафа з кнігамі. Над фартэпіяна віселі партрэты Ф. Багушэвіча і яго жонкі, намаляваныя мастаком Андрыёлі. Гэта згадкі пра рэчы толькі аднаго пакоя-салона. А ўсіх жа пакояў у Багушэвічавым доме было шэсць. Станіслава Тамашэўская ўспамінала і пра некаторыя іншыя пакоі. Прынамсі, пра кухню сказала: там была сялянская цагляная печ, драўляная лесвіца, што вяла на паддашак. На паддашку ляжалі кнігі. Сярод іх былі і беларускія.

Асабліва ў памяці Станіславы Тамашэўскай паэтаў срэбраны кішэнны гадзіннік з анёльчыкамі, які адмерваў гадзіны ўдарамі малаточкаў у мініяцюрныя званочкі.

Не ўсе, на жаль, згаданыя тут рэчы ацалелі. Але тыя, што захаваліся, не могуць не ўразіць нас: гэтулькі мінула часу, гэтулькі падзей адшугала над кушлянскім краем, гэтулькі пажараў пранеслася над нашай зямлёй, а людзі ўсё ж такі

збераглі нямала памятак па Багушэвічу. Гэтыя рэчы дапамагаюць уявіць побыт, у якім жыў паэт, зразумець яго час, эпоху, нават яго настрой, густ, душу.

## Скрыначка з чырвонага дрэва

Багушэвічава ўнучка Станіслава Тамашэўская, дачка паэтавага сына Тамаша, згадвае: у кушлянскім доме ў салоне-гасцёўні перад трумо, на туалетцы, колькі яна помніць, заўсёды стаяла скрыначка з чырвонага дрэва. Гэтая скрыначка ў сям'і была ў вялікай пашане, і ніхто, акрамя бабкі, не меў да яе доступу. Скрыначка замыкалася на ключык. А ключык заўсёды быў у бабкі. З гэтай нагоды ў дзіцячых галоўках, здольных да фантазіі, узнікалі розныя мроі аб нейкіх схаваных у скрыначцы скарбах. Дзяўчынкі падыходзілі да таямнічай скрынкі, ціха між сабой шапталіся, прыгадвалі розныя паданні, у якіх згадвалася аб зачараваных скарбах. А ў галоўках няўмольна круцілася: «Што ж, урэшце, у гэтай скрынцы?» Толькі значна пазней, ужо сталымі, даведаліся, што ў ёй перахоўваліся лісты Элізы Ажэшкі да дзядулі, рукапісы ягоных вершаваных твораў і, здаецца, штосьці з прозы, нейкія дакументы з подпісам самога польскага караля Станіслава Аўгуста і іншыя сямейныя памяткі, аб якіх цяжка ўжо сёння ўспамінаць…

Працяглым часам я ліставаўся з унучкаю Францішка Багушэвіча. Аднаго разу папрасіў, каб яна апісала ці абмалявала хоць графічна тую таямнічую скрыначку. Паэтава ўнучка з вялікай ахвотай зрабіла гэта, прыслала схематычны малюначак слыннай кушлянскай шкатулкі, а таксама некаторыя каментары пра яе. Прынамсі, паэтава унучка паведаміла, што канты коўчыка былі акутыя меддзю, створ для ключыка таксама быў мядзяны. Памер шкатулкі: даўжыня — 55 см, шырыня — каля 35, вышыня — каля 15.

У 1982 годзе Станіслава Тамашэўская прыязджала ў Кушляны, рабіла спробу знайсці дзядулевы паперы. І такі знайшла. Але яны былі струхлелыя. З той трухлі прачыталі толькі колькі літараў. Гэта, мяркуюць, якраз былі тыя паперы, якія калісь

перахоўваліся ў скрыначцы з чырвонага дрэва. Але струхлелі яны ўжо перакладзеныя з шкатулкі ў шкляным слоіку, які быў закапаны ў зямлю.

## Сёмы пакой

Францішкаў сядзібны дом, як вядома, спланаваны на шэсць пакояў. Але даўнейшыя кушлянцы згадваюць: у Багушэвічавым доме быў яшчэ і сёмы пакой — на гарышчы, на нахацці. Ход у яго быў з варыўні-кухні. У куце ля дзвярэй аж да самай столі стаяла ашаляваная шафа. Яна мела дзверы пры ўваходзе ў хату. А ў шафе гэтай — лесвіца з шырокімі прыступкамі. Па баках парэнчы. У столі, вядома, прарэзаныя адкідныя дзверцы. Паддашкавы пакой таксама быў як след абсталяваны, ашаляваны. У пакоі на сёмым небе Багушэвічы найчасцей жылі ўлетку. Тут была частка паэтавай бібліятэкі. Калі-нікалі ў пакоі на сёмым небе начавалі госці, тыя, што любілі рамантыку, пошум ветру, бубны дажджу, шапаценне лістоты, месячык на начным небе. Кажуць, раскідалі сёмы пакой у 1915 годзе немцы. Чым ён ім замінаў? Хто яго ведае. Можа, таму што ў паэтавым доме быў шпіталь, і гэта неяк ім замінала. А мо яшчэ што, але кажуць, што гэта немцы зрабілі. Шафа ж з лесвіцай існавала аж да 1951 года — да часу так званага першага рамонту Багушэвічавага дому. Тады ж Міхал Ляпеха, першы руплівца Багушэвічавай сядзібы, знайшоў на гарышчы колькі кніжак з паэтавай бібліятэкі. Сярод іх «Зямельнае права» з пячаткай «Адвакат Ф. Багушэвіч».

Пра сёмы пакой у Багушэвічавым доме ёсць згадка і ва ўспамінах унучкі Францішка Багушэвіча спадарыні Станіславы Тамашэўскай у запісах Адама Мальдзіса, якія змешчаны ў газеце «За передовую науку» за 23 сакавіка 1990 года. Я спрабаваў пра гэты сёмы пакой сабраць больш звестак. Звяртаўся не адзін раз да ахоўніка Багушэвічавай сядзібы Міхала Ляпехі, каб ён пра гэта папытаўся ў тутэйшых людзей. На гэты мой клопат ён мне пісаў: «Наконт таго, што ў Багушэвічавай хаце на паддашку быў пакой, то я не тое, што чуў, а відзеў і прамяраў яго. Быў

пакой ад шчыта да коміна з паўднёвага боку. У шчыце было вялікае вакно, пояс з трох пар крокваў, перабіты да крокваў шмат вышэй. На гэтых паясах засталіся сляды цвікоў, якімі была падбіта падсуфітка з дошак. І ў коміне ёсць дзірка, якая залеплена глінай…»

Гэтыя звесткі пра сёмы пакой Багушэвічавага дома з ліста дзядзькі Міхала за 16 кастрычніка 1998 года. Праз паўмесяца дзядзька Міхал прыслаў яшчэ жменьку звестак пра паддашкавы пакой. 3 лістапада ён пісаў: «Яшчэ трохі пра сёмы пакой. Сёмы пакой быў з паўднёвага боку, ад шчыта да коміна. Дзірка ў коміне, якая замазана глінай, была зроблена, каб можна было падключыць нейкую трубу ад нейкага прыбора ці печкі… Кнігі, якія я знайшоў, былі над кухняй у тым, чым была ўцеплена хата: ліст, кастра. Сёмы пакой, — пра гэта казалі людзі, — быў Тунін, у ім яна любіла бавіць час».

## Мацей

Свой першы паэтычны зборнік Францішак Багушэвіч, як вядома, падпісаў псеўданімам Мацей Бурачок. Гэтым жа імем — Мацей — аўтар «Дудкі беларускай» назваў і аднаго з герояў верша «Хрэсьбіны Мацюка».

Якой жа паўстае Мацеева постаць згаданага твора?

Найперш — гэта аўтарытэтная для ўсіх асоба. Калі сялянам прапанавалі пасля розных абяцанак і ўгавораў перакінуцца з каталікоў у праваслаўныя, то пачулі: як Мацей «скажа перавярнуцца, дык усе вёскі на яго здадуцца».

Другое. Гэта чалавек незвычайнай вынослівасці, мужнасці. «…каб сто катоў дралі мне скуру, пяклі на агню, — кажа Мацей, — я веры сваей тыкі не змяню». Яму ж належаць і такія словы: «Эй, бійце ж мацней, / Мацнейшы ад веры вашай Мацей!» Гэтыя словы таксама пра Мацееву мужнасць, пра яго адданасць бацькоўскаму краю, яго волю і непахіснасць.

Між іншым, імя Мацей фігуруе і ў Багушэвічавым вершы «Быў у чысцы».

З гэтай нагоды цікавы і такі факт.

За Багушэвічавым часам побач з паэтавай сядзібай, у Трыколях, жыў селянін Мацей Свірыда. Імя гэтага кушлянскага Мацея я занатаваў у свой сшытак даўно і зразумела з якой прычыны: першае — Багушэвічаў сусед, другое — у Багушэвічавага суседа такое нам блізкае і дарагое імя — Мацей. Пераглядаючы не гэтак даўно свае запісы, асэнсоўваючы іх, падумаў: «А ці не гэты, часам, Мацей, ці не яго жыццё паўплывала на выбар Багушэвічавага псеўданіма?»

На такое меркаванне ёсць усе падставы. Кушлянскі Мацей пражыў сто тры гады. За свой доўгі век ён нагледзеўся самых розных «хрэсьбінаў», рэформаў, «вызваленняў». Ён быў для Багушэвіча, ды і для ўсіх кушлянцаў, жывой гісторыяй. То ці магла такая асоба, такая постаць застацца незаўважанай Багушэвічам і не адгукнуцца ў яго творчасці?

## Апошнія здымкі

У 1898 годзе Віленшчына рыхтавалася да юбілею Адама Міцкевіча. Грамадскасцю Вільні быў створаны камітэт па ўшанаванні памяці слыннага паэта. У гэты камітэт уваходзіў Францішак Багушэвіч. Але паколькі ён пакінуў Вільню і не мог ужо наведваць пасяджэнні, сябры камітэта самі наведвалі яго ў Кушлянах. Аднаго разу праведаў гаспадара Кушлянаў ягоны даўні віленскі прыяцель Зыгмунт Нагродскі. Ён завітаў у Кушляны не адзін: прыхапіў з сабою фатографа з фотаапаратам. Абмеркаваўшы ўсе клопаты з падрыхтоўкай да Міцкевічавага юбілею, госці з Вільні прапанавалі гаспадару сфатаграфавацца на памятку пра гэтую сустрэчу. Першую здымку гаспадара Кушлянаў з ягонай сям'ёй зрабілі на левым ганку. Менавіта гэты здымак данёс да нас абрыс новага Багушэвічавага дому, як ён выглядаў пры паэтавым жыцці. На тым жа ганку адбылася і другая здымка. Але на ёй ужо няма Багушэвічавага сына Тамаша (на першым здымку ў гімназічнай форме). Затое побач з паэтам даўні ягоны прыяцель Зыгмунт Нагродскі. Ці не ён сам быў на першай здымцы пры фотаапараце? Трэцюю здымку зрабілі на Лысай Гары між трох соснаў. Разам з Францішкам Багушэвічам тут ягоная дачка Туня і якіясь яшчэ людзі.

Здымкі гэтыя сталі вядомыя беларускай грамадскасці параўнальна нядаўна — з 1975 года. Іх выявілі ў архіве Пятра Глебкі. З гэтых здымкаў на нас глядзіць ужо спакутаваны якойсь хворасцю аўтар славутай «Дудкі беларускай». Ён у якойсь белай панамачцы, ссунутай на вочы. Вочы прыжмураныя. Мо з болем — з ныцця ныракі. А мо з сонца, ад сонца. У руках ядлоўцавы кій. Ягоная нямогласць адчуваецца ва ўсім!

## Тут дагарэла жыццё...

У Багушэвічавым доме было шэсць пакояў. І кожны з іх можа штось расказаць нам пра песняра. Давайце на хвілінку зойдзем яшчэ ў адзін пакой — спачывальню. У ёй прайшлі апошнія дні паэтавага жыцця.

Што мы ведаем пра гэтыя дні? Колішняя Багушэвічава пакаёўка Амілія Цюлькевіч — яна, між іншым, глядзела паэта да самае смерці — згадвала: «Прынясу яму есці. А ён трошкі з'есць і аддае. Я кажу: "Пан, я скончу". А ён: "Не, Амілька. Я хворы. Пасля мяне не можна есці. Ну але раз так, то мушу назло табе з'есці". І з'есць…»

Зрэдку паэта выносілі на веранду, садзілі ў фатэль ля вазонаў, акрывалі коўдрай, і ён цешыўся сваім садам, Ваўкеламі, перад вачыма яго былі і Трыколі. Але такія дні надараліся рэдка. Найчасцей каратаў час у ложку. Дзявятага кастрычніка 1899 года ён пісаў у Вільню: «Вось ужо другі месяц ляжу апухлы, баляць ныркі». Адзінае, што яшчэ калі-нікалі цепліла ягонае вока, наводзіла на пэўны роздум, дык гэта зыркія сполахі полымя ў грубцы. Тады набягалі такія думкі:

Дагарае рэшта вецця
У пячурцы ў хаце.
І гаворыць нешта ў сэрцы:
Так і з табой, браце.

А вось ягоныя настроі перад самым Новым 1900 годам і Калядамі: «Дарагі Адась! Віншую цябе з блізкім святам і Новым Годам, я і жонка запрашаем цябе да нас на Куццю. Калі ж

каму ўжо абяцаў, дык успомні нас, дзелячыся аплаткамі, якія тут дасылаем» (8/21.1899).

Так праходзіў апошні год паэтавага жыцця. Ацалеў і малюнак з выяваю Ф. Багушэвіча на «божай пасцелі». Гэтую замалёўку зрабіў паэтаў сын Тамаш 15 (28) красавіка 1900 года.

Да апошняй хвілі з песняровай галавы не выходзіла думка: «Што будзе з слоўнікам?! Я ж яго так і не скончыў…»

Вецер дзьме і вые,
Што аж мыслі рвуцца,
Змоўклі песні тыя,
Што іграў на дудцы.
Раз яшчэ зайграю
У астатняй хвілі
Для тых, што
жаль маю,
Што мяне забылі…

## Кушлянскія дарогі

Звычайна ў такіх невялікіх селішчах, як Кушляны, дарог няшмат: адна — што прыводзіць у вёску, другая — што выводзіць з яе. Ну яшчэ можа быць якая-небудзь на агароды ці ў лес. Большай патрэбы няма. Іншая рэч — Кушляны. Тут цэлая сістэма дарог. Яна склалася яшчэ з тых часоў, калі на невялікіх грудках ціснулася некалькі панскіх маёнтачкаў, фальваркаў, аколіц, засценкаў, і кожны гаспадар меў, апрача агульных, свае дарогі, свае прысады. І кожная з дарог мае сваю гісторыю, сваю назву. Найбольш біты праз Кушляны шлях — дарога з Солаў у Куцавічы. Яе да сёння тут зрэдку называюць гміннай, як называлі пры Польшчы. Пачынаецца яна ў Солах, перасякае ў Асіпанах стары Віленскі тракт і прастуе праз Гайдзевічы лукаткамі, выгінамі, з пагорка на пагорак аж да Кушлянаў Першых. Тут паварочвае паўз колішнюю сядзібу Сулістроўскіх. З кіламетр яна цягнецца ўздоўж старасвецкіх прысадаў, затым уліваецца ў абсады дарожных хмызоў, вербало-

зу, альхоўніку. Цяпер гэтых абсадаў няма. У сямідзясятыя гады дарогу расшырылі, падсыпалі — стала жвіроўка. Ля могілак яе павярнулі ўлева, бліжэй да поплаву. Старая ж дарога зараз па пагорку пабегла да пагосту. Так што той, хто захоча прайсці далей тым шляхам, па якім хадзіў і ездзіў Францішак Багушэвіч, хай кіруецца на пагорак. Ну, а там ужо ўбачацца Кушляны. Праўда, да Багушэвічавай сядзібы ад могілак будзе яшчэ з вярсту. На гэтым шляху нас чакае стрэча з сядзібай колішняга Багушэвічавага суседа Ясевіча. Каля яе і захавалася метраў сто ці болей старых прыдарожных ліпавых абсадаў. Гэты прамежак шляху дужа вабны. Ён нібы вяртае нас на нейкае імгненне ў іншую стыхію думак, пачуццяў, уяўленняў. Далей сольска-куцавіцкая дарога ціснецца паўз прысады Маркоўскага, Багушэвічаву сядзібу, яго каплічку,браму, мінае адрыну і праз лагчынку нырае ў дубоваглогавую, з галыбеню, прысаду. Пра лёс гэтай прысады мы ўжо згадвалі ў замалёўцы «Багушэвічавы дубы».

За вабу і прыгажосць прысадаў на сольска-куцавіцкім шляху на прамежку ад Асіпанаў да Дубелішак кушлянцы з любасцю называюць яго Белай дарогай. Згадзіцеся, вельмі рэдкая і рамантычная назва. Пэўна, яна цалкам калісь адпавядала свайму вызначэнню. Гэта, кажуць, была не дарога, а песня.

Важнай для Кушлянаў у Багушэвічаву пару была тая дарога, што яднала іх з Смаргонню. Дарога гэтая ішла праз Стымонь і Студзянец, Бялкоўшчыну і Асінаўку, праз лагчыны і пагоркі, між вясёлых гаёў і лугоў, праз вірлівыя ручаінкі Акену і Гервятку — і таксама была вельмі вабная. Называлася яна Доўгая дарога. Гэтую дарогу Францішак спазнаў з маленства. Бацька распавядаў яму самыя неверагодныя гісторыі, якія надараліся з людзьмі на гэтай дарозе. То каня нешта спудзіць, то нейкае невядомае ачмурэнне на падарожнага нойдзе, што ён і сам не ведае, што робіць, куды ідзе ці едзе. Бацькавы апавяданні моцна ўражвалі Францішка. Шмат якія з гэтых дарожных апавяданняў пасля адгукнуцца ў яго творах.

І яшчэ адна дарога. Гэта стары Жупранскіх шлях. Па ім Багушэвічам даводзілася хадзіць і ездзіць часцей, чым па якіх іншых. Не было такога тыдня, каб хто-небудзь з Багушэвічаў не наведаў мястэчка. Гэтай жа дарогай ездзілі і на чыгуначную станцыю. У Жупраны кушлянцы бегалі за трыццаць – трыццаць пяць хвілін. Гэта была самая кароткая дарога. Большая яе частка

ішла глухім лесам, які называўся Залеглы. З гэтага і дарогу называюць часам Залеглай.

Шмат у Кушлянах і іншых дарог — на Лысую гару, на Дубелішкі, на Ройстры, на Яляшкі і Лапішкі, на Вадацеч і Паройсці, на Трыколі і Рудалі… Па ўсіх іх хадзіў і ездзіў наш пясняр. Усе яны вядуць у Кушляны і з Кушлянаў. Праз усе іх Багушэвічы трымалі сувязь з блізкім і больш далёкім светам. Менавіта праз гэтыя дарогі траплялі не толькі да Ашмяны і Вільні, але да Гародні, Варшавы, Берліна, Кракава, Коўны, Чарнігава, Нежына і шмат якіх іншых гарадоў і мястэчак. Гэтымі дарогамі Багушэвічы і вярталіся ў Кушляны, і яны ім пасля расстання здаваліся самыя мілыя, самыя родныя, даражэйшыя за ўсе дарогі свету.

## Мастачка з Кушлянаў

Хоць і былі Кушляны наводшыбе, у далечы ад гулкіх і людных дарог, тым не менш тут заўсёды тварылася духоўная культура ва ўсіх яе праявах і формах. Кушлянскія фальваркоўцы не толькі гаспадарылі, але спрадвеку цягнуліся да навукі, да кнігі, да вышэйшых формаў мастацтва — музыкі, жывапісу. Калісь амаль у кожнай шляхецкай сядзібе, а было іх у Кушлянах нямала — жылі тут апрача Багушэвічаў Маркоўскія, Тымоўскія, Сулістроўскія, — гучала піяніна ці фартэпіяна. Не раз цнатлівая ў сваёй першабытнай красе і непаўторнасці кушлянская прырода, яе старажытныя, пракаветныя паркі напаўняліся мяккімі мелодыямі класічнай і народнай музыкі, што вырывалася праз вокны з утульных фальваркоўскіх пакояў.

Была сярод кушлянцаў вялікая прага і да малявання. Маляваў тут шмат хто, але да нас дайшлі звесткі толькі пра двух кушлянскіх мастакоў: Багушэвічавага сына Тамаша і іхнюю суседку Зосю Ясевіч. Пра яе гэты наш расповед.

Нарадзілася Зося Ясевіч у апошняй чвэрці мінулага стагоддзя ў сям'і паўстанца Антона Ясевіча. Непаўторная краса кушлянскіх даляглядаў рана абуджае ў яе душы пачуццё прыгожага, і яна спрабуе перадаць гэтую красу на палатне і паперы

фарбамі. Але ні першая яе спроба, ні больш дасканалыя творы пазнейшай пары не дайшлі да нас. Захавалася толькі памяць пра іх, пераказы зместу і сюжэтаў карцін. Вось што расказвае пра Зосю Ясевіч Станіслава Клуйша:

«З Зосі Ясевіч надта файная мастачка ўдалася. Яна вельмі файна малявала. У яе пакоях было шмат малявідлаў (малюнкаў). З ўсіх мне ў памяці адзін абраз.

Невялікі барок. А каля таго барку, на ўскрайку яго, на пагорку, сасна. Тую сасну яна так ужо вымалявала, так ужо выцацкавала, што вачэй не было як адвесці. Ну, от як жывая стаіць тая сасна. Так і хочацца рукою пакратаць, такая яна была прыгожая».

Пра гэтую вымаляваную Зосяй Ясевіч сасну я чуў не толькі ў Кушлянах. Расказвалі мне пра яе ў Трыколях, у Наздрачунах, нават у больш далёкіх Жупранах. Чуў расказы пра яе я ад Вяньцкоўскіх, Абцэвічаў, Васілеўскіх, Каспяровічаў…

Шмат хто бачыў гэтую карціну, шмат каму яна запомнілася, шмат каго яна ўразіла!

«І сябе Зося пад той сасной намалявала, — расказвае далей Станіслава Клуйша. — Зося маладая была вельмі прыгожая, харошая такая, стройная. Насіла косы, апраналася ва ўсё доўгае. Была вельмі вучаная. Вучылася ў Віленскай гімназіі, казала, што разам з Дзяржынскім. Умела гаварыць аж на сем языкоў. Называлі мы ўсе яе Ясевічанка, а як яна выйшла замуж — Шафнагелька. Шафнагель быў яе муж. Вельмі пекная была шляхцяначка. Да яе нават з Вільні мастакі прыязджалі…»

Апошняя вестка вельмі важная. Яна выводзіць Зосіна імя на больш шырокі мастакоўскі абсяг. Таму пытаюся ў Станіславы Клуйшы, ці не памятае яна імёны тых мастакоў, што прыязджалі да Зосі. Станіслава Клуйша жыла ў Ясевічаў, гадавалася ў іх і жыцце іхняе ведае да ўсіх драбніц. «Чаму ж не памятаю? — кажа ў роздуме яна. — Не ўсіх, але некаторых памятаю. Ніказы Падбярэзскі, памятаю, прыязджаў. Высокі такі, чарнявы».

Імя гэтага мастака мне знаёмае. Яго я сустрэў упершыню на старонках кнігі «Powiat Osmianski» 1896 года выдання, бачыў там яго замалёўкі і сярод іх абразок — відок Ясевічавага двара ў Кушлянах. Але тады гэтае прозвішча не прагучала для мяне. Цяпер жа той малюнак і імя мастака паўсталі ў нейкім іншым

святле. Уявіўся 1894 год. Менавіта ўлетку гэтага года Ніказы Падбярэзскі зрабіў замалёўку Ясевічавага двара ў Кушлянах. Яго мастакоўскае вока прывабілі не толькі маляўнічыя кушлянскія краявіды, утульныя фальваркі, але і людзі. Пакуль маляваў Ясевічаў двор, пазнаёміўся з сям'ёй Ясевіча і з Зосяй, вядома, таксама. Яму, мабыць, тады расказалі пра Зосіна захапленне, паказалі яе эцюды і замалёўкі. Мусіць, была гутарка, былі парады, пахвалы. Ніказы Падбярэзскі стаў частым госцем у Ясевічаў. Цягнула яго сюды перш за ўсё агульнасць мастакоўскіх інтарэсаў, жаданне дапамагчы маладой мастачцы. Прыязджаў ён у Кушляны і ў пазнейшую пару, ужо ў новым стагоддзі. Менавіта пра яго прыезды ў дваццатыя гады і згадвае Станіслава Клуйша. Аднак якія яшчэ Зосіны карціны бачылі кушлянцы?

Згадваюць, што ў яе пакоях быў і такі абраз:

Бура. Людзі сена складаюць. Вецер рве тое сена… Парка коней на лузе. Коні трывожна стрыгуць вушамі…

Наогул, кажуць, яна вельмі любіла маляваць кушлянскія краявіды. Гэта было яе захапленне. Малявала яна і партрэты.

Які ж лёс гэтых карцін і самой мастачкі? Раяць пра гэта пагутарыць з Піменавым і Гарыніным. Яны ў час вайны і пасля вайны былі ў Ясевічавай хаце, жылі разам з самой Ясевічавай.

Гутару з Піменавым. «Так, — кажа ён. — Усё праўда, такія карціны былі ў Зосінай хаце. І было іх шмат. Усе іх яна сама намалявала. Але як хату іхнюю прадалі ды пачалі перавозіць, усе тыя карціны памарнаваліся. Засталіся толькі рамы. Сама Зося, у пяцідзясятыя гады, прастарэлая, "было ёй ладне гадоў", пад дзевяноста, выехала ў Польшчу, да сына. Але казала, што шмат яе абразоў у касцёле ў Гервятах. Усе яны ёю намаляваныя. Казала, што ёсць яе абразы і ў Жупранах».

Звесткі гэтыя таксама цікавыя, і варта б да іх усім прыслухацца.

Я ж зноў вяртаюся да малюнка Ясевічавага двара 1894 года. Мастак Ніказы Падбярэзскі на фоне светлага, утульнага Ясевічавага дамка з прыветнымі вокнамі, атуленага векавымі клёнамі і ліпкамі, намаляваў на сцяжынцы, між буйных рослых кветаў, у доўгай апратцы дзявочую постаць з кошыкам у левай руцэ. То ці постаць гэта самой мастачкі? Думаецца, менавіта яе абрысы вымаляваў Ніказы Падбярэзскі і гэтым самым засведчыў

сваю мастакоўскую ўвагу і сімпатыю да маладога кушлянскага таленту.

Цяпер прыветны Ясевічаў дамок у іншым месцы — у маляўнічым кутку на беразе Ашмянкі поблізу Солаў. І што надзвычай цікава, што пад яго страхой узгадаваўся і яшчэ адзін аматар пэндзля — Восіп Мілейша, наш сучаснік. Яго гэтак жа, як і папярэдніцу, вельмі хвалююць кушлянскія далягляды, якія ён з любасцю і па-майстэрску ўвасабляе на сваіх палотнах. Сярод іх нямала і Багушэвічавых мясцін.

## У Кушлянах камянёў хоць забіся...

Кажуць, даўней так жартавалі: «Калі хочаш ісці замуж, то ідзі ў Кушляны, там усяго багата: вады хоць заліся, камянёў — хоць забіся». І гэта была шчырая праўда. Камянямі былі засыпаны і забалочаныя Ваўкелы. І на палетках іх было процьма. Камяні заміналі гаспадарыць. Тыя з іх, якія былі пад сілу, спакваля збіралі ў крушні. Большыя спрабавалі падкопваць і апускаць у зямлю. Вельмі ачысціліся кушлянскія палеткі ад камянёў у той год, калі Францішак Багушэвіч надумаўся пабудаваць мураваную абору. Колькі іх тады было звезена з кушлянскіх палёў! Але затое якая абора атрымалася — не адзін век перажыве!

Хоць камяні і заміналі Багушэвічам гаспадарыць, усё ж яны глядзелі на іх як на з’яву таямнічую, магічную. Многія з іх яны абагаўлялі. Можна нават казаць, што ў Багушэвічаў быў якісь культ каменя. Згадаем хаця б усім вядомы прэс — камень на паэтавым стале з ягонымі ініцыяламі і датаю «1896». Вельмі цікавы камень быў знойдзены і падчас рэстаўрацыі паэтавай сядзібы ў 1990 годзе пры ствале ліпы поблізу сажалкі. Гэта быў рэдкі для гэтай мясціны камень: пласкаваты і белы, як мармур. На ім таксама прачыталася дата — «1898». Некалі зацікавіў мяне на паэтавай сядзібе і яшчэ адзін камень. Быў ён чырванаваты, як крамянёвы, і форма ягоная была неакрэсленая, скалістая такая. Ляжаў ён пры самым ствале каштана поблізу з мяжою

Маркоўскіх. Камень гэты, як на маю думку, няцяжка было закапаць, але Багушэвічы чамусь гэтага не зрабілі, пакінулі яго на паверхні. Пэўна, ён для іх таксама штось значыў.

Пра камяні шмат паданняў і легендаў, прымавак і помавак, розных філалагічных параўнанняў, метафараў. Францішак Багушэвіч шчодра імі карыстаўся ў сваіх творах. У адным толькі вершы «Праўда» ён не адзін раз, каб больш выразна акрэсліць сваю думку, слова, звяртаецца якраз да вобраза каменя. Каменем, паводле паэтавых слоў, калісь Праўду накрылі, прываліл. Вось паэт і просіць Бога памагчы адвярнуць гэты камень з Праўды, а калі ён гэтага не можа, парабіць усіх глухімі, як камень, і «злую нашу долю».

На гэтыя і шмат якія думкі наводзяць кушлянскія крушні, кушлянскія валуны. Асабліва іх шмат — гэтых нямых сведкаў даўно мінулых часоў — абапал дарогі з Кушлянаў на Жупраны праз Марымонты і Навасёлкі.

## Лічбы

Багушэвічы этапныя падзеі апошніх гадоў свайго жыцця ў Кушлянах напрыканцы стагоддзя пазначалі на розных памятках. Захаваўся настольны прэс-камень з лічбай 1896. Па нейкім часе пры расчыстцы паркавай сядзібы пры старой ліпе быў знойдзены плоскі шліфаваны камень з лічбай 1898. На абедзвюх памятках, думаецца, лічбамі пазначаны гады. Паспрабуем расшыфраваць іх.

1896. Чым вызначальны быў для кушлянскага гаспадара гэты год?

У 1896 годзе Францішак Багушэвіч атрымаў ад якогасьці варшаўскага сваяка Тадэвуша спадак. Спадак гэты быў вельмі дарэчы. Якраз гэтай парой Францішак Багушэвіч будаваўся, будаваў свой новы, на шэсць пакояў, дом з вялікай, праз усю сцяну, верандай.

А чым жа вызначаўся для Багушэвічаў 1898 год?

У гэтым годзе Францішак Багушэвіч закончыў будавацца і пераехаў з Вільні ў Кушляны на сталае жыццё.

Калісь лічба 1898 была накрэслена густой чорнай фарбай на шалёвачных дзвярах правай калідорнай бакоўкі. Відаць, таксама накрэслена з нагоды вяртання сям'і ў Кушляны з Вільні. Дзверы з лічбаю 1898 вельмі ж былі доўга на сваім месцы. Але пасля грунтоўнага рамонту Багушэвічавага дому пад мемарыяльны музей кудысьці зніклі. А шкада: у мемарыяльным музеі яны б былі не лішнія.

Магчыма, на Багушэвічавай сядзібе былі і якіясь іншыя памяткі з лічбамі. Але час і людзі расцерушылі гэтыя памяткі.

Не выключана, што калі-небудзь пры якойсьці пільнай працы на сядзібе Францішка Багушэвіча і вынырне штось цікавае, як гэта было колькі гадоў таму з плітой сонечнага гадзінніка. Яе знайшлі на ўскрайку ўзлеску пад слоем прэлага лісця.

## *Тоба*

Унукаў Францішак Багушэвіч пры сваім жыцці не прычакаў. Яму не давялося іх гадаваць, песціць, гушкаць, лашчыць. Не змог ён ім перадаць хоць што з свайго духовага. Усе яны, апрача стрыечнага ўнука Зыгмунта Абрамовіча, нарадзіліся ўжо пасля яго смерці. Францішак Багушэвіч позна завёў сям'ю, мала пажыў. Пакуль падгадаваў дзяцей — і жыццё абарвалася.

Пра Багушэвічавых нашчадкаў, яго ўнукаў і ўнучак мы больш-менш ведаем. Але імя аднаго з іх — Франуся — неяк зусім выпала з летапісу Багушэвічаў. Франусёва жыццё з самых яго народзінаў — драматычнае, калі не трагічнае. Ён нарадзіўся ў 1918 годзе з шлюбу крэўных сваякоў Яна Мніховіча, сына Францішкавай сястры Ганны, і дачкі Багушэвіча Туні — Канстанцыі. Хлопчык нарадзіўся кволы. У яго спінцы было штось няладнае. «Ён быў як ватны, — згадваюць тыя, хто яго ведаў, хто яго бачыў. — Як бесхрыбетны, без касці...»

Доўга, аж да сямнаццаці гадоў, не мог хадзіць. Вадзілі яго пад рукі. І з моваю ў яго не ўсё ладзілася. Сябе ён, калі быў малы, называў Тоба. Тыкаў пальчыкам у грудкі і казаў: «Я — Тоба!» Станавіўся на зэдаль і цягнуўся да бэлькі. І зноў не забываўся згадваць сваё імя: «Тоба да бэлькі достал!» Гэтак рос

і гадаваўся паэтаў нашчадак. Пакуль жылі ягоныя тата і мама, дзядзькі ды цёткі, стрыечныя сёстры, пакуль на зямлі было ўсё ладна ды памяркоўна, быў ён дагледжаны і прывечаны, жыў у выгодзе. Горш стала, калі ён застаўся адзін. Ірэна Васілеўская з Каспяровічаў, жыхарка Кушлянаў, згадвае: «Бачыла я яго не адзін раз… Высокі. Стаіць, бывала, над Альхімовічавай сажалкай… Босы, у гімназічным кіцелі. Мабыць, бацькавым. Гузікі бліскучыя, аж белыя. Ногі чорныя. Глядзіць у ваду і пра нешта думае, думае. Спакойны такі, сцішаны…»

Малога яго мамчыла Станіслава Абцэвіч: «Завяду яго ў сад — гэта ў Ашмяне было, як яны там жылі, — падушкамі абкладу і забаўляюся з ім. Кругом кветкі, вішні. Вельмі мілы быў хлопчык. Кругленькі такі, пухнаценькі, на Туню падаваў. Апраналі яго добра. Бачыў ён, што ўсе людзі ходзяць, рухаюцца, то і ён спрабаваў на ногі стаць. Туня, забачыўшы гэта, бегла да яго як сама не свая: «Франусь! Франусь! Не упадзі!» У касцёл яго вазілі. Сядуць на вазок. З аднаго боку Туня, з другога Янусь, а пасярэдзіне Франусь — так і едуць да касцёлу. А пасля бралі пад рукі і ішлі ў касцёл…»

Гуляўся не адзін раз з Франусем і стрыечны паэтаў ўнук Янка Тарчэўскі. Быў ён гады на тры старэйшы: «Памятаю, на пясочку бавіліся. Я рабіў плужок з лучынкі, паказваў яму, як зямлю абрабляюць…» Туня была ўдзячная людзям, якія памагалі гадаваць Франуся, спачувалі і спагадалі ёй. Але часта бедавала: «І за што мне такая кара? Здаецца, я нікога не ўгнявіла — ні людзей, ні Бога. І свята ніводнае не запарушыла…» Бедавала, але глядзела свайго Франуся як мае быць матулі. Пазней ужо, у вайну і пасля вайны, Франусь неяк прыставаўся хадзіць на мыліцах, з мыліцамі. Але што гэта была за хада! Сэрца шчымела, сціскалася, калі ён ішоў. Незнаёмы мог падумаць, што п'яны ідзе. Ішоў і ківаўся…

Жыў Франусь у тую пару ў Мальвіны Трусевічыхі, па-тутэйшаму, па-вясковаму — у Трускі, Трусачкі. Да яе прыладзілі за пэўную плату Францусёвыя стрыечныя сёстры, Тамашовы дочкі, якіх лёс пасля 1939 года параскідаў па свеце: адну — Тамашэўскую — на Сібір закінуў, іншыя паспелі ў Польшчу перабрацца. І апошні Багушэвічаў нашчадак — Франусь — дажыў свой нядоўгі і трагічны век у Кушлянах адзінока. Ён, на думку

ўсё той жа Ірэны Васілеўскай, хутчэй за ўсё і памёр з голаду: «Час быў пасля вайны нялёгкі, — кажа Ірэна. — З харчамі было скупа. То, можа, небарака, недаядаў. А здароўе яго і так якое было слабое. То і згас без пары. Дол яму капаў мой брат, Генік, з адным тутэйшым чалавекам. Але і яны абодва ўжо змерлі…»

Людзей, якія ведалі Багушэвічавага ўнука Франуся, памяталі яго, на Ашмяншчыне яшчэ шмат. Але мне найбольш карцела сустрэцца з кім-небудзь з той сям'і, дзе Франусь пражыў свой астатні час. І такая нагода ў мяне надарылася. 16 чэрвеня 1991 года ў Кушлянах ладзілася чарговае літаратурнае Багушэвічава свята. Мне шапнулі, што на гэтым свяце дачка Мальвіны Трусевіч Марыя Дудэк — Дудчыха, з сям'і, якая апекавалася асіразелым Багушэвічавым унукам Франусем. Яна з ахвотай расказала: «Франусь пражыў з намі гадоў з восем. Чаму ён да нас патрапіў? Мама мая служыла ў Мандэграліхі, Тамашовай дачкі, а жылі ў Тунінай хаце. То Мандэграліха, як у Польшчу ехала, кінула Франуся нам. Як ехала, казала: «Мы забяром. Уладкуемся і забяром!» Але не забралі. І ні разу не напісалі. Так ён і застаўся з намі. Мама глядзела яго, пакуль сама не аслепла. Вельмі хілы. Хадзіў куды вецер, туды і ён. Быў дужа набожны. Гаварыў пацеры раніцай і ўвечары. Памыецца і давай пацеры гаварыць. Глядзелі мы яго, як малое дзіцё. Ведаў, што з шляхетнага, заможнага роду. Даўней па калядзе ксёндз ездзіў па вёсках, хадзіў па хатах. От аднаго разу я і кажу яму жартам: "Франусь, ксёндз прыедзе, давай шлюб возьмем. Усё роўна разам жывём. Ложкі ссунем і ўсе пярэбары". Дык дзе там! Слухаць не хоча: "З мужычкай, хамучкай спаць не буду", — абураўся. Франусь памёр, калі яму было гадоў дваццаць сем. Памёр увосень. Здаецца, у сорак пятым. Пахаваны пры маці ў Жупранах, побач з дзядулем. Адмучыўся, бедны, без сваіх…»

Паводле слоў Багушэвічавай сваячкі Броні Вянцкоўскай з Жупранаў, пахавалі паэтавага ўнука-пакутніка пры дзеду ў галаве.

Цяжка пагадзіцца, што такая доля выпала Багушэвічаву ўнуку, яго нашчадку. Пясняр жа ўсім людзям зычыў лепшай долі, чым меў сам. Нават калі будаваў новы дом, садзіў сад, казаў: «Не прычакаю я, прычакаюць дзеці, не прычакаюць дзеці, прычакаюць унукі». Але ўсё сталася інакш. Не думаў і не гадаў,

што такая доля напаткае яго нашчадкаў. Але жыццё ёсць жыццё. Багушэвіч быў філосафам. У адной з нататак, разважаючы пра жыццё, ён пісаў: «Усё мае свой лёс, сваю долю, нават хваля!»

У Ашмянскім архіве грамадзянскага стану захаваліся «Выписи метрической книги Ошмянского римско-католического приходского костёла». А ў іх ёсць такі запіс: «29 декабря 1918 года в Ошмянском римско-католическом приходском костёле окрещён младенец по имени Франц ксендзом Маевским, викарием оного костёла, с совершением всех обрядов и таинств дворян Ивана и Констанции (урож. Богушевич) Мниховичев, законных супругов сын, родившийся ноября 14 дня того же года в Ошмяне того же прихода. Восприемниками были Фома Богушевич и Алоиза Рутковская, жена Людвика».

Вось і ўсё, што засталося ў людской памяці пра Багушэвічавага ўнука, якога, як і яго дзядулю, звалі Франц, Францішак.

## Абора

Пра яе мо і не варта было б тут згадваць. Што возьмеш з аборы? Абора і ёсць абора. І напраўду, якую яшчэ можа мець цікавасць для наведнікаў Багушэвічавай сядзібы будыніна, у якой калісь зімавала яго жывёла?! І ўсё ж як на гэта глядзець…

Найперш, яна мураваная. Расказваюць, калі Багушэвіч распачаў будаваць абору, то нібы хацеў гэтым паказаць сваім суседзям, сялянам, што неабавязкова на гаспадарчую забудову пускаць лес, марнаваць дрэва. «Шануйце лес, — казаў ён. — Лясы сынам і ўнукам спатрэбяцца. А гаспадарчыя забудовы можна рабіць з гліны, з сухога сучча і з камянёў, якіх у наваколлі Кушлянаў хоць забіся».

Такім парадкам, кушлянская мураваная абора — гэта нібы жывы прыклад паэтавай беражлівасці прыроды. А яшчэ яна і сведка майстэрства тутэйшых муляраў і каменячосаў. Прыгледзьцеся да кладкі: камяні і каменьчыкі з няцёсу ўкладзены ў сцены старанна, ствараюць адмысловы камянёвы карунак. Прыгожая і яго каляровая гама.

Між іншым, на Багушэвічавай сядзібе ўсё ахінута таямніцамі і загадкамі. Мураваная абора — не выключэнне. Яна, як высветлілася, была для Багушэвічаў калісь неблагім патаемнікам. Расказваюць, што ў 1944 годзе неўзабаве пасля вызвалення Кушлянаў ад немцаў, да аборы надвечар пад’ехалі дзве фурманкі. Спыніліся ля замураванага ўваходу. Хто і калі яго замураваў, кушлянцы не памятаюць. Дык вось, незнаёмцы хуценька разабралі тую муроўку ў дзвярах, у пустцы між імі знайшлі шмат рознага дабра. Пакуль людзі агледзеліся, яны пагрузілі тое дабро на фурманкі і зніклі ў невядомым кірунку. Іх хацелі пераняць, але не ўдалося. Пасля гэтага незвычайнага здарэння ля аборы валялася шмат розных параскіданых папераў, кніг, партрэтаў, альбомчыкаў. Кушлянскія дзеці, мала разумеючы, што гэта такое, гуляліся з імі, марнавалі, нішчылі. І ўсё ж колькі здымачкаў, знойдзеных ля аборы, дайшло да нас.

## Сонечны гадзіннік

Яго ў Кушлянах памятаў шмат хто. Такога дзіва не было ні ў каго ва ўсёй акрузе, толькі ў Багушэвічаў. То і падзівіцца на яго прыходзілі не толькі кушлянцы-суседзі, але і сяляне з навакольных вёсак. Не міналі яго і падарожныя. Ён не адзін раз наталяў іхнюю цікаўнасць, балазе мясціўся на яловай прысадзе злева ад каплічкі на шырокім пні — дубовай калодзе метровай вышыні — і добра быў відаць з дарогі.

Змайстраваны ён быў проста. На пні ляжала вялікая чыгунная пліта з цыферблатам-шкалою з рымскімі лічбамі, падзеленай на градусы, і шпянём, які ў пагоднае надвор’е адкідваў на лічбы цень і паказваў час.

Праслужыў гэты гадзіннік кушлянцам да 1915 года. Ішла першая імперыялістычная вайна. Недалёка ад Кушлянаў пралягла лінія фронту. У Багушэвічавай хаце размясціўся нямецкі вайсковы шпіталь. Новым гаспадарам было не да сонечных гадзіннікаў. Сядзіба спакваля запускалася, ніхто асабліва яе не даглядаў, і многае без дogляду, з людской абыякавасці паціху пачало занепадаць. Гадзіннік для чужынцаў таксама быў непатрэбшчынай.

Нехта спачатку вывернуў шпень. Затым некаму перашкодай стала калода: мусіць, замінала руху. У першую ж імперыялістычную вайну праз Багушэвічаву сядзібу праехала мо з тысячу фурманак, возячы раненых. Як памятка пра той час, недалёка ад сядзібы, у нізовіне, якую тут называюць Вадацеч, застаўся нямецкі могільнік, парослы густым арэшнікам. Ад гадзінніка ж не засталося ніякага следу, нават невядома было, куды знікла чыгунная пліта. Кушлянцы выказвалі меркаванне, што, магчыма, яе дзенебудзь прыхавалі Багушэвічы, у зямлю закапалі ці яшчэ дзе. Не магла ж яна струхлець ці згнісці. І ног не мае, каб збегчы куды. Дык жа і не памыляліся паэтавы суседзі: у дзевяностых гадах новых апякун песняровай сядзібы Алесь Жамойцін выпадкова знайшоў круг ад колішняга кушлянскага сонечнага гадзінніка. Неяк ішоў ускрай лесу ля Лысай гары і на нечым пакаўзнуўся. Разгарнуў лісце: аж пад ім жаданы круг. Вядома ж, знаходцы былі страшэнна рады і перанеслі яе на сядзібу.

## *Багушэвічава сядзіба падчас Першай сусветнай вайны*

1914 год… Самы разгар баявых дзеянняў на Смаргоншчыне. Лінія фронту дзесь пад Смаргонню, пад Крэвам. Але водгулле баявых дзеянняў далятае да самых аддаленых куточкаў Смаргоншчыны. Да Багушэвічавых Кушлянаў таксама. З Крэва да Кушлянаў усяго якія кіламетраў пятнаццаць. Нібыта і якісь тыл, але што з гэтага. Вайна ёсць вайна. На вайне ахвяры: раненыя, калечаныя. Іх трэба лячыць. Патрэбна шмат шпіталяў. Пад шпіталі немцы прыстасоўвалі панскія палацы, дабротныя сядзібныя дамы. Вайсковая палявая ўлада разам з франтавымі медыкамі прыстасавалі пад свой лазарэт і Багушэвічаў сядзібны дом. Зразумела: размяшчэнне ў паэтавым доме шпіталя мусіла парушыць звыклы, усталяваны пры ягоным жыцці парадак: штосьці пераставіць, штосьці вынесці на гарышча. Дасталася, вядома, і паэтавым паперам, ягоным кнігам, архівам. Хто там на іх глядзеў! Каму яны былі ў галаве! Вызваленыя ад паэтавай

мэблі пакоі займалі лазарэтныя ложкі. Пакоі паэтавага дому напоўніліся стогнамі, пахам медыкаментаў. Не ўсім пашчасціла тут загаіць свае раны. Некаторыя тут жа змiралі. Тут жа, у яры Вадацеч, адразу за славутай кушлянскай каштанавай прысадай, непадалёку ад дому іх і хавалі. Яшчэ ў васьмідзясятых гадах гэтыя могілкі былі ў досыць добрым стане і не выклікалі асаблівай трывогі. І ў галаву не прыходзіла, што некаму яны з цягам часу будуць муляць вока, і той напусціць на іх бульдозер, хаця яны нікому не міналі — ні гаспадарыць, ні камунікацыям, — у яры, між арэшніку, на водшыбе. Крыжы ўсе цэментавыя, аднаго ўзору, прафесійна, па адной форме адлітыя. На кожным крыжы глыбока цiснёнымі літарамі — імя і прозвішча зваяванага, год і дата згону з жыцця. Усю гэтую крыжовую кампазіцыю вянчаў, калі гэтак можна сказаць, вялізны, якойсь вулканічнай пароды наздраваты валун з салярным знакам.

Інтуітыўна мяне і тады ўжо цікавіў гэты шпітальны могільнік, найперш як старонка з гісторыі Багушэвічавай сядзібы, і я сфатаграфаваў колькі крыжоў. Сфатаграфаваў і той валун-дамінант, што надаваў колішняму кушлянскаму шпітальнаму могільніку якуюсь мемарыяльнасць. Усе крыжы стаялі трывала і сваімі надпісамі інфармавалі, хто пад кожным з іх ляжыць, хто склаў тут галовы. Я хадзіў між крыжоў і думаў: «А ці ведаюць іхнія родзічы, што менавіта тут склалі свае галовы дарагія ім людзі? Ці паведаміў хто хоць калі пра іх?» Я хадзіў між тых крыжоў, чытаў на іх прозвішчы і дзівіўся, што на іх выцеснены пераважна славянскія імёны і прозвішчы, кшталтам «Babkow Iwan». Год пахавання — 1917. Год пахавання ўражвае. Ужо набліжалася вялікая рэвалюцыя. А на Смаргоншчыне ўсё яшчэ ваявалі і паміралі людзі за невядома якія ідэалы. Жахліва! Палявыя фурманкі з чырвонымі крыжамі, ахінутыя брызентам, ўсё яшчэ вазілі і вазілі ў паэтаву кушлянскую гасподу параненых… Пасля я кансультаваўся з дасведчанымі людзьмі, як гэта — могілкі кайзераўскія, а прозвішчы на крыжах славянскія? Мне патлумачылі: у кайзераўскім войску былі і рэкруты з Прусіі, а там жыло нямала славян.

Цяпер цяжка вытлумачыць, але адзін крыж з кушлянскага кайзераўскага могільніка мне карцела прывезці ў Мінск, балазе ён знізу, пры аснове, трохі выветрыўся і ляжаў на зямлі. Мо гэта было прадчуванне, што з гэтым могільнікам можа здарыцца

штосьнепрадбачанае. А яно так і сталася. Калі я прыехаў аднаго разу ў Кушляны, усе крыжы былі ссунуты пад лясок за Вадацеччу. Там яны дзесь і цяпер ляжаць, ссунутыя да лесу. Калі хто калі-небудзь пажадае перапісаць імёны ўсіх зваяваных, трэба раскапаць той завал. Парэшткі ж зваяваных засталіся на сваім месцы.

Падчас Першай сусветнай вайны з Багушэвічаў ніхто ў Кушлянах не жыў. Паэтава дачка Туня з сваёй сям’ёй і матуля, Багушэвічава жонка, жылі ў Ашмяне. Кушлянскія старажылы кажуць: да 1939 года гэты могільнік быў больш-менш дагледжаны. Ва ўсякім разе, ні ў кога ў Кушлянах не падымалася на іх глумная рука. Нават між магіламі дарожкі пасыпалі жоўценькім пясочкам. Гэты могільнічак кайзераўскіх жаўнераў Першай сусветнай вайны, мяркую, уратаваў Багушэвічаву сядзібу падчас Другой сусветнай вайны. Ва ўсякім разе, кушлянская сядзіба — адзіная ацалелая на Беларусі пісьменніцкая сядзіба XIX стагоддзя, якую больш-менш абмінулі віхуры войнаў, хоць вайна круцілася тут неаднойчы. Гэтак было і ў апошнюю вайну. Завіталі прынагодна гітлераўскія ваякі ў Кушляны і аж бачаць паблізу сядзібы няблага дагледжаны могільнічак з цэментавымі крыжамі. А на іх прозвішчы ваякаў і даты: 1915, 1916 і аж да 1917 года. Гэта якімсь чынам змусіла гітлераўскіх ваякаў больш-менш паважліва аднесціся да тутэйшай мясціны.

Вялікі нямецкі могільнік з той вайны быў і на колішняй кушлянскай сядзібе Шафнагеля. З могілак засталіся толькі два мураваныя каменныя конусныя слупы. Гэта была могілкавая брамка. На адным з іх па-нямецку выціснута: «Vaterland».

## Жывуць Кушляны!

За Багушэвічавым часам назваю Кушляны аб’ядноўвалі некалькі фальваркаў і адзін засценак. Але жыццё на месцы не стаіць. Кожны дзень ды нешта мянялася і мяняецца. Якія ж Кушляны сёння?

Зараз гэта — самая звычайная, на пятнаццаць двароў, невялікая беларуская вёска. Да нядаўняга часу тут была калгасная

ферма. Яна месцілася ў мураванай Багушэвічавай аборы. Догляд жывёлы на гэтай ферме быў асноўным заняткам Багушэвічавых землякоў.

Калгасная кантора месцілася ў доме колішняга Багушэвічавага суседа Маркоўскага. У Багушэвічавай хаце ў гэтую пару жылі колішнія арандатары ягонай сядзібы — Жаброўскія, Петрашэўскія… Усяго шэсць сем'яў знайшлі прытулак пад страхой паэтавай хаты.

У пяцідзясятых гадах шмат хто з карэнных кушлянцаў пераехаў у Польшчу. У Польскую Народную Рэспубліку пераехалі і колішнія Багушэвічавы суседзі: васьмідзесяцігадовы Станіслаў Альхімовіч, такога ж веку Зося Ясевіч, іхнія дзеці, сваякі. Але, як кажуць, святое месца пустое не бывае. Адразу ж пасля вызвалення Смаргоншчыны ад гітлераўскай навалачы ў Кушляны прыехалі жыць Гарынічы, Піменавы. Прыехалі з далёкай адсюль Смаленшчыны. Пачулі, ці хто падказаў, што на Беларусі вызваляюцца колішнія панскія фальваркі — і прыехалі. Напачатку жылі у доме Шафнагелькі (Зосі Ясевіч), а затым разбудаваліся, разам з іншымі перасяленцамі заснавалі новую ў Кушлянах вуліцу. Перасяленцы з Расіі даволі хутка абжыліся, засвоілі тутэйшыя звычаі, мову, увабралі ў сябе розныя апавяданні пра Ф. Багушэвіча, паданні і легенды гэтага краю. Ім у памяці і даўнейшыя кушлянскія краявіды.

Гэта ўсё вельмі важна, бо за апошнія гады гістарычныя краявіды Кушляншчыны надзвычай змяніліся. Зніклі некаторыя старыя дарогі. У 1987 годзе асушылі апошні лапік Ваўкелаў, выкарчавалі астатні дуб, паўз Ваўкелы ўскрай поплаву праклалі дарогу-жвіроўку, засыпалі студню паблізу сажалкі. Пазнікала з Кушлянаў старасвецкая гаспадарчая забудова: пуні, адрыны, свірны, старыя каплічкі, крыжы. А пасля Вялікай Айчыннай вайны Кушляны заставаліся яшчэ амаль такія, якія былі за Багушэвічавым часам, некранутыя. Першапачатковае іх аблічча паціху пачало разбурацца ў сярэдзіне пяцідзясятых гадоў, калі з Кушлянаў пачалі вывозіць пакінутыя гаспадарамі дамы. Так, дыхтоўны Альхімовічаў дом, які стаяў побач з Багушэвічавым, перавезлі ў вёску Куляшы пад школу, Ясевічаў — за рэчку ў Солы, Мніховічаў — Багушэвічавага зяця — у Жодзішкі, на патрэбу МТС. Была пагроза і Багушэвічавай хаце. Яе хацелі

таксама прадаць на знос. Знайшоўся ўжо і купец. Ды толькі не па кішэні аказалася яму Багушэвічава будыніна. А пасля нехта спахапіўся: «Што ж гэта мы робім, браткі?! Чый жа гэта дом? На што замахнуліся?! Адумайцеся!»

У 1951 годзе вырашылі дагледзець паэтаву хату: зрабілі рамонт, гонтавую страху замянілі на ліставую, бляшаную. Аднавілі веранду. Праўда, не зусім адпаведную той, якая тут была даўней, але ў агуле вельмі падобную. Тады ж у паэтавым доме адчынілі бібліятэку. З гэтага ж году ў Багушэвічаву хату пераехаў Міхал Ляпеха, які больш за сорак гадкоў без стомы рупіўся на паэтавай сядзібе, даглядаў яе, як мог, каб нам, нашчадкам вялікага песняра, было дзе адчуць яго эпоху, ягоны паэтычны дух. Бог надзяліў дзядзьку Міхала прыродным розумам, чуйнай душою. Да яго шчыра гарнуліся людзі. Ён мо як ніхто адчуваў жывое паэтычнае слова Мацея Бурачка. Слова гэтае з ягоных вуснаў у песняровым доме гучала пераканаўча і натуральна. Апякуючыся не адно дзесяцігоддзе паэтавай сядзібай, дзядзька Міхал з простага селяніна развіўся ў асветніка, дзеяча культуры. Гэта адчувалі ўсе, хто наведваў Багушэвічаў дом, ягоную сядзібу. Такім адчуў яго і фотамаэстра Анатоль Кляшчук.

## Бацяны над Кушлянамі

Кушляны — найпрыгажэйшы куточак Смаргоншчыны. Гэтую ціхую і надзвычай вабную мясціну з даўніх часоў аблюбавалі не толькі людзі, але і рознае птаства. А найбольш — бацяны. Некалі тут для іх была вялікая выгода. Дужа вольна жылося ім найперш на Ваўкелах. Хапала і вільгаці, і featured рознага харчу, і старадрэвіны пад буслоўкі! Але вось Ваўкелы асушылі — і бацяны пакінулі кушлянскія буслоўкі. Здавалася б, назаўсёды. Але не.

— Вось колькі памятаю сама сябе, ад малых гадоў, — расказвае жыхарка Кушлянаў Ірэна Васілеўская, — кожную восень, у самым канцы верасня, на кушлянскіх палях і сенажацях адбываецца штосьці неверагоднае. Знекуль і нечакана злятаюцца ў Кушлянах цэлыя статкі бацяноў, і тады навакольныя па-

леткі становяцца белыя-белыя ад птахаў. У такія хвіліны ўсе кушлянцы выходзяць любавацца гэтым фантастычна незвычайным відовішчам, гэтым дзівам.

Звычайна бацяны прылятаюць у Кушляны абедам. Спачатку ляцяць над Багушэвічавай сядзібай, мінаюць яе і кіруюцца на Дубелішкі. Там ацалела яшчэ колькі дубоў. На тых дубах бацяны і асядаюць. А пасля рассыпаюцца па кушлянскіх лугах і палях. І ўсё нешта самотна лапочуць, усхопліваюцца, пералятаюць, махаюць крыламі, гукаюць адзін аднаго. Гучна трубяць, з нагі на нагу ступаюць, курлыкаюць, нібы журавы.

І гэтак кожнага году. Пераначуюць у Кушлянах, перавядуць дых, а назаўтра рана-рана ляцяць некуды далей — за кушлянскі лес Агульніцу. Поўнае неба магутных белых птахаў у лёце. Файны гэты малюнак! Грацыёзны! Вачэй не адвесці. Кушлянцы ўжо звыкліся з ім. І ўсё ж кожны год яны чакаюць прылёту буслоў з нецярплівасцю, а мо нават і з трывогаю: «А ці паўторыцца ўсё гэта наступным годам?»

Пакуль бацяны не здраджвалі сваёй векавой традыцыі, ніколі не абміналі Кушляны. Сваім прылётам яны цешылі ўжо не адно пакаленне кушлянцаў, не раз на нейкае імгненне апаэтызоўвалі тутэйшую мясціну. А як яно будзе далей?

Адно вядома, кушлянцы заўсёды рады іх прылёту. Для іх начлегу, для іх перадыху тут ёсць усё: і ўрачыстая восеньская цішыня, і палі з сенажацямі, і волаты-дубы, і добрыя, вельмі гасцінныя людзі, якія ніколі іх не пакрыўдзяць, не парушаць іх буслоўскі лад і згоду.

Сімвалічна: Францішак Багушэвіч вярнуўся з сям'ёй сваёй у родную старонку ў 1884 годзе разам з кушлянскімі бацянамі акурат на Звеставанне. Якраз пра гэта ён і напісаў у 1885 годзе свайму варшаўскаму прыяцелю Яну Карловічу: «Прыбылі мы сюды на Звеставанне 1884 года, як буслы». Нагадаю, Звеставанне прыпадае на 25 сакавіка.

# Камень памяці

Гэты вялізны амшэлы, шурпата-парэпаны валун на ўскрайку Кушлянскага лесу ніхто з наведвальнікаў не міне, не абыдзе, хоць ён і далекавата ад сядзібы, наводшыбе ад яе. Да яго заўсёды прывядзе тая ж маляўнічая каштанавая прысада. Праўда, каб патрапіць да валуна, трэба мінуць Лысую гару, спусціцца з некрутога пагорка, прайсці яшчэ трошкі нізінаю — і па левую руку, на вясёлым суцішным, сярод маладога хвойніку сонечным прагале ляжыць гэты волат. Ляжыць нерухома, з немаведама якога часу. Згадваюць, што гэта была мясціна паэтавай адзіноты. Тут яго найчасцей бачылі аднаго, сам на сам з сабою. Бывала, прыйдзе, сядзе ў зацішку дзе-небудзь поблізу валуна ці на сам валун — гэта залежала ад надвор'я — і пачне штось пісаць. Папіша-папіша і пад валун сваё пісанне схавае — была ў яго там такая схова. А пасля спакваля, нетаропка, заклаўшы рукі за спіну, вяртаецца на сядзібу, нібы з пагулянкі. А як не стала гаспадара, прыйшлі сюды людзі — майстры-каменячосы, сябры, сям'я — і выбілі надпіс на тым валуне: «Памяці Мацея Бурачка». З тае пары ідуць і ідуць да гэтага валуна людзі. Багушэвічавы сучаснікі прыходзілі сюды, паводле іх жа слоў, каб паплакаць па сваім заступніку. Нашы ж ідуць, каб прычасціцца сэрцам і душой да мясціны, што авеяна легендамі. Паводле адной з іх, у першую імперыялістычную вайну каля гэтага каменя чагось поркаліся немцы: скарб які шукалі ці яшчэ што. Скарбу знайсці не знайшлі, а камень у адным месцы, знізу, дынамітам папсавалі. І паперы якіясь з-пад каменя павыкопвалі. Але браць іх не бралі. Тыя паперы ля каменя ганяў вецер, мачылі дажджы. Кушлянец Сідора Ясевіч тыя паперы на свае вочы бачыў, пасучы паблізу кароў. Падняў колькі аркушаў. Усе яны былі пісаныя. Друкаваных не было…

Гэтую гісторыю пра Багушэвічавы вершы з-пад валуна ў Кушлянах ведаюць усе. Яна вельмі ўзрушыла нашу паэтэсу Дануту Бічэль-Загнетаву. З гэтай нагоды з-пад яе пяра выйшла:

Аксамітам зеллечка падасланы,
удумліва ўглядаецца ў блакіт…

Вось прыходзяць ворагі ў Кушляны
і кладуць пад камень дынаміт.

Вершыкі ўзлятаюць, нібы пер'е,
з-пад ляснога каменя ў бязмер'е,
быццам камень той
знутры пушаны.
Ловяць іх знямелыя Кушляны…

Надзвычай глыбока асэнсаваў Багушэвічаў камень, камень памяці Багушэвіча, другі наш паэт — Мар'ян Дукса. У аднайменным вершы пра гэты камень ён напісаў:

Сумысля, можа, колішні ляднік
цябе ўскаціў на радасны пагорак —
бліжэй да сонца і бліжэй да зорак,
нікуды каб з вачэй-нябёс не знік.

Усё-ткі думаць хочацца: знарок
цябе ён недзе клапатліва вырыў,
з вялікай мэтай сярод іншых выбраў,
прынёс у край,
дзе з'явіцца прарок.

Крыху пасля дажджыстыя вятры
з любоўю, ад душы адшліфавалі,
каб на сваім падоўжаным прывале
сцвярджаў пра вечнасць з радаснай гары…

Невыпадкова і не так сабе
ты зрок сялянскі ўразіў пры нагодзе
і на пачатку гэтага стагоддзя
аблюбавалі з гонарам
цябе.

Вясна тут сёння дыхае ў шчаку,
буяе лапушыста месяц травень.
І ўсё вянчае натуральны камень
са словамі: «Мацею Бурачку».

Ніхто гадаць не будзе тут, чаму
такі валун узвысіла прырода
і ад сябе, і ад свайго народа
вялікаму абранніку свайму.

У 1983 годзе ўдзячныя кушлянцы пасадзілі каля каменя памяці Францішка Багушэвіча, каменя памяці паэта-земляка шэсцьдзесят дубкоў. Кожны з іх сімвалізуе пражыты песняром год.

Шэсцьдзесят дубкоў — шэсцьдзесят гадкоў. Такі быў век песняра з Кушлянаў.

Узышлі паэтавы гады
у Кушлянскі вечар маладыя.
А на кожным дубе ёсць гняздо,
а ў гняздзе віхураў сто.

*(Д. Бічэль-Загнетава)*

Гісторыя кушлянскага каменя, яго летапіс, як бачым, доўжыцца.

## Кушляны вачамі мастака

З дарэвалюцыйных часоў сядзіба Мацея Бурачка стала месцам паломніцтва. Асвечаная Багушэвічавым імем, яна прываблівала і прываблівае шматлікіх сімпатыкаў яго творчага і грамадзянскага подзвігу. Тут пабылі Эліза Ажэшка, Цётка, Янка Купала, Уладзіслава Францаўна Луцэвіч; яшчэ раней — у канцы мінулага стагоддзя — яе брат Вінцэнт, а таксама акцёр трупы Ігната Буйніцкага Зыгмунт Абрамовіч і шмат хто іншы.

У пазнейшыя часы Кушляны наведалі Максім Танк, Пятро Глебка, Алесь Махнач, Заір Азгур. Кожны па-свойму прычашчаўся да гэтай зямлі. Памяць пра Кушляны пакінуў і мастак Язэп Драздовіч. Ён наведаў гэты край, гэты кут у канцы лета 1929 года. Набліжаліся трыццатыя ўгодкі з дня смерці вялікага песняра, і заходнебеларуская інтэлігенцыя думала, як найлепей ушанаваць яго памяць.

Гэты клопат турбаваў і самабытнага мастака Язэпа Драздовіча. Вобраз паэта быў надзвычай блізкі і дарагі яму. Ён рана пазнаёміўся з яго пранікнёнымі творамі. Асабліва моцна ў душу Драздовіча запалі Багушэвічавы прадмовы да зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі». Якімсь агнём палілі яго юначае сэрца словы-заклікі шанаваць усё роднае, дарагое, блізкае і найдаражэйшае — родную мову. Гэты агонь вечнай любасці да песняра і прывёў яго, нястомнага падарожніка, у кушлянскі край.

Чалавек з мальбертам, з алоўкам, з пэндзлем у руках для Кушлянаў не быў дзівам. Ужо ў канцы мінулага стагоддзя гэты кут наведвалі віленскія мастакі. Яны пакінулі нам замалёўкі суседніх сяліб — Ясевічавага двара, Шафнагелевага маёнтка. Паэтава ж сядзіба на іх аркушы не патрапіла. У 1894–1896 гадах Багушэвіч яшчэ будаваўся, яго сядзіба была ў рыштаванні. Аднак і яна дачакалася свайго ўшанавальніка.

Язэп Драздовіч у 1929 годзе працаваў у Навагрудскай беларускай гімназіі, выкладаў там маляванне. З Навагрудка ён і прывандраваў да Багушэвічавай сядзібы.

Дык вось якая яна — песнярова зямля, калыска яго натхнення! Пагоркавая, зялёная, уся пад шатамі старасвецкіх дрэў! Старасветчынай тут дыхала яшчэ ў тую пару ўсё. Нізкія, з прыземістымі стрэхамі вялізныя аборы, свірны, пуні, шырока і ўладарна, нібы бабы-векавухі, парассядаліся на сваіх адвечных лапіках. На кожным кроку абымшэлыя каплічкі, крыжы, студні са скрыпучымі сохамі і стрэламі. Адзін толькі Багушэвічаў дамок глядзеў неяк прыветна і весела. Яго і пачаў маляваць Драздовіч. Ён дакладна, да драбніц, перадаў нам песнярова жытло. Дамок яшчэ пад гонтаю, з двума комінамі, але ўжо раскідана веранда — яна была калісь праз усю паўднёвую сцяну: няма перш за ўсё той просценькай, вясёлай балюстрады з няхітрым разным арнаментавым узорам, засталіся толькі слупкі, дый тыя, здаецца, не ўсе, стрэшка над імі.

З малюнка відаць, што сядзіба атулена плотам; мастак занатаваў далёкім планам абрысы каплічкі і любімай Багушэвічавай алеі-прысады. Кідаюцца ў вочы і дзве невялікія цёмныя, дужкамі, плямкі на страсе. Гэта дахавыя, ці інакш, слухавыя

акенцы. Нішто, ні адна дэталь не засталася па-за ўвагаю мастака.

Пра што ж думаў мастак, калі маляваў? Якія вобразы мроіліся яму? Дзённікі, нататкі той пары не ацалелі. Застаецца толькі праз развагі ды скупыя ўспаміны сучаснікаў аднаўляць яго задумы.

…Вось рука мастака акрэсліла два акенцы злева, затым сярэдняе, вялікае, венецыянскае. За першымі двума быў калісь гасцінны пакой — салон, тут паэт сустракаў гасцей.

За вялікім венецыянскім акном панаваў іншы настрой — засяроджанасць, удумлівасць. Тут быў рабочы кабінет. Тут апрацоўваліся вершы, пісаліся лісты сябрам, складаўся слоўнік беларускай мовы. Праз гэтыя вокны паэт глядзеў у далёкі і блізкі свет.

Язэп Драздовіч не толькі маляваў, але і гутарыў з кушлянцамі, распытваў у іх усё пра песняра, запісваў пачутае ў нататнік.

Хто ж жыў у тую пару з Багушэвічавых сваякоў у Кушлянах? З кім з іх ён мог напаткацца? Хто мог выйсці з хаты, заўважыўшы перад сваім домам мастака?

Як сведчыць паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская, пасля першай імперыялістычнай вайны Багушэвічы ў Кушлянах былі наездамі, прыязджалі толькі на лета. Але ў 1929 годзе ўжо не было асабліва каму ездзіць. Хіба толькі Туня з сваім мужам Янам і хворым сынам Франакам ды Тамашовы дзеці. Самога Тамаша ўжо не было. Улетку гэтага ж года назаўсёды пакінула Багушэвічаў і белы свет Габрыэля Шклёнік, паэтава жонка. Так што заставалася адна Туня. Гутарыў Язэп Драздовіч, безумоўна, і з іншымі кушлянцамі. Моцныя яшчэ былі Стась Альхімовіч, Петра Каспяровіч, Сымон Клуйша, Вільгельм Невядомскі… Усе яны памяталі Ф. Багушэвіча, не раз сустракаліся з ім. Пасля Язэп Драздовіч пра сваю вандроўку на Кушляншчыну, пра свае ўражанні ад гутарак і сустрэч з кушлянцамі раскажа на жалобнай вечарыне сёмага снежня 1930 года ў зале віленскага касцёла святога Мікалая. Тут жа ён пакажа і свае замалёўкі з гэтай вандроўкі. І сярод іх славутую, з 1863, у гонар паўстання, каплічку на Багушэвічавай сядзібе, памятны камень-валун з вядомым надпісам лацінскімі літарамі: «Памяці Мацея Бурачка, 1900 г.» І сямейную магілу Багушэвічаў на Жупранскіх парафіяльных могілках. Менавіта з гэтай замалёўкі мы маем

уяўленне, як пачаткова выглядала Багушэвічава магілка. На ёй бачым высокі дубовы крыж з двума вялікімі на ім вянкамі. З ніжняга вянка звісае канец вытканай стужкі-пояса. Мусіць, той, на якой былі выпісаны словы: «Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы», «Мацею Бурачку ад мужычкоў-беларусаў».

Ці былі яшчэ іншыя замалёўкі з Багушэвічавых мясцін у альбомах мастака — пра гэта мы не ведаем. Нават арыгіналы згаданых тут малюнкаў таксама пакуль не знойдзены. Мы карысталіся толькі рэпрадукцыямі з кніжкі «Францісь Багушэвіч. Яго жыццё і творчасць», што выйшла ў 1930 годзе ў Вільні да трыццатай гадавіны смерці песняра.

У 1930 годзе, у пачатку лістапада, у Вільні Драздовіч завяршае вялікі, на суровым палатне, алейны партрэт Францішка Багушэвіча.

Паэтава постаць заўсёды была блізкая Драздовічу. У сваёй творчасці ён ішоў тымі ж шляхамі, што і аўтар «Дудкі беларускай». У іх было шмат агульнага. А найперш абодва шчыра рупіліся дзеля роднага народу. Роднаму народу яны аддалі ўвесь свой талент.

## З вышыні птушынага палёту

Гожы кушлянскі кут! Гожыя і яго ваколіцы! Высокае, як акіян, неба. Глыбокія, з ярамі ды далінамі, далягляды. Куды ні кінь вокам — на Трыколі, на Ваўкелы, на Трахімы, на Вадацеч, на Лысую гару, на Дубелішкі — усё бачыцца з паэтавай сядзібы выразна, акрэслена. А якія ж Кушляны з вышыні птушынага палёту! Даўней, апрача хіба саміх птушак, ніхто і ніколі не бачыў паэтавай сядзібы з вышыні. Нават сам гаспадар. Хіба толькі з высокага дрэва! Але ж ці з высокага дрэва ўбачыш кушлянскі абсяг так, як з нябёсаў? Але мінаў час, і знайшліся людзі, якім захацелася зірнуць на паэтаву сядзібу і з-пад неба. Імі сталіся стары беларускі геолаг Вячаслаў Шыдлоўскі і верталётчык Іван Грышчанкоў. Балазе, пад рукою ў іх быў верталёт. У шасцідзясятыя гады яны спазнавалі на Ашмяншчыне яе нетры, складалі план мясцовасці, рабілі геолагаразведвальныя доследы.

Вось адзін з геолагаў, а ім быў якраз згаданы ўжо тут Вячаслаў Шыдлоўскі, і кажа верталётчыку: «Тут недалёка Багушэвічавы Кушляны. То давай, браце, над імі праляцім, паглядзім, якія яны, гэтыя Кушляны». І праляцелі, і паглядзелі, і сфатаграфавалі іх з вышыні. І тое, што з зямлі было вокам не ахапіць, з верталёта ўсё сталася як на далоні. Абрыс паэтавай сядзібы з ўсёй яе забудовай, з усімі прысадамі, з усімі дарогамі і сцяжынкамі змясціўся на адным аркушыку паперы, як на талерачцы. Далёка і хадзіць не трэба: усё са здымачка відаць. Злева — вузенькая палосачка жоўтай акацыі. Паміж пуняй і хатай — яловая прысада. Далей яна пераходзіць у каштанавую, якая даўней была пераважна вішнёвай. За хатай — паркавая частка сядзібы. Справа — яшчэ адна сядзібная прысада. Яна сягае ўніз да кушлянскіх Ваўкелаў. Адразу за пуняй блішчыць невялікі пралёт старой сольска-куцавіцкай дарогі, абапал якой між галыбеню колісь раслі магутныя кушлянскія волаты-дубы.

Сфатаграфаваць сфатаграфавалі, але захацелася паветраным рамантыкам яшчэ і па песняровай зямельцы патупаць-пахадзіць, моц і сілу яе адчуць. Зрабілі яшчэ круг-другі над Кушлянамі і селі. Селі, пахадзілі. Гэтак і яшчэ з’явіўся шэраг кушлянскіх здымкаў: верталётчык пры валуне памяці Мацея Бурачка з дзядзькам Міхалам ды іншыя.

## Жылі тут нябедна...

Гісторыя Кушлянаў ахінута шматлікімі таямніцамі. Колісь тут было цэлае гняздо фальваркаў — фальварак Маркоўскіх, фальварак Ясевічаў, фальварак Багушэвічаў. І ўсе гэтыя фальваркі адзін пры адным. Фальваркоўцы былі людзі нябедныя. Мелі такі-сякі скарб. Гэтыя скарбы, як даўней вялося, хаваліся звычайна ў зямлі дзе-небудзь пад дубам ці пры малапрыкметным камяні. Кушлянская зямля, можна меркаваць, таксама хавае скарбы. Пра іх часта баялі розныя легенды і паданні. Францішка таксама з малых гадоў цікавілі паданні пра скарбы. Пра адзін такі скарб Францішак Багушэвіч расказаў у вельмі прыгожай баладзе, якая гэтак і называецца «Хцівец і скарб на святога

Яна». Некалі я спрабаваў напытваць у старых кушлянцаў, ці не чулі яны якіх легендаў ды паданняў пра тыя тутэйшыя скарбы. На гэта мне казалі: «Чулі, чулі… Дзесь ляжаць… Але дзе?» А Марыя Башлыкевіч згадала, што Багушэвічы таксама мелі трохі золата. Аднаго разу якісь чалавек араў Багушэвічава поле і плугам успароў на тым поле невялікі скарб. Там былі розныя ланцужкі, пярсцёнкі. Чалавек той удаўся досыць справядлівы, аддаў усю сваю знаходку Мніховічам, Багушэвічавым сваякам. Мніховічы далі таму чалавеку за гэта аж дванаццаць пудоў жыта. Спадарыня Марыя Башлыковіч збольшага дасведчана і пра самі скарбы. Паводле яе, надараецца, што скарбы выходзяць самі з зямлі. Золата можа паказацца само, звычайна наверх выходзіць яно ўвечары. Калі ўгледзеў, што нешта свеціцца, ведай — гэта золата. Трэба тут жа нешта пакласці. Лепей тапак, ці ціжэмак, ці што іншае, але абавязкова з нагі, бо калі не пакладзеш, золата ўніз пойдзе, і тады цяжэй яго будзе дакапацца.

## Знаходкі

Парослы бур'янам груд колішняга Багушэвічавага, яшчэ дзедавага, хатнішча не даваў мне спакою. Не адзін раз і не аднаму мне думалася: «А што, калі б яго, гэты груд, раскапаць… Няўжо нічога не знайшлося б?! Павінна што-небудзь з хатняга побыту — хоць якая лыжка ці гузік — ды закінуцца…»

І вось у 1989 годзе, рыхтуючыся да 150-й гадавіны Францішка Багушэвіча, такія раскопкі на колішнім хатнішчы Багушэвічаў былі зроблены. Знаходкі былі самыя нечаканыя. Найперш на правай палавіне, у глухім куце, пры самым падмурку знойдзены армейскі багнет — плоскі штык, ужо добра з'едзены ржой, а таксама вялікая медная цэшка. Абедзве знаходкі ўражваюць. Ад іх дыхае воінствам, непакораю духу. Яны нам згадка найперш пра паўстанне 1863 года. Вельмі магчыма, з гэтым штыком хтосьці з Багушэвічаў хадзіў на паўстанне. Але вось цэшка… Яна не то жандарская, не то вайсковая. Як яна патрапіла пад страху Багушэвічавае хаты? Якое яе дачыненне да Багушэвічаў? Выпадкова занесена ці ўсё ж гэта якаясь сямейная рэліквія? Прыгадаем,

што Францішкаў брат Уладзіслаў быў вайскоўцам, афіцэрам Капорскага палка, затым судовым прыставам. Магчыма, і цэшка, і штык — гэта якіясь яго памяткі пра службу ў войску.

З іншых знаходак з хатнішча маецца вялікая цёмная бутэлька з-пад лідскага піва з надпісам «Lidski browar porowy» («Лідскі паравы бровар»). Гэтая знаходка — яшчэ адна нам згадка пра славу колішняга лідскага піва, пра повязь Багушэвіча з Лідай, Лідчынай.

Пры раскопе на старым хатнішчы былі знойдзены рэшткі фарфоравай талеркі з царскім арлом, розныя кавальскія рэчы: падковы, напрыклад, самавіты ключ. Сярод іх і надзвычай маляўнічая фігурная крата, якімі звычайна закратоўвалі акенцы ў каморах.

Тое-сёе з побытавых Багушэвічавых рэчаў было знойдзена і пры рэстаўрацыі новага Багушэвічавага дома, пабудаванага ў 1896 годзе. Прынамсі, драўляная, арнаментаваная, з узорамі лінейка-закладка з надпісам на ёй «Zakopane», а таксама шматок старога канверта з некалькімі невыразнымі словамі, напісанымі Францішкавай рукой.

Усе гэтыя знаходкі пашыраюць наша ўяўленне пра побыт Багушэвічаў, даносяць да нас подых часу. З многімі з іх можна пазнаёміцца ў мемарыяльным музеі ў Кушлянах.

## Багушэвічавы суседзі Маркоўскія

У свой час першы ахоўнік Багушэвічавай сядзібы Міхал Ляпеха казаў: «Уладзімір Ільіч, чаму вы, расказваючы пра Кушляны, нічога не гаворыце пра Маркоўскіх? А яны ж былі Багушэвічам і самыя блізкія суседзі, і сваякі…»

І гэта праўдзіва: працяглы час Маркоўскія заставаліся па-за маёй увагаю. Не было каму пра іх распавесці. Гэта адно. А другое — я не меў аніякай выявы з падабізнам Маркоўскіх. Але от лёс звёў мяне на завочнае ліставанне з колішнім кушлянцам, знаным у Польшчы мастаком і кінематаграфістам Каролем

Альхімовічам. З гэтага ліставання высветлілася, што Каролікава матуля з роду Маркоўскіх, што ягоны тата быў у шлюбе з Ядвіняй (Ядвігай) Маркоўскай. Каролік распавёў гісторыю гэтага незвычайнага шлюбу.

…Гэта праўда: Маркоўскія катэгарычна былі супраць шлюбу Ядвігі з Стасем. Мусіць, лічылі, што Стась Альхімовіч не пара іхняй Ядвісі, і рабілі ўсё, каб гэты шлюб не адбыўся. Аднак Ядвіся, нягледзячы на такі супраціў бацькоў, працягвала кахаць свайго Стасіка. Сем гадоў чакала яго з войска, хоць не было адбою ад кавалераў. Нарэшце дачакалася і зладзіла з Стасем вяселле. Ядвісіны бацькі па-ранейшаму не прызнавалі Стася за зяця. Але мінаў час, і штось зварухнулася ў сумленні Маркоўскіх, і тыя ўрэшце прызналі Стася за свайго і пусцілі яго ў кушлянскі дом. Іх ужо сталася трое. А дом Альхімовічаў напраўду быў дыхтоўны, вялікі, трывалы, на дваццаць адно вакно: шэсць вокнаў ад фронту плюс два на зашклёнай верандзе, шэсць з тылу, тры ад Багушэвічавага боку, два з кухоннага выхаду і два на гарышчы, на нахацці. Усяго разам дваццаць адно вакно.

Разам з расповедам пра Стасеў шлюб і апісаннем дома Маркоўскіх Каролік прыслаў ксеракопію сямейнага здымка Маркоўскіх — сем асоб. Паводле Каролікавай расшыфроўкі, на гэтым здымку найперш падабізны старэйшых Маркоўскіх: Ян (1852–1915), побач з ім ягоная жонка Станіслава Маркоўская з Ясінскіх (1856–1939), за імі стаяць Кароль Маркоўскі (1890–1920, памёр кавалерам) і Ядвіга Маркевічанка (1887–1939) — менавіта яна стане матуляй К. Альхімовіча. Затым ідуць малыя дзеці: Юзэфа Маркоўская (1892–1919), з ёй возьме шлюб паэтаў сын Тамаш Багушэвіч; Эмілія Маркоўская (1880–1919) — Чыжова жонка. Гэты здымак з 1900 года, якраз з таго года, калі пакінуў белы свет слынны сусед Маркоўскіх Францішак Багушэвіч. З усіх гэтых асоб ведалі і памяталі Францішка Багушэвіча найперш старэйшыя Маркоўскія — Ян ды ягоная жонка Станіслава, а таксама Каролікава матуля Ядвіся з Марыяй ды Каролікам. Гэты здымак дае нам не толькі падабізны Маркоўскіх, але ўяўленне, як апраналіся кушлянскія фальваркоўцы, якой моды, якіх фасонаў яны трымаліся. Цікавая і кампазіцыя здымка. Раз-

глядаючы гэты здымак, можна і яшчэ што-кольвек прыгадаць пра Маркоўскіх. Прыкладам, што ў Яна Альхімовіча быў брат Уладзіслаў. Ён, як і Францішак Багушэвіч, у 1863 годзе пайшоў на паўстанне. За ўдзел у паўстанні быў сасланы на Сібір. Там і памёр.

Згадваючы пра Уладзіслава Маркоўскага, трэба адзначыць: у час ягонага маленства ў доме Маркоўскага была прыватная школа з вандроўным настаўнікам Восіпам Клімашэўскім. У гэтую школу бегалі малодшыя дзеці і Казіміра Багушэвіча, і з навакольных фальваркаў і засценкаў. Тут колісь хадзіла па руках «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага, вучыліся любіць і бараніць свой край.

Паводле слоў Кароліка Альхімовіча, а ён спасылаецца на згадкі бабкі Маркоўскай, род Маркоўскіх у Кушлянах вядзецца з XVII стагоддзя і належыць да найстарэйшых родаў. Каролік Альхімовіч парупіўся скласці радавод Маркоўскіх, пачынаючы з свайго дзеда Яна Маркоўскага. Копію гэтага радаводу Каролік прыслаў мне. З гэтага радаводу відаць, што астатнюю з роду Маркоўскіх пахавалі 1 кастрычніка 1990 года ў Ольштыне. Пражыла дзевяноста два гады. От у каго было што распытацца пра Кушляны, кушлянцаў ды Багушэвічаў! Ды не знайшлося сярод нас кагось унікліва дападнага і выбітнага, каб распытацца ў яе пра тое, што нам усім было б цікава сёння. Але будзем удзячныя лёсу за ўсё тое, што ён данёс да нас пра Кушляны і кушлянцаў.

Зараз у Кушлянах ніхто з Маркоўскіх не жыве. Засталіся толькі іхнія даваенныя магілкі. Ды ў сямейных альбомах старыя пажоўклыя фотаздымкі, як той, пра які тут згадалася.

## Вялікі дзень

1990 год быў для Беларусі багаты на эпахальныя падзеі. 26 студзеня на чарговай сесіі Вярхоўнай Рады БССР быў прыняты Закон аб мовах. Паводле гэтага закона беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Вясною над Беларуссю ўрачыста прашугала свята славянскай пісьменнасці. А 27-га ліпеня

Сесіяй Вярхоўнай Рады БССР была прынята «Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі». А затым быў прыгожы Скарынаўскі юбілей. У гэтым суладдзі нашага духоўнага і палітычнага жыцця Беларусь шырока і годна адсвяткавала і 150-ю гадавіну народзінаў слаўнага сына нашага народа Францішка Багушэвіча. Свята ў Свіранах, свята ў Жупранах, Ашмянах, Смаргоні, Мінску, Гародні, Віцебску. Але найбольш гожа і ўрачыста прайшло Багушэвічава свята ў Кушлянах. І гэта зразумела. Кушляны — даўняе гняздо Багушэвічаў. Тут прайшло Багушэвічава маленства, юнацтва, апошнія гады жыцця. Тут былі напісаны яго лепшыя творы. Адсюль ішлі словы заступніцтва за абяздолены беларускі люд. Таму такая наша пільная цяга да Кушлянаў. 2 чэрвеня 1990 года Кушляны сталіся непазнавальныя. Наехала шмат гасцей, зблізку і здалёк — з Літвы, Мінска, Ленінграда, Украіны. Паўсюль фурманкі, вазкі… Машыны, машыны, машыны. І людзі, людзі, людзі… І ўкраса: фарбы лета, фарбы сцяжкоў, посцілак, ручнікоў. Гукі гармонікаў, скрыпак, сурмы, бубнаў… Пекары, кавалі, народныя ўмельцы… Вышывальшчыцы, ткаллі, мярэжніцы… Кнігі… І цэлае сузор'е паэтаў, пісьменнікаў. Здаецца, усё, чым была багатая, чым была таленавітая Смаргоншчына, сабрана на паэтаў юбілей. Такога яшчэ ніколі не бачылі Кушляны! Такога тут яшчэ ніколі не было! Без перабольшання — наш сталічны Мінск мог пазайздросціць і люднасці, і аздобе свята, яго дэмакратычнасці, непасрэднасці. Яно было яскравым водгуллем на паэтаву трывогу за лёс беларускага народа, яго мову, культуру. Свята ўсім сваім ходам, усёй сваёй шматфарбнасцю спявала, гаманіла, казала: «Мы памятаем твае засцярогі, твае запаветы, Мацей Бурачок! Мову сваю, звычаі свае шануем».

Два гады завіхаліся рупныя рэстаўратары ў Кушлянах, два гады рыхтаваліся да слаўнага юбілею. У абноўленым паэтавым доме адчыніўся мемарыяльны музей.

З 1987 года Багушэвічавымі Кушлянамі ўзяўся апекавацца малады тады яшчэ паэт Алесь Жамойцін. Ён прыехаў у Кушляны з Доцішкаў, з тых самых Доцішкаў, у якіх Францішак пачаў настаўнічаць у двары пана Звяровіча неўзабаве пасля звальнення з Пецярбургскага ўніверсітэта. Таму Алесь з першага

дня натуральна ўжыўся з кушлянскай рэчаіснасцю, нібы тут жыў увесь свой век. Ужо больш як дзесяць гадоў ягоная душа зліваецца з душою нашага праўдашукальніка Мацея Бурачка. Пад страху Багушэвічавага дома вярнуліся шмат якія яго рэчы. Стваральнікі экспазіцыі парупіліся, каб у паэтавым доме сталася так, як было за ягоным жыццём. Як і даўней, адсюль праменяцца нашы беларускія ідэі, беларускі дух. Пэўна, таму сюды як ішлі, гэтак цяпер ідзе люд з усяе Беларусі, каб прычасціцца да гэтай святыні, пакланіцца таму, хто клікаў беларусаў да свядомага нацыянальнага жыцця, да навукі і асветы, хто нашу мову называў Святой.

Адгукнуўся на адкрыццё Кушлянскага музея і Мар’ян Дукса:

Як позна да сябе прыйшлі.
Цябе любілі на паперы.
А расчыніць шырока дзверы —
збаяліся, занемаглі?

Чаму праспалі лепшы час?
Усё яшчэ даймалі страхі,
што возьмуць некага пад пахі,
каб не схацеў наступны раз?

А можа, шмат сляпых, глухіх
ёсць сярод нас — мо ўсе навокал?
Завучвалі чужых прарокаў
і білі палкамі — сваіх.

Глядзелі сціпла з-пад вярбы
і за падкінутую лусту
служылі мы свайму халуйству,
са стажам радасным рабы.

Пакорненька маўчалі мы.
Нас мучылі не толькі немцы,
але і нашы іншаземцы
за нораў ціхі і нямы.

Наш дух усё-ткі не аслаб,
і мы не з кволенькай кагорты.

Здымаем путы з ног нацёртых
і выкідаем з рота кляп.

І да цябе ад той зямлі,
дзе слова роднае мацнее,
наш сейбіт ранні, наш Мацею,
хоць позна, але мы прыйшлі!

Мы далучылі твой куток
да сэрца шчырага навекі.
Мы ўсе — твае галлё і рэкі.
Мы дзякуем за наш выток!

## Паклон песняру

Шмат каго прывеціў Багушэвічаў дамок. Кушляны нам усім дарагія, гэтак жа, як і Вязынка, і Мікалаеўшчына, Смольня, таму і не дзіва, што ў гэты кут ідуць і едуць людзі з далёкіх і блізкіх краёў — сталыя і юныя, вучоныя і дзяржаўныя дзеячы, журналісты і пісьменнікі, аратыя і сейбіты, настаўнікі і мастакі. Усім ім хочацца пабыць на той зямлі, адкуль у гады беспрасветнай цемры і здзеку раздаўся мужны голас заступніцтва за Беларусь, беларусаў, за абяздоленага селяніна, за пагарджаную яго спрадвечную бацькоўскую мову. Пра гэта шматлікія водгукі ў кнізе наведнікаў Багушэвічавага дома, якая вядзецца тут з часу адкрыцця ў паэтавай хаце бібліятэкі-чытальні, калі дзверы паэтавай хаты шырока расчыніліся для ўсіх прыхільнікаў яго таленту. Згадаем некаторыя з іх:

«…Мы ўсе выйшлі з Багушэвіча, ён быў адзін з першых, хто думаў аб народзе».

*Адам Мальдзіс*

«Няўмольны час многае змяніў тут, многае разбурыў, а многае і зусім схаваў ад нас. Але людзі захавалі шмат чаго…

Спадзяемся дажыць да тых шчаслівых гадоў, калі можна будзе наведаць багаты, сапраўдны музей Ф. Багдановіча на

яго ўзноўленай сядзібе. Ён заслужыў гэтага, наш мужыцкі адвакат».

*Е. Мацюш (Мінск)*

«Калі прыязджаеш на радзіму паэта-песняра, вялікае маеш уражанне аб месцы, дзе жыў і працаваў ён…

Імкненне ведаць больш таго, што ведаю, і прывяло мяне ў гэтую старонку, бо Радзіма і яго, і мая — гэта наша Белая Русь».

*Уладзімір Шымановіч (в. Жупраны)*

«Мы пабывалі ў хаце паэта, пахадзілі па дзядзінцы. Чыталі вершы любімага песняра…

Пасля наведвання музея імя Ф. Багушэвіча ў Ашмянах і Кушлянаў мы сталі яшчэ бліжэй да свайго земляка, яго творчасці. Ніколі не змоўкнуць тыя песні, якія іграў Ф. Багушэвіч на дудцы».

*Навучэнцы і выкладчыкі Вільнюскага і Ашмянскага сельскагаспадарчых тэхнікумаў*

«Нізкі паклон зямлі Багушэвіча і гэтаму старому дому, які да гэтага часу свеціць святлом мудрай паэзіі вялікага песняра».

*Т. Кароткая, Н. Гарэлкіна, В. Карыціч (Мінск)*

«Даражэнькі Мацею Бурачок, незабыўны наш Францішак Казіміравіч!

Жывуць беларусы, мову сваю сцерагуць, памятаючы наказ Ваш: “Сцеражыце мовы сваёй, каб не ўмёрлі”.

Неўміручыя мы — Вашай спадчынай…

Благаславёны будзь, святы куток зямлі беларускай!»

*А. Каўка, доктар гістарычных навук (Масква)*

«І ў мяне сёння вялікае свята. Я прычасціўся да зямлі Багушэвіча»

*Яраслаў Пархута*

«Сённяшні дзень застаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё. Збылася мая даўняя мара: я пабываў у доме Францішка Багушэвіча, творы якога добра знаёмыя мне з дзяцінства. Многія яго творы

ведаю на памяць. Нам, яго землякам, дорага ўсё, што звязана з яго жыццём і творчасцю».

*С. Міхна, доктар Пабрадскай бальніцы (Літва)*

«Мы з вялікім хваляваннем набліжаліся да той мясціны, дзе правёў свае апошнія гады чалавек, які стаяў ля вытокаў беларускай паэзіі. Тут помняць і любяць вялікага земляка. Хочацца сказаць вялікі дзякуй тым нямногім людзям, якія робяць усё магчымае для захавання памяці пра паэта».

*А. Кумачоў, Л. Круль, Н. Кузьмянок, Б. Татарынаў,*
*супрацоўнікі БДУ імя Леніна*

«Вялікія справы вялікага сына беларускага народа будуць заўсёды ў памяці народа і будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне».

*Пархоменка, Гуштыновіч, аграномы*

«Прымі наш нізкі паклон, паэт-дэмакрат, ад Купалавага краю, ад Вязынкі і Маладзечна. Стагодовы юбілей Янкі Купалы і Якуба Коласа — гэта і твой юбілей, бо твае творы выхавалі не адно пакаленне паэтаў зямлі беларускай».

*Ю. Церабун (Маладзечна)*

«Упершыню мы наведалі мясціны Ф. Багушэвіча. З хваляваннем пераступілі парог дома паэта-змагара, дэмакрата. Радасна на душы, што такі чалавек жыў і працаваў у нашых мясцінах».

*Настаўнікі і вучні Рудзішскай школы Ашмянскага раёна*

«Прыемна наведаць мясціны, дзе жыў беларускі пісьменнік Ф. Багушэвіч».

*Чэслаў Кудоба, прафесар Вільнюскага ўніверсітэта*

«Кушляны… Як дорага гэтае слова для кожнага беларуса. Разам з Уздзеншчынай і паэтычнай Ушаччынай яно ўваходзіць у нашы сэрцы з самага маленства… І нам вельмі прыемна прайсціся па сцежках, па якіх калісьці хадзіў выдатны беларускі паэт — Францішак Багушэвіч».

*Члены лагера працы і адпачынку «Юнацтва»*
*Сенькаўскай СШ*

«Нацыянальная святыня — куток зямлі беларускай Кушляны — павінны стаць гонарам для кожнага беларуса, кожнага госця, які да нас завітае.

Хлеб-соль вам, Кушляны!»

*Янка Каньшка (Мінск)*

«Многа гадоў я марыла, каб убачыць на свае вочы дом-музей Францішка Багушэвіча. І вось ён перада мной… Праўду кажуць, што лепей адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. Гэта ў маёй памяці застанецца назаўсёды. Я ніколі не забуду сустрэчу з Францішкам Багушэвічам».

*Зоя Сытая (в. Канюхі Гродзенскага р-на)*

«З цікавасцю і хваляваннем наведала хату вялікага чалавека нашай зямлі. Цудоўна, што яна захавалася, што сюды могуць зайсці людзі і з далёкіх краёў, і яго землякі. Якое ўздзеянне на эмоцыі, на эстэтычнае выхаванне людзей, асабліва моладзі, ён мог аказаць!»

*О. В. Шэніна (Гродна)*

«Прыемна, што сцежка сюды ўжо не зарастае».

*Жыхары Смаргоні*

«Кланяюся зямлі гэтай святой, дыхаю гэтым гаючым паветрам — і ўваскрасае вера ў народ, у вечнасць!

Не зніклі беларусы!

Дзякуй Радзіме чыстай, што даравала нам змушанае адрачэнне.

Чую голас крыніцаў дзедавых. І жыву!»

*Нашчадак Францішка Антаніна Хатэнка*

«Нараджай часцей, родная беларуская зямля, такіх сыноў, як Мацей Бурачок, — ахвярнага народнага заступніка, адваката праўды, змучаных і абяздоленых.

Памагай нам, Францішак Багушэвіч, жыць сёння па-людску, рабіць усё, каб мы не ўмёрлі!..»

*Тваe нашчадкі Уладзімір Паўлаў, Казімір Камейша, Юрась Свірка, Алесь Жамойцін, Васіль Зуёнак, Пятрусь Макаль, Алесь Пісьмянкоў*

«Дай Божа, каб дарагое імя паэты асвятляла наш розум, рабіла нас народам.

Хай несмяротныя запаветы Вялікага народнага паэта і надалей свецяць сынам і дочкам Беларусі, — каб не згубілі свайго ўласнага шляху да шчасця».

*Ніл Гілевіч, народны паэт Беларусі*

«Цяпер больш, чым калі, мусім помніць Багушэвічаў кліч: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”»

*Ола Орса-Рамана (Нью-Ёрк)*

# У вянок Багушэвічу

Наведнікі Кушлянаў сваю шчырую ўдзячнасць, сваё шчырае прызнанне паэту за словы заступніцтва і абарону простага люду выказвалі і выказваюць не толькі прозаю, звычайным будзённым сардэчным словам, але і вершамі. Адзін з іх — каваль з вёскі Ленкаўшчына, што ля Маладзечна, асэнсоўваючы паэтычны і грамадзянскі подзвіг аўтара «Дудкі беларускай», напісаў:

Любімыя для іншых зоры,
Вясну, бярозкі, васількі,
Ён абмінуў, ён пеў аб горы,
Ў якім танулі мужыкі.
Упарта думаў над тым гругам,
З якога выхаду няма.
І стаў ён непарыўным другам
Людзей бяздольнага ярма.

У гэтых радках паэт-самавук Юліян Сергіевіч выказаў усю сваю любоў да песняра, які, кажучы словамі аўтара, «у змрочным часе свайго веку / Над цемрай успламяніў зару».

Менавіта за гэта перш за ўсё яму ўдзячнасць народная і памяць чалавечая. Але не толькі за гэта. Паводле слоў Сергіевіча, паэт дапамог сваім талентам, шчырым паэтычным словам тысячам беларускіх сялян усвядоміць чалавечую і нацыянальную годнасць, абудзіў у іх памкненне і мару да волі.

Радзіўся голас у народзе,
Як жыватворная вада,
І стала марыць аб свабодзе
Сялян сярмяжных грамада.

Такое ж разуменне грамадзянскага подзвігу Ф. Багушэвіча і ў другога паэта-самавука Язэпа Ермаковіча, цесляра з вёскі Канюхі, які, як і папярэдні аўтар, па-свойму выказвае словы ўдзячнасці таму, «хто для простага люду век жыў. / Хто праславіў народ беларускі, / роднай мове змог кніжны даць ход. / Хто пратэст злажыў чалавечай нядолі, / пратаптаў светлай прышласці след».

Свае вершы-прысвячэнні Ф. Багушэвічу Язэп Ермаковіч напісаў у 1965 годзе пасля наведвання Кушлянаў і Жупранаў. Ён іх так і назваў — «На сядзібе Багушэвіча ў Кушлянах: ураджанне» і «Над магілай: замест вянка».

Багушэвіч для Ермаковіча, гэтак жа, як і для Сергіевіча, — Чалавек з вялікай літары. Жыццё яго яны лічаць узорам служэння народу, талент — бездакорным, самабытным, выключным:

Радзіўся ён з душой паэта,
Але з яе не браў прыкрас
І творчы талент перад светам
Не думаў ставіць напаказ.

Адкуль жа вытокі гэтага глыбокага разумення асобы паэта? «У юначыя гады я здабыў сабе зборнічкі Ф. Багушэвіча, — расказвае Ю. Сергіевіч. — Цяжка тады нам жылося. І ўсё ж хацелася нейкай разрыўкі. Зараз нават цяжка сабе ўявіць, як даўней прагна слухалі роднае мастацкае слова. Роднае слова ў форме верша ці песні выклікала ў той час сенсацыю. Асабліва калі гэта былі Багушэвічавы творы…»

Вось колькі музыкі мы чулі, —
Так не адзін казаў мужык,
Ніколі так яшчэ не гралі,
Як тая «Дудка», як той «Смык».

Гэта ўсё словы-прызнанні Ю. Сергіевіча.

Юліян Сергіевіч і Язэп Ермаковіч — людзі больш сталага пакалення. Абодва яны захапілі частку таго жыцця, якое гэтак яскрава апісаў у сваіх творах Багушэвіч, і песні-думачкі Мацея Бурачка пра нядолю народную знаходзілі ў іх сэрцах жывы, непасрэдны водгук.

Але вось з’яўляюцца вершы-прызнанні Багушэвічу ад людзей малодшага пакалення. Верш навучэнкі Міхайлоўскай сярэдняй школы В. Гіруць Ашмянскага раёна «Памяці паэта». У ім юная паэтэса ў традыцыйнай для такіх вершаў форме згадвае напачатку пра той куточак зямлі, «дзе у далёкія змрочныя дні» жыў пясняр, што хацеў, «каб над краем засвяціліся шчасця агні». Паэт дапамог народу песняй сваёй «пазбавіцца гора-бяды». Пра адно шкадуе паэтэса:

Не паспеў толькі ўбачыць ён волі,
Што ў змаганні браты здабылі,
Не пабачыў квітнеючай долі
Беларусаў на роднай зямлі.

Гісторыя народнай паэтычнай Багушэвічыяны бярэ свой выток аж з пачатку мінулага стагоддзя. Ужо ў тую пару пачалі з’яўляцца вершы-водгукі сялянскага паходжання, прысвечаныя памяці паэта. Згадаем хаця б «На памяць зычліваму для сям’і», напісаны ў 1900 годзе.

Цікава, што свае сціплыя вершы сялянскія паэты-самавукі разглядаюць як спробу выказаць падзяку вялікаму песняру беларускага народа не толькі ад сябе асабіста, але і ад тысяч іншых, некалі пагарджаных. Язэп Ермаковіч менавіта так і сказаў пра свае творы: «У іх уся мая ўдзячнасць вялікаму песняру Беларусі, праўдзіваму народнаму генію ад імя былых абяздоленых, якія адчувалі ўсё тое, што выказаў я да паэта, ды не маглі яму сказаць з-за свае неасвечанасці».

Народная паэтычная Багушэвічыяна добра ўліваецца ў прафесійную, дапаўняе яе, узбагачае.

Думаецца, традыцыя гэтая будзе сталая, і ў народзе ўзнікне яшчэ нямала вершаў-падзяк аднаму з тых, хто палкім словам у гады змроку і рэакцыі ўзняў мужны голас у абарону абяздоленых, зняважаных, пагарджаных.

У гэтым перакананыя ўсе прыхільнікі паэтавага таленту.

Слаўная тая памяць, што жыве ў народзе. Яна самая моцная, самая трывалая, можна сказаць — вечная.

Тая слава ў вянках не памеркне,
Яснай зоркай будзе свяціць
Над Радзімай зямлёй беларускай,
Пакуль будуць тут людзі йшчэ жыць.

*Я. Ермаковіч*

Мы ж ніколі яго не забудзем,
«Дудкі» спеў будзе вечна гучаць,
Земляка свайго слаўнага людзі
Будуць помніць, заўжды праслаўляць.

*В. Гіруць*

## Максім Танк

# Францішак Багушэвіч

Ніколі я раней
Яго не бачыў,
Ніколі не сядзеў
З ім за сталом бяседным,
Не перавязваў яго ран
Ля кастроў паўстанцкіх
І не прысутнічаў
Пры стрэчах
З Каліноўскім,
З кушлянскімі сялянамі…

Я толькі чуў яго
Звон «Беларускай дудкі»
І ўсё ж свае ўспаміны
Я лічу
Такімі ж верагоднымі,
Як і яго сучаснікаў.

Мяркуючы па тым,
Як ён далёка бачыў, —
Відаць, што быў
На галаву вышэй
Сваіх настаўнікаў.

Мяркуючы па тым,
Як праўду бараніў, —
Відаць, за ўсіх святых
Жупранскага касцёла
Ён справядлівейшы быў.

Мяркуючы па тым,
Што з нашай мовы
Магільны камень
Здужаў адваліць, —
Відаць, якім ён
І асілкам быў.

Алесь Пісьмянкоў

# Кушлянская балада

Вось і мара яго расстраляна,
Ды вісельняў жах не спужаў.
Здаецца, ўчора ў Кушлянах
Яшчэ конь Каліноўскага ржаў.

Здаецца, ўчора ў Кушлянах…
Сумна мужыцкая скрыпка пяе,
Над крывавай палянай
Крывавае сонца ўстае.

Крывавіцца родная мова,
Яе дух несмяротны не знік.
І вы — не задушыце слова,
У слова не вырваць язык.

У дарогу сабраны пажыткі,
Аж заходзіцца плачам смычок.
Запяе на ўвесь свет па-мужыцку
І Мацей Бурачок.

…Гоніць холад турэмнага склепу,
Ды вісельняў жах не спужаў.
Яшчэ доўга ва ўкраінскім стэпе
Яму конь Каліноўскага ржаў…

## Вольга Ігнатава

# Сядзіба Францішка Багушэвіча ў Кушлянах

Падыду да сядзібы, стану ў зацішку.
Час высмольвае памяць, таўчэ камяні.
Перад Кнігай Жыцця, адвакат Францішак,
Творцы сціплы набытак абарані!

Мо забаў маладых узяла я лішку
І людзям запаветных не сказана слоў…
Захілі мяне, адвакаце Францішку,
Ад зайздроснікаў злосных і махляроў.

Ля твайго жытла адпачну я крышку
І пайду ў турботныя тлумныя дні.
Адвакат беларускае мовы Францішку,
Беларусь нашу светлую абарані!

*12.08.2004*

## Міхась Скобла

# Ноч у Кушлянах

*Алесю Жамойціну*

1

Аўтэнтычныя рыпнуць палаці —
і наструняцца скрыпка і смык.
Мы ў музеі начуем, як таці,
дом да крокаў сцярожкіх прывык.

Загуляў. Як сям'і пакажуся?
Каб жа так — пад ваярскі напеў
у шляхотным паўстанцкім кажусе,
што Францішак знасіць не паспеў.

Па прысадах, бязмоўных і ніцых,
як пражэктарам, пройдуцца фары.
Зноў паэты сядзяць у вязніцах,
зноў адпомшчання прагнуць ахвяры.

Пасвіць поле галодны крумкач.
Пасека пажагнана асверам.
Мёд кушлянскі, цягучы, як плач,
нам гарчыць, як гарчэў касінерам.

Мёд з паэтам пасаджаных дрэў
назапашваў бурштыннага сонца
і паўстанцаў на сіверах грэў,
як і сябрава
роднае слоўца.

2

Адчайна крыкні, бы з пятлёй на горле,
прарваўшы крыкам, як штыхом, туман:
— Не пакідайце мовы, каб не ўмёрлі! —
і ў бубен поўні грымні, як шаман.

Ці ўчуе хто? Кат у мяшку ня зморгне.
Лёс катафалк паспешліва запрог.
— Не пакідайце мовы, каб не ўмёрлі!
Самазабойцаў не ўваскросіць Бог.

3

Гойсаюць праз могільнік залевы.
Падпірае думнае чало
зухавата вус убранзавелы —
быццам птушка стала на крыло.

Дзе ляціш, крылатая магіла?
Дзе шукацьмеш вырай, раскажы?

Падказала лета, ды зманіла.
Паказалі ў два бакі крыжы.

Прыпадняць труніцу не пад сілу.
Ды людскія душы поўніў страх —
пасадзілі на ланцуг магілу,
нібы арыштанта ў рудніках.

*1996*

## Юрка Голуб

# Кушляны. Восень

Кушляны. Восень. Жарабя.
Мацея Бурачка сядзіба.
Тут час сцвалы не парубаў —
Навекі пасадзілі.

І камянёў, і каміноў
Стаяць жывыя цені,
Стаяць, як праўда над маной.
Або святло над цемрай.

…Дарога несла вараных,
А тыя — адваката:
Уцёк з паўстанцкай стараны,
Скрываўлены ад катаў.

Не паратунку ён шукаў —
Адчаем поўніў вока.
Маўляў, хто сеў на мужыка —
Не ўздымецца высока.

Штосьці фурман сціх на перадку
І гаспадар фальварка…
Не будзе прыязні радку? —
Ды толькі ў недаварках!

Яснавяльможныя бурчаць:
Ад зерня прэч палову!

Абсяг Мацея Бурачка.
Сусвет змаганскі слова.

## Данута Бічэль-Загнетава

# У Кушлянах

Шэсцьдзесят увысь напятых струн
ад вайны, ад мору, ад паветра
ў цень імшаны спавілі валун
памяці вялікага паэта.

Сейбітам тутэйшым трэба вершы,
што пакінуў ім жа свой паэт,
але трэба, каб хто іншы першым
тыя вершы перадаў у свет.

Словы Бурачок жывыя ведаў,
як Радзіму ратаваць ад бедаў.
Выдыхае словы — замаўляе:
«Не вялікая, не малая,

не чырвоная, не чорная… а белая,
чыстая: нікога не біла,
не падбівала, толькі баранілася…»
Толькі роднай песняй засланілася.

Песню і на камені зайграй,
«як зярно ў гарэху»,
родны край,
у жывой шкарлупіне палёў,
«…дзе Гародня, Мінск і Магілёў…»

## Расціслаў Бензярук

# Беларускі дудар

## Трыпціх

### Вечны абаронца

> Дудка грае — ён жывы!
>
> *Віктар Шніп*

Дарога, лёгкай стужкаю бяжы,
Каб нас завесці да заходу сонца
Туды, дзе жыў Паэт,
Дзе заслужыў
Сабе найменне — вечны абаронца.

Мацею Бурачок, ты ад сялянскіх ніў.
Абшар палескі, цёмны і забіты,
Ты дудкай беларускай абудзіў
І даказаў: край Богам не забыты.

Мінае час,
І колькі на Парнас
Узлезла то пыхлівых, то ціхуткіх.
Прайшло сто год, як ты пайшоў ад нас.
Пайшоў ад нас, але іграе дудка…

### Памаліся, бабулька…

> Маліся ж, бабулька, да Бога,
> Каб я панам ніколі не быў.
>
> *Францішак Багушэвіч*

Ты, бабулька, малілася многа,
І дайшлі твае словы да Бога,
Бо я панам ніколі не быў:

Цяжка крочыў жыццёвай дарогай,
Не зрабіў для народа благога,
Але й славы сабе не здабыў.

Сёння ў чэргі пасталі па славу
Шмат паноў і падпанкаў, хто правіў,
Хто бяздушна абкрадваў народ,
Хто адрокся ад роднае мовы,
Праўду хто падмяніў пустаслоўем, —
І вялікі, і дробненькі зброд.

З імі мне не было па дарозе.
Калі раптам прылягу ў знямозе
Ці прыдушаць бяда і прымус,
Я не стану прасіць больш нічога:
— Памаліся, бабулька, да Бога
За мяне і маю Беларусь!

## Слова роднае

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..

***Францішак Багушэвіч***

Ці не памёрла наша памяць?
Калі жыве, чаму ж тады
Слоў чужародных злая замець
Зноў аддаляе на гады
Нас ад таго, што ёсць Айчына,
Дзе мілы кут, адкуль твой род,
Дзе нам забыцца немагчыма,
Пра беларусаў — той народ,
Што ў працы не прывык лайдачыць
І край умела бараніў…
Тут разумееш, што ты значыш,
Якія маеш карані…
Між двух народаў ці не зблудзіш —
Ні расіянін, ні паляк?
Вось слова роднае забудзеш,
Як будзеш жыць?
Скажы мне, як?..

## Таіса Мельчанка

# Падзяка

> Мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая…
>
> *Мацей Бурачок*

Дзякуй, дзядзька Мацею, за дудку,
За яе несмяротны матыў.
Ён стагоддзі вядзе перагудку
З беларусам, як з сэрцам тваім.

З нараджэння спявае праўдзіва —
Адчувае і стогн, і слязу.
З тваіх рук я прыму гэта дзіва,
Урачыста ў народ панясу.

І такое, такое зайграю,
Што абудзіцца кожны глухі.
Мовай «людскаю» заспяваю
З тваёй лёгкай, Мацейка, рукі:

«Ой, то будзе гранне,
Як на павітанне.
І як на вяселле,
Нядоўга тыкеле…»

Дзякуй, дзядзька Мацею, за слова.
Для нашчадкаў яго зберагу.
Будзе жыць наша родная мова,
Я ж без дудкі ужо не магу.

## Генадзь Рыкоўскі

# Быў усё ж ён змагаром!

Ёсць Мацей, ёсць Бурачок…
А Францішак дзе? — Маўчок!
Ёсць і Рэўка, ёсць Сымон,
З-пад Барысава мо ён?

Багушэвіч хто такі?
Я не ведаю пакі!
Але недзе нешта чуў —
Ён у дудку лоўка дуў!

Добра вершыкі складаў…
Сэрцы тым ён чараваў,
Што быў чулым да людцоў…
Дык шануйце яго зноў!

Гэта цёплы чалавек,
Але жорсткім быў з ім век!
Зведаў ён нястачу, кпіны,
Як пад колам куст каліны.

Быў усё ж ён змагаром,
Мовай роднай поўніў дом.
Прыгажосць яе ўзнёс…
Ці ж не зорны яго лёс?!

*22.03.2000*

# Францішак Багушэвіч

## Песня

Як я струны смычком крану,
Як на скрыпачцы зайграю —
Буду звонка клікаць вясну,
Бо любоў у сэрцы маю!
Ёсць такое — Францішак — імя…

Яго носьбіт уславіў слова…
Хай успыхне кастром галаўня,
Расквітнее родная мова!

Прыпеў:

Беларусь, Беларусь, светлы край…
Над хацінамі буслы лунаюць…
Тут прырода нібыта рай,
Дзе жывуць, спадзяюцца, чакаюць…

Можа, нам усміхнецца пясняр
І разгладзіць спакойна вусы…
Гляне прамень з-за хмар…
Гонар маюць свой беларусы!
Не забыўшы каранёў,
Абдымаюць суседзяў мілых
На ўсходзе і поўдні братоў…
У сяброўстве — вялікія сілы!

Прыпеў.

Багушэвіч ізноў ідзе
Па Кушлянах хадой няспешнай…
З намі ў радасцях ён і ў бядзе
На зямлі Айчыны бязгрэшнай…
Помніць продкаў сваіх народ,
Тых, хто праўду ўзняў высока,
Каб растаў у душах лёд…
Помніць будзем сваіх прарокаў!

Прыпеў.

## Алесь Жамойцін

# Клічуць сыны народ

### З цыкла «Дудка між кайданаў»

Звіняць праз Расію ў Сібір кайданы, —
Цар скасаваў прыгон…
Заходняга краю ўдалыя сыны
Змесці клянуцца трон.

Бывай жа, навука, кар’ера, бывай,
Нельга ўбаку стаяць.
Праз меру салодкі імперскі рай,
Зубы ажно трашчаць.

Уссеў Беларусі на грудзі арол,
Хоча ў дзве дзюбы піць…
Устаньма, браты, хто ў лёце сакол,
Станьма арла заваліць!

## Уладзімір Макарэвіч

* * *

Хачу пра Кушляны
Я слоўца сказаць,
Пра кут, дзе імкліва
Крынічкі бруяць.

Пра край, дзе маленства
Шчаслівым было,
Дзе файныя людзі
І буслаў жытло.

А стронга, грыбы
І маліны, арэхі.

О, колькі знаходжу я
Ў гэтым уцехі!

Хто толькі хоць раз
Завітае сюды,
Пазбавіцца ўраз
Ад сумненняў, нуды.

Як толькі парог
Пераступіш у хату,
Табе паднясуць
Па-кушлянску гарбату.

Раскажуць, што дом
Бурачка уцалеў,
А побач з камення
Абора, ці хлеў.

Што ёсць на сядзібе
Старая каплічка,
А каля чарэшні
Прыбіта таблічка.

Ну, чым жа, скажыце,
Не экскурсавод
Цікаўны тутэйшы
Кушлянскі народ?

Калі засумуеш,
Мой любы браток,
Хутчэй прыязджай
У кушлянскі куток.

Аўтобусам, роварам
Ці, можа, на возе
Прыедзеш да нас ты
Па Белай дарозе.

Табе на вапельні
З паэтам Алесем
Мы шмат наспяваем
Навюсенькіх песень.

І веру: за нашым
Кушлянскім абрусам

Сумленным пачуешся
Ты беларусам.

## А. Падгол

# Памяці Мацея Бурачка

1

Яго ўсе глядзелі — не ўглядзелі,
Ён ад’язджаў з Кушлян у дзень нядзельны.
Глядзелі ўслед пралескамі паляны,
А побач, у дубніках, хадзілі цені-здані.
На песнях болю і журбы ўзгадаваны.
Ён, пэўна, нешта важнае ўспомніў
І паганяў. Наўскач імчалі коні.
Наспела думка нейкай светлай веры,
Такі агонь гарэў у душы не раз.
І прагла выліцца на чысты ліст паперы
Крывёй, здаецца, вывераных фраз.
Махнуў рукой панурыўшым кушлянцам,
Не кожнаму паспеў руку пажаць.
Ён зычыў усім, вядома, толькі шчасця
І ад’язджаў адсюль, і ад’язджаў.
А ў думках, пэўна, ужо не раз вяртае
Сябе пад шаты ўспененых бяроз.
Ён усе старонкі веку прагартае,
Такі яму наканаваны лёс.

2

А ў Пецярбургу, сярод кніг і лоску,
Ён ужо ведаў думкі Каліноўскага.
Ішоў з братамі у крок віленскім шляхам
Ў душу ўжываў вясковае жытло.
А недзе па-над хатамі ў Кушлянах
Ўзыходзіла вясновае святло.
Хоць час і грукацеў ў грымотах грому,

І холад заціскаў, нібы зімой,
Пяро яго страляла грознай зброяй
І слова біла куляю прамой.
Ён падаў сам. Не ўздрыгне нават мускул,
Ён ведаў, што надыдзе час-пара.
І ў першай кнізе, «Дудцы беларускай»,
Пакінуў векапомны свой зарад.

3

Закончан шлях далёкі і нялёгкі,
І на зыходзе восеньскага дня
Ідзе ён, вымерваючы крокі,
Ад дому да святога камяня.
Ён толькі што наведаўся ў Жупраны,
Была малітва як надзеі ніць.
У яе трывогі веку ўвабраны,
Таму яна пад сэрцам і баліць.
Да камня застаюцца толькі крокі,
Здаецца, што ў ім, у хмурым камяні?
Але ж тут думак рой, тут іх вытокі,
І іх ніхто не зможа падмяніць.
Гэты камень, як і неба, вечны,
І вечна будзе свяціцца ў радках:
Прыйдзі і пакланіся, чалавеча,
Памяці Мацея Бурачка.

## Віктар Шніп

* * *

Ён сядзеў каля дарогі,
Як туман, увесь сівы.
— Бурачок, ты ж пахаваны…
— Дудка грае — я жывы.

— Падкажы мне, што іграці?
— Грай, што маеш на душы,

Толькі ад няшчырай песні
Дудку, браце, беражы.

І пайшоў ён па дарозе,
Як туман, увесь сівы.
— Бурачок жа пахаваны.
— Дудка грае — ён жывы.

*Рыгор Семашкевіч*

## *Францішак Багушэвіч*

Ніякія годы,
Паходы,
Нягоды
Ад нас не адрынуць той час.
І світка мужыцкая днее пагодна —
Ашмянскага крою якраз.

Якія дакоры
Бываюць у гора?
Імжыць праз гады сіратлівы пагляд.
На ўсю Беларусь мільён пракурораў
І толькі адзін, толькі ён адвакат.

*Адам Глобус*

## *Смык*

*Францішку Багушэвічу*

Зарыпела, запела падлога.
Дзверы грукнулі. Бразнуў замок,
І панесла мяне дарога
Не наперад, не ўзад, а ўбок.

Ў тым баку нават поле з гора
Валунамі даўно зарасло.
І шырока-глыбокае мора
Жорсткім жвірам-пяском заплыло.
Там не сыплюцца ветры дажджамі
І не падае з градам снег.
Там варушацца пад грудамі
Ненароджаны плач і смех.

І знайшоў я там стрэльбу і штык.
І зрабіў я з іх скрыпку і смык.

## Станіслаў Суднік

# Кроў Францішка
## Балада

Шумяць над Дайноваю пушчы,
Легенды лістотай складаюць,
Ад зорак нябесных відушчых
Зямныя таемствы хаваюць.

Хаваюць Дайновы дубравы
Малойцаў адважных і смелых,
Хаваюць іх мужныя справы,
Хаваюць іх, спрытных, умелых.

Шумяць вершалінамі хвоі,
А ўнізе самотная ціша,
Пад хвояй сцякае крывёю
Хлапец — Багушэвіч Францішак.

Паранены ў бітве за волю,
Да лідскай зямлі прытуліўся.
І, болей не чуючы болю,
Ён гэтай зямельцы маліўся:

«Зямелька, зямелька Айчыны,
Ты моцай адвечнай святая,

Ад кроплі дажджынкі адзінай
Жыццё на табе расцвітае.

А я ж цябе сёння крывёю
Гарачай сваёй паліваю
І думкай заняты адною —
Каб вырасла, што пажадаю.

Каб выраслі тут тыя людзі,
Што волю здабудуць краіне,
Што край ад дрымоты разбудзяць,
Што стануць народам адзіным.

Каб выраслі тыя героі,
Што мову сваю абароняць
І ў хвілю цяжкую сабою
Айчыну ад злыдняў заслоняць…»

Маліўся Францішак хлапчына,
І кроў струмяніць перастала,
І ціха Зямелька-Айчына
Яму на адказ прашаптала:

«Устань жа, ідзі і змагайся,
Нясі сваё слова народу,
Не кайся ні ў чым, не хістайся,
Бо з словам нясеш ты свабоду.

Бо толькі як вольнае слова
Над краем тваім залунае,
Спадуць ланцугі і аковы
І сонца свабоды заззяе».

Падняўся хлапец, не хіснуўся
І з мовай мужыцкай сваёю
Да вёсак, засценкаў памкнуўся,
Акрылены сілай святою.

Дайшоў ён да прызбаў і хатаў,
Дайшоў ён да думак і сэрцаў,
Ён слова смычком струны кратаў
Тых душ, што чазлі ў паняверцы.

Дайшоў, пабудзіў і паклікаў,
І слова, як сцяг, даў народу,

І марай акрыліў вялікай,
І шлях паказаў да свабоды.

А там, дзе ў вайсковым паходзе
Пад Лідай цякла кроў святая,
Штогод праз другое стагоддзе
Кусточак суніц вырастае.

І варта каму там суніцу
Сарваць, як адкуль што бярэцца,
Па-іншаму думка бруіцца,
Па-іншаму стукае сэрца.

І кліча цябе тое слова,
Што клікала хлопца паўстанца,
І просіць цябе тая мова
На новую бітву ўздымацца.

Штогод вырастаюць суніцы,
Штогод іх народ тут збірае,
Штогод, як з жывое крыніцы,
Ён сілы ў сябе набірае.

Штогод узрастаюць лідзяне,
Штогод устаюць да паходу
І рушаць па шляху змагання
За мову, за край, за свабоду.

## Сержык Чылікін-Садэльскі

### 1863 год...

Мураўёўцы-набрыдні наш край запаланілі.
І край паўстаў. Паўсталі і Кушляны.
Багушэвічы за адну ноч крыж-каплічку
Пад лістоўніцай зялёнай збудавалі
Як пратэст супраць няволі і прымусу.
Не сталі на калені беларусы.
Каплічка гэтая — маленькая святыня.
Памяць пра паўстанне ніколі не загіне.

## 1891 год…

Выйшла «Dudka Białaruskaja».
Што ж тая дудка нарабіла?
Беларусам кроў аднавіла,
Народу памяць абудзіла…
А праз сто гадоў
Пасля дудкі Мацея Бурачка
Нарадзіўся і я,
І пабачыла наша зямля
«Кветачку маю Беларусь»…

Сяргей Панізнік

# Мацей Бурачок

Вучыў нас:
і верце, і дбайце…
І словы ішлі па зямлі
бацькоўскія:
«НЕ ПАКІДАЙЦЕ»…
Не кінулі мы… Не маглі…

Пакутна нямелі
у горле
маўчальніцтва халады.
Мацей Бурачок,
«НЕ ЎМЁРЛІ!»
А значыць, жывеш і ты!

«ЯК ТОЕ ЗЯРНО Ў ГАРЭХУ»,
збудзілася да людзей
«ГАВОРКА» мая,
бы рэха
з бацькоўскіх тваіх
грудзей.

## Генадзь Тумаш

# Роднае слова

Народу, Бацькаўшчыне наканаванае,
Сынамі, дочкамі ганараванае,
З мінуўшчыны дзяржаўнасцю гісторыцца,
Нашчадкамі няспынна творыцца.

У Златай Празе надрукаванае,
Францішкам Скарынам падараванае.
Багамі зямнымі ў агні пазбытае
Як не субожнае, паспалітае.

Дунінам-Марцінкевічам ратаванае,
Дударом беларускім увекаванае,
Каб не спольшчыла, каб не зрушчыла
Цемрашалаў раць Беларушчыну.

Багрымам, як скарб, пранесенае,
Роднае, чыстае, песеннае.
І пад шпіцрутэнамі ў салдатчыне
Не загінула слова матчына.

У Кастуся Каліноўскага збройнае,
Незалежнае, самастойнае.
Пятлёй Мураўёва спалоненае,
На Бацькаўшчыне забароненае.

Францішкам Багушэвічам ахвяраванае,
У імперскай Расіі адваяванае.
Беларусь засцярог абаронца,
Каб не ўмерці забранай старонцы.

Янкам Лучынам загартаванае,
З няволі, з палону здабыванае,
Каб напаўнялася роднае слова
Колішняй сілай святою нанова.

Пашкевічанкай у краі абвешчанае,
Як вырок беларусаў цару і памешчыкам.
Нескаронае слова Цёткі —
Голы меч у руцэ патрыёткі.

У Янкі Купалы — як сонца ўзыходнае,
Усебеларускае, усенароднае,
Як наша Продкаўшчына — векапомнае,
Непераможнае, нязломнае.

У Якуба Коласа нацыянальнае,
Як хлеб духоўны, выратавальнае,
Залатога калосся не зжаць аніколі,
Што выспельвала наша Радзіма ў няволі.

Каб лёсіла слову на любасць і славу,
Каб родную мела краіну, дзяржаву,
Багдановіч паўстаў, як прарок, над імперыяй
З векавеннае праўдай і вераю.

Па нітачцы спакон вякоў збіранае,
Было адзенне нам сатканае,
Душа сумоўем абнадзееная,
Не голая, а прынядзеленая.

## Станіслаў Валодзька

* * *

Бог пачуў і чуе родны краю:
Дудка беларуская іграе.
Россыпамі сонечнага рання.
Гэта гранне — быць людзьмі старанне.

Ды парой агорне смутак нейкі:
Грання беларускае жалейкі,
Дзіўных гукаў-зыкаў зёлкі-лекі
Ці памогуць — хто душой калекі?

Каб без мовы наскай не сканалі,
Каб жыццё з Радзімай ладкавалі —
Пад чужую дудку не скакалі,
Пад сваю жалейку смуткавалі…

Юры Гіль

# Святы

## (Да 165-х угодкаў Ф. Багушэвіча)

Святы фальварак наш Свіраны,
Святы куточак той каханы,
Жыццём вясны зачараваны,
Людзьмі і Богам мілаваны.

Паэт наш тутака радзіўся,
Святой вадою ён хрысціўся,
Ад людцаў нашых не адбіўся
І шчыра Богу тут маліўся.

Святы, святы ты, наш Францусь,
Як і Літва, як Беларусь,
Як мова нашая прастая,
Што для людзей яна святая.

Святы фальварак наш Свіраны,
Тут пуп паэта закапаны,
Святы Францусь, святая мова —
Народа нашага аснова.

Святы куточак наш Свіраны,
І люд тутэйшы яму аддані.
Святы, святы паэт Францусь,
Святая мова і Беларусь.

## Юрась Свірка

# Постаць прарока

> І настане час світання —
> Абуджэння час.
>
> *Францішак Багушэвіч*

Зямля спрадвечная, Кушлянская,
Свайго ты помніш земляка.
Такая блізкая і наская
Зямля Мацея Бурачка.

Яе любіў ён да скanання —
І ў светлы час, і ў дні нягод.
Ён чуў мужыцкіх ніў дыханне,
Ён чуў, як дыхае народ.

З прыгнётам, з цемраю нязгодны,
За долю лепшую змагар.
Паўстанец, адвакат народны,
Яго заступнік і пясняр.

Ён волі не чакаў ад Бога.
Пісаў: «Няроўна дзеліць Бог».
За свой народ была трывога,
Якую ён таіць не мог.

Яна перадалася ў слове
Яго нашчадкам — аж да нас:
«Не пакідайце нашай мовы,
Каб не умёрлі». — Як наказ.

Яго наказ на лад не сверыць,
Хоць больш стагоддзя адгуло.
Народ нібыта і не верыць
Прароцтву —
Болю вешчых слоў.

# Весткі з Кушлянаў

Маё спазнанне Кушлянаў сталася моцным і трывалым. І на доўгія гады. Гэтаму спрыяла тое, што ў Багушэвічавым доме жыў такі апантаны паэтавай спадчынай чалавек, як Міхал Ляпеха (1903–1992). Глыбокае разуменне постаці Францішка Багушэвіча змусіла яго на самаахвярнасць. Ён адцураўся сваёй сялібы, дабротнага, пад цынкавай страхой дома і ўзяў пад сваю апеку кушлянскую паэтаву сядзібу. Гэта здарылася ў 1951 годзе. З тае пары і аж да часу стварэння ў 1990 годзе ў Кушлянах дзяржаўнага музея, працуючы загадчыкам кушлянскай фермы, ён жыў у паэтавым доме, клапаціўся пра яго, шчырым словам прывячаў пілігрымаў з далёкіх і блізкіх краёў, пранікнёна распавядаў ім пра творы і грамадзянскі подзвіг аўтара «Дудкі беларускай». Яго ведала ўся наша літаратурная эліта. Шмат з кім ён ліставаўся. Сваімі пошукамі спрыяў даследчыкам і краязнаўцам. Адным з ягоных карэспандэнтаў быў і я. Наша ліставанне з ім было пошукавае. Я звяртаўся да М. Ляпехі — усе мы звалі яго дзядзька Міхал — з тымі ці іншымі пытаннямі, а ён шукаў на іх адказаў у кушлянцаў — паэтавых сучаснікаў. У гэтым нашым ліставанні цэлы расповед пра тое, як жылі паэтавы Кушляны ў прамежку з канца шасцідзясятых і аж да дзевяностых гадоў. Тут і Ляпехавы трывогі, і ягонае дбанне пра ўпарадкаванне песняровай сядзібы, і гісторыя саміх Кушлянаў.

Пісаў дзядзька Міхал жывой беларускай моваю, хоць ніколі не вучыўся ў беларускай школе. Гэта робіць яго лісты яшчэ больш каштоўнымі. Ну, але слова самім лістам. Чытайма іх, смакуйма ягонае слова, ягоную стылістыку. Чуйма самаахвярную душу Міхала Ляпехі, заклапочаную Багушэвічавымі Кушлянамі.

«Дзень добры, дарагі і высокапаважаны
Уладзімір Ільіч!

Ад шчырага сэрца вялікі Вам дзякуй за памяць аб Кушлянах і аба мне. Моцна прашу ў Вас прабачэння за маю маруднасць з адказам на Ваш ліст. Пакуль што жывы, а здароўе падводзе, змушае адставаць ад жыцця. Каб вы ведалі, Уладзімір Ільіч, як цяжка перажываць гэтую адсталасць, як яна шкодзіць здароўю.

У мяне непрыемнасць: атрымліваецца не так, як павінна быць. Атрымаў ліст ад унучкі Фр. Багушэвіча. Таксама непрыемнасць: не магу зрабіць альтанак і другіх работ, якія павінны быць зроблены даўно. Перажываю за сажалку, што зараўноўвалі меліяратары. Сажалку мне ўдалося абараніць, не дапусціць, каб засыпалі. Паглыбіў, ачысціў ад глею. Засталося ўпарадкаваць берагі, зрабіць дарожкі.

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 13.IX.74 г.»*

Гэтае маленькае лісцянятка з Кушлянаў, поўнае донкіхоцкіх парыванняў, і ёсць пачатак нашага ліставання з дзядзькам Міхалам. Ад гэтага моманту ягоны клопат, ягоныя трывогі за Кушляны стануцца і маімі. Кушляны стануцца маім магнітам. Балазе, расклад руху аўтобусаў з Смаргоні дзядзька Міхал мне паведаміў. То калі ласка, спадар Содаль! І я ездзіў у Кушляны зімою і летам, вясною і восенню. І кожнага разу нешта чуў там і бачыў новае, мне невядомае. Гэтае новае ўдакладнялася праз ліставанне. От і гэтым разам я пацікавіўся ў дзядзькі Міхала, ці быў ён на ўрачыстым адкрыцці Багушэвічавага помніка ў Жупранах у 1958 годзе. Калі быў, то як яму запомнілася гэтая падзея. Зацікавіла мяне і байка пра Багушэвічаву адвакацкую кемнасць, якую ён чуў ад старых кушлянцаў. Я папрасіў запісаць згаданы расповед. Водгукі на гэтае ды іншыя пытанні і склалі змест наступнага ліста з Кушлянаў:

«Дзень добры, высокапаважаны
Уладзімір Ільіч!

На пытанні адказваю па парадку.

На адкрыцці помніка Багушэвічу ў Жупранах не давялося быць — не ведаў. Каб ведаў, то абавязкова пацікавіўся б.

Тэлеперадачу “Пясняр мужыцкай долі”, дзе я чытаў Багушэвічавы вершы, таксама не ўдалося ўбачыць…

Пра Багушэвічаву мудрасць з валамі.

Даўней увесь гандаль быў у яўрэйскіх (жыдоўскіх) руках. Вясковага цёмнага мужыка яны стараліся ашукаць, купляючы жывёлу, збожжа, лён. Таму тады была пагаворка: “Няхай мужык знае толькі грунт, а жыд — фунт”. Пра гэта ведаў і Багушэвіч, нават напісаў верш пра жыда, які я вам, Уладзімір Ільіч, дасылаю

ў гэтым лісце. А што красці, то жыды гэтым не займаліся. І вось выпадак: жыда зрабілі злодзеем. Маючы сваю мясную краму ў мястэчку, жыд прыехаў на хутар да аднаго гаспадара. Відаць, нават да нябеднага, бо купіў два валы. Пакуль старгаваліся, жыд з купленымі валамі выехаў з хутара позна.

Назаўтра прыйшоў сусед да гэнага, што прадаў вала, і кажа: "Ты на жыда падай у суд, што ён у цябе ўкраў валы. А мяне пішы за сведку. Будзе табе, будзе і мне. Нідзе ён не дзенецца — заплоціць другі раз". Так і зрабілі. Жыд, атрымаўшы позву ў суд, мусіў ратавацца ад такой неспадзяванкі. Шукае адваката. Удалося ўпрасіць Багушэвіча. Багушэвіч згадзіўся бараніць жыдка. Але ў судзе збіць з толку прадаўца ці сведку не ўдалося. Відаць, былі спрытныя на язык. Жыду прысудзіў суд заплаціць за валы. Каб дабіцца праўды, справядлівасці, Багушэвіч пайшоў на хітрасць, на мудрасць. Што ён робіць? Бярэ ў рукі шапку — саламяны капялюш на два брылькі — і пачынае ў прысутных у судзе прасіць, каб хто колькі зможа ахвяравалі пацярпеламу жыдку. Хто пяць, хто дзесяць капеек кідалі Багушэвічу ў шапку. Багушэвіч падышоў і да таго, хто прадаў валы. Той з радасці, што будзе мець грошы другі раз, кінуў у шапку цэлы паўрубель. Багушэвіч узяў таго паўрубля і так сурова, гледзячы ў вочы, запытаўся, дзе браў гэтыя фальшывыя грошы. Той спалохаўся і перад усімі прысутнымі сказаў: "Мне гэтыя грошы жыд за валы даў…"

От як Багушэвічу ўдалося дабіцца праўды. Несправядлівасці Багушэвіч надта не любіў. Пра гэта расказвалі кушлянскія старажылы.

Яшчэ раз прашу прабачэння, што не змог даўно даць адказу на Вашы лісты.

Шчырае сардэчнае прывітанне з пажаданнямі ўсяго найлепшага Вам, Уладзімір Ільіч, і ўсёй Вашай сям'і.

З вялікай шчырай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 20.02.75 г.»*

Атрымаўшы колькі лістоў ад дзядзькі Міхала, я зразумеў: яшчэ не позна з памяці народнай выхапіць шмат цікавых звестак пра той час, у які жыў Францішак Багушэвіч, для разумення

яго асобы. У гэтым мяне пераканалі і вершы-прысвячэнні Францішку Багушэвічу невядомых аўтараў глыбока сялянскага паходджання, з якімі я пазнаёміўся ў Кушлянах падчас трэцяга наведання іх у верасні 1975 года. Моцна зацікавілі мяне і шчырыя водгукі пра Францішка Багушэвіча колішніх ягоных суседзяў Зыгмунта і Юзафа Каспяровічаў, іхнія згадкі пра Багушэвічавы недрукаваныя вершы, якіх яны навучыліся ад свайго бацькі. А перад гэтым наведала Кушляны паэтавая ўнучка Станіслава Тамашэўская. У адным з лістоў да дзядзькі Міхала я папрасіў яго не раздаваць налева і направа гэтыя ўсе імпульсы людскіх душаў. «Хай гэта ўсё будзе ў адных руках», — пісаў я да дзядзькі Міхала. Заадно прасіў: калі яму што-кольвек вядома пра аўтараў вершаў-прысвячэнняў Францішку Багушэвічу — Язэпа Ермаковіча і Юліяна Сергіевіча, а таксама братоў Каспяровічаў, — паведаміць мне. Пра гэта якраз наступныя лісты з Кушлянаў:

«Вельмі паважаны Уладзімір Ільіч!

Ліст ад Вас атрымаў. Шчыра дзякую. Вельмі прыемна, што Вас цікавіць спадчына Францішка Багушэвіча.

Ермаковіч Язэп жыве ў вёсцы Канюхі Палачанскага сельсавета Маладзечанскага раёна. Пра Юліяна Сергіевіча нічога не магу сказаць. Верш ягоны мне прыслаў Ермаковіч. Мара мая сустрэцца з Сергіевічам, на жаль, не збылася. Браты Каспяровічы, Зыгмунт і Юзаф, прыязджалі ў Кушляны ў чэрвені 1972 года. Пакінулі запіс у кнізе водгукаў, які Вам дасылаю. Тады ж я папрасіў расказаць, і Зыгмунт расказаў два вершы, якія я запісаў, — тыя, што даў Вам*.

Каспяровіч Зыгмунт жыў у Кушлянах па-суседску з Багушэвічамі. Вершы навучыўся ад бацькі ў дзяцінстве. Цяпер жыве ў Польшчы — Познаньскае ваяводства, г. Вольштын, вуліца Стралецкая, д. 5. Яму пяцьдзесят сем гадоў.

У Маскву паехаць не магу. Першае, што трэба, каля Багушэвічавага дому шмат чаго зрабіць і ферму да зімы падрыхтаваць.

---

* Згаданыя вершы апублікаваны мною ў кнізе «Сцежкамі Мацея Бурачка». Мінск, 1991.

Прывітанне з пажаданнем усяго найлепшага ўсім у Вашай хаце.

Перадайце прывітанне і ўсяго найлепшага Еўдакіі Уладзіміраўне*.

З вялікай пашанай

*Л. Ляпеха.*
*Кушляны, 10.10.75 г.»*

Займеўшы праз дзядзьку Міхала адрасы і некаторыя звесткі пра колішніх кушлянцаў, я распачаў актыўнае ліставанне з імі, здабываючы цікавыя звесткі пра Кушляны, саміх Багушэвічаў, іхніх суседзяў, кушлянскі побыт. Не забываўся я, вядома, і пра самі Кушляны. Але Кушляны часта маўчалі. І тады я мусіў пісаць дзядзьку Міхалу лісты такога зместу:

«Дзень добры, Міхал Сымонавіч!

Ну от пачакаю яшчэ крыху, не будзе ад Вас ніякай весткі — буду пісаць на сельсавет ці дочкам. Хочам ведаць, як Вы — ці жывыя, ці здаровыя? Клара таксама турбуецца.

Пішыце ці прыязджайце, ці толькі на лістку распішыцеся, абы ведалі, што з Вамі.

Хачу сабраць пра Багушэвіча і Кушляны ўсё, што толькі можна будзе, што толькі льга, што маё мне сэрца падкажа. Калі будзе што-небудзь новае ў Кушлянах, пішыце. Заўсёды буду рады. Недалёка той час, калі я сам прыеду пакланіцца Багушэвічавай зямлі і небу».

Першыя лісты дзядзькі Міхала з 1977 года прасякнутыя ўсё тымі ж клопатамі: каплічка, сажалка, альтанка, сядзіба, хворая жонка, ферма. Як гэта ўсё спалучыць? «Мусіць, ад фермы трэба адмовіцца і ўзяцца за здзяйсненне задуманых планаў каля Багушэвічавага дома», — пісаў дзядзька Міхал у сваім лісце за 27 красавіка. Тут жа прабачэнне і тлумачэнне, чаму доўга не пісаў мне. Перачытваючы гэтыя адчайныя лісцяняткі дзядзькі Міхала, пачынаеш задумвацца: «А хіба Кушляны —

* Еўдакія Уладзіміраўна Мацюш — мінская настаўніца роднай мовы, цікавілася творчай спадчынай Францішка Багушэвіча, сааўтарка фотаальбома «Францішак Бенядзікт Багушэвіч».

гэта быў клопат толькі яго аднаго? Хіба ён мог адзін, амаль сямідзесяцігадовы, упарадкаваць такую вялікую сядзібу? Вядома, не. Але ён быў у Кушлянах той дынамай, токі якой даходзілі да ўсіх нас і прымушалі думаць пра Кушляны, як іх захаваць. Патрыярх нашай літаратуры Ніл Гілевіч падчас свае стрэчы з дзядзькам Міхалам у Доме літаратара сказаў: «Шмат чуў пра Вас і чытаў. Глядзеў і па тэлевізары. Мы ўсе Вам удзячныя адно толькі за тое, што Вы разумееце, хто такі Багушэвіч, што Вы апякуецеся ягонай сядзібаю. Без Вас ужо даўно ў Кушлянах усё б пагніло і развалілася. А гэта не павінна разваліцца, загінуць. Гэта нямысліма. Сам Бог паслаў Вас нам, паслаў у Кушляны, паслаў нашай культуры. І Багушэвіч, каб ён мог там даведацца, пабачыць ды пачуць, то парадаваўся б, што ў ягонай хаце жыве такі чалавек. У нас, на жаль, яшчэ шмат людзей, якія гэтага не разумеюць. Гэта добра, што Вы так жывяце. Хто ведае, для чаго жыве — жыве доўга. Ён не заўважае часу: ты сабе ідзеш, а час сабе… Паздароў, Божа, такіх людзей, як Вы!»

Дзядзька Міхал прывабліваў да сябе не толькі сваёй адданасцю Багушэвічавай сядзібе. Ён быў дасціпны на слова. Ведаў шмат жартаў, анекдотаў. І сам быў здатны зарыфмаваць радок-другі. Быў добрым апавядальнікам і слухачом. Я працаваў з ім і ў гэтым кірунку. Пры стрэчах запісваў гутаркі на магнітафон. Не цураўся запісаў і праз ліставанне. Скажам, я неяк пацікавіўся ў дзядзькі Міхала, ці часта надараліся ў часы яго маленства такія прыгоды, якія Францішак Багушэвіч апісаў у сваім вершы «Здарэнне»? І дзядзька Міхал тут жа парупіўся згадаць колькі тыповых для таго часу чмураў. Гэтымі сваімі запісамі ён нібы ўзбагаціў Багушэвічаў верш «Здарэнне», ужывіў яго ў тагачасную стыхію, рэчаіснасць. Якраз пра тагачасныя чмуры, кшталтам тых, што ў вершы «Здарэнне», у чарговым лісце дзядзькі Міхала. У ім і працяг нашых сумесных росшукаў, іканаграфічнай спадчыны Багушэвічаў і шмат чаго іншага.

«Дзень добры, дарагі і высокапаважаны Уладзімір Ільіч!

Моцна-моцна прашу Вас, Уладзімір Ільіч, дараваць мне за тое, што так доўга затрымаўся з адказам на Ваш ліст. Прычынаў шмат, а найбольшая — стала падводзіць здароўе. Стаў адставаць ад жыцця. Не магу дараваць сабе, чаму так атрымалася. Наконт

партрэтаў Багушэвічавай дачкі і зяця. Знайшоў у Граковіча. Недалёка ад Кушлянаў, на хутары ў лесе, стаяла хатка. У ёй пры Граковічы жыў стары Мніховіч, сваяк Багушэвічаму зяцю Мніховічу Яну. Партрэты гэныя забраны ў Граковіча гадоў з дзесяць таму. Партрэт Багушэвічавага сына Тамаша і ўнучкі Тамашэўскай я аддаў перафатаграфаваць і зрабіць больш партрэтаў Цішчанку Івану Кірылавічу — навуковаму супрацоўніку Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Партрэты сына Тамаша і ўнучкі Тамашэўскай таксама даўно аддаў і не атрымаў.

Стыдна мне, колькі часу прайшло, а я не паклапаціўся папрасіць Цішчанку, калі не зрабіў новых, то каб старыя хоць вярнуў.

Наконт чмураў, падобных да "Здарэння" Багушэвічавага, ёсць шмат.

1. Ехаў чалавек позна. Знайшоў пры дарозе звязанага вяроўкамі казла. Узрадаваўся, як гэны, знайшоўшы бочку, як у Багушэвічавым "Здарэнні", палажыў у драбінку пад пярэдняе сядзенне. Драбінкі (вазкі) такія Вы, напэўна, відзелі, Уладзімір Ільіч. У іх ездзілі ў сваты ці на кірмаш. Прыехаўшы дахаты, выпраг каня, а пачакаўшы, пайшоў зняць з воза казла. Калі глядзіць, замест казла ляжыць вялізны корч — ледзьве выцягнуў з-пад сядзення.

2. Музыканты, адыграўшы некаму вяселле, вяртаюцца дадому праз лес. Спаткаліся з такім харошым панічом у капелюшы. Паніч гэты запрасіў пайграць. Павёў у палац па такіх харошых высокіх ступеньках. Раніцай прачнуліся на высокай кучы галля, а каля іх ляжаць цымбалы і скрыпка.

3. Сустрэліся двое. Памяняліся люлькамі. Але замест прыгожай пазалочанай люлькі аказалася казіная ножка.

Усе гэтыя здарэнні былі тым людзям, як відаць, п'яным. Напрыклад, кончылі іграць вяселле. Адыходзячы дахаты, добра выпілі. Другі ехаў з кірмашу таксама не без гэтага.

Каспяровічы гэтым летам у Кушляны не прыедуць. Сястра іх ляжыць у бальніцы.

Дрэва скалечанае — гэта дуб. Сукі спілаваў на дровы Абцэвіч з хаты, што напроціў дуба. Яго ўжо няма. Хаты гэтыя, што стаяць унізе напроціў пня, лічацца да Кушлянаў першых,

а завуцца Трахімы — ад таго, што некалі жылі тры хамы, якіх Багушэвіч не любіў. Поле гэтае, дзе стаіць пень, добрае. Толькі Вы, Уладзімір Ільіч, былі ранняй вясной, і яно было яшчэ не ўпарадкавана і не засеянае.

Можа, Вы ўжо прачыталі. Вельмі цікавы артыкул напісаў Рыгор Родчанка з Слуцка ў газеце "Літаратура і мастацтва" за 10-га чэрвеня "З гісторыі роду Багушэвічаў". Адам Мальдзіс шмат у якіх архівах быў, а з гэтым не спаткаўся.

Шкода, што не ў Мінску, а ў Гродне жыве настаўнік музычнай школы Марозаў Анатоль Іванавіч, які пісаў дысертацыю пра Багушэвіча. Быў у Кушлянах таксама. Даўно гэта было ўжо. Вы, Уладзімір Ільіч, маглі б нешта запісаць для свае працы з дысертацыі.

У Кушлянах покуль што новым хваліцца не маю чым, але маю надзею, што не павінна так быць. Яшчэ прашу прабачыць за маю маруднасць. Жадаю Вам, Уладзімір Ільіч, добрых поспехаў у працы, добрага здароўя Вам і ўсёй Вашай сям'і.

З шчырай і вялікай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 15.VI.77 г.»*

На 1977 год дзядзька Міхал Ляпеха меў досыць гадоў. Яму падбіралася пад семдзесят пяць. Але і ў такія гады, у такім веку быў лёгкі, да рызыкоўнасці, на пад'ём, не баяўся ні блізкіх, ні далёкіх дарог. Прынамсі, досыць часта наязджаў у Мінск, каб пабачыцца і пагаманіць пра кушлянскія клопаты з знанымі і заслужанымі, уплывовымі людзьмі. Якраз пра адну такую сваю паездку з Кушлянаў у Мінск з усімі яе прыгодамі пасля кастрычніцкіх святаў і распавядаецца ў лісце за 25 снежня 1978 года. Але чытайма, як гэта ўсё было, для чаго і ўва імя чаго.

«Дзень добры, дарагі і высокапаважаны Уладзімір Ільіч!

Найперш, каб моцна не гневаліся яшчэ і за тое, што затрымаўся з адказам на Ваш ліст. Хацеў паслаць Вам метрыку Гэлі Касперавічанкі. Быў у Ашмяне ў загсе і там даведаўся, што ўсе метрыкі да 1910 года знаходзяцца ў Гродзенскім архіве.

Цяпер наконт паездкі маёй у Мінск, праз якую зрабіў Вам, Уладзімір Ільіч, прыкрасць і сабе. З Кушлянаў выехаў у пяць

гадзін раніцы, каб прыбыць у Мінск да дзевяці гадзінаў, пагутарыць трохі і ў гэты ж дзень вярнуцца ў Кушляны. Не ведаў, што пасля кастрычніцкіх святаў так будзе шмат пасажыраў. Два аўтобусы пайшлі на Маладзечна, але мне не ўдалося паехаць. Збіраўся ісці дахаты, але пачуў: на Маладзечна прыбыў дадатковы аўтобус, і я выехаў позна з Смаргоні. Да Вас даехаў у пяць гадзінаў вечара. Пачакаў трохі і паехаў да вашага знаёмага — старога беларускага геолага Шыдлоўскага, аддаць для Вас паперы і яму ліст — і ехаць дахаты. Шыдлоўскі позна вечарам мяне не пусціў ехаць, сказаў, што пазвоне Вам на работу, каб пачакаў, покуль мы прыйдзем. Застаўшыся ў Шыдлоўскага, я зрабіў вялікую памылку, што не папрасіў Шыдлоўскага вечарам паехаць да Вас. Гэтым самым зрабіў вялікую прыкрасць Вам і сабе. План мой вярнуцца з Мінска хоць позна ўночы сарваўся, нават карова была нядоеная, а калгасныя былі без мукі, бо нікога не папрасіў падмяніць мяне… Даехаў да Маладзечна ў дзесяць гадзін вечара. Астатні аўтобус у гадзіну ночы з Маладзечна адходзя. Пайшоў прасіць, каб зяць памог даехаць дахаты. Угаварылі адпачыць, а раніцай у сем гадзін з зяцем выехалі з Маладзечна. У дзевяць гадзін былі ўжо ў Кушлянах. Пытаецеся прозвішча старшыні сельсавета — Ушакевіч Міхаіл Іванавіч. А старшыня калгаса — Шостак Дзмітры Аляксандравіч.

Газету, дзе напісана пра Вішнеўскае возера, № 139, я пазычыў у раённай партыйнай бібліятэцы. Буду прасіць Вас, Уладзімір Ільіч, перапісаць, а газету захаваць. А нумары 140 і 141 мае — гэных аддаваць неабавязкова.

З навінаў у Кушлянах, то, можна сказаць, неблагая, бо сягоння ўжо машыны возяць пясок — якраз напроціў Багушэвічавай хаты каля сажалкі пад новую дарогу.

Ад шчырага сэрца вялікі Вам, Уладзімір Ільіч, дзякуй за сардэчныя парады з надыходам леташняй зімы берагчыся прастуды. А я гэтага не выконваю: не кінуў працы на ферме і ў марозныя дні давай працаваць, як малады, водаправодную трубку адаграваць, уцяпляць, каб кароў паіць, а сам моцна прастыў, думаў зноў ехаць у Маскву, прасіць сыноў, каб ратавалі. Дзякаваць Богу, банкі, гарчычнікі памаглі, палепшала. Але, як кажуць, на лечаным кані шмат не наездзіш. Пытаюся сам у сябе: “Ці ўдасца выйсці на Юраву расу ці не?” Адказаць не магу. Чуюся, можна

сказаць дрэнна. Адрас дачок: г. Маладзечна, вул. Танкістаў, дом № 62 — Марыя Цялега і Балунда Ніна.

Каб Вы ведалі, Уладзімір Ільіч, — як жа хочацца дажыць шчаслівага часу, каб убачыць сапраўдны музей у Кушлянах і каб я мог пачатую працу скончыць. На жаль, у гэтым годзе не ўдалося.

Прашу, дарагі Уладзімір Ільіч, не гневайцеся на мяне за мае памылкі, за маю маруднасць. Вінаваты ў гэтым трохі, старасць. З шчырым сэрцам да Вас і Вашай сям'і

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 25.XII.78 г.»*

У 1977 годзе ў Мінску выйшаў ёмісты том архіўных матэрыялаў «Пачынальнікі», падрыхтаваны Генадзем Кісялёвым. У ім шмат было апублікавана дакументаў пра паўстанне 1863 года. Сярод іх і пра падзеі, якія адбываліся ў Кушлянах і навакольных з імі вёсках, маёнтках і фальварках. Я пацікавіўся ў дзядзькі Міхала, што сталася з тымі маёнткамі ды фальваркамі, у якім яны стане, які лёс іхніх гаспадароў. Пра гэта якраз ды пра рознае іншае — пра працу на ферме, пра сваё здароўе, пра выкарчаваны на паэтавай сядзібе векавы дуб — наступны дзядзькаў ліст:

«Дзень добры, дарагі і высокапаважаны Уладзімір Ільіч!

Дзякую Вам за памяць аб Кушлянах і аба мне.

Год 1978-мы пачаўся для мяне няўдала. Як вядома, на пачатку студзеня былі вялікія маразы і на ферме замерзлі трубы ад вежы. Ваду давялося вазіць трактарам у вялікай бочцы і выліваць у вялікае жалезнае карыта — скрыню. У гэтай скрыні ёсць трубка ўнізе спускаць ваду. Але ўсё было замерзлае і занесена снегам. Сам вінаваты, не паклікаў на падмогу дзяжурнай даяркі выліць ваду, а ўзяўся сам. Быў вялікі марозны вецер, і мяне прабрала скразняком і ўсяго спаралізавала. Не то да калгасных каровак ісці, а і сваёй карміць не мог — суседзі даглядалі… Пад вачыма вялікія ацёкі, чую сябе дрэнна. Без бальніцы не абысціся. Даў сягодні тэлеграму дачцэ ў Калінінградскую вобласць. Заўтра павінна прыехаць, памагчы здаць карову і цёлку ў калгас, а мне трэба ізноў ехаць да сыноў прасіць, каб ратавалі. Калі буду ехаць, па дарозе хочацца заскочыць да вас: можа, параіце, што рабіць. А можа, дапаможаце на прыём да добрага доктара.

Шкадуеце пра дуб, Уладзімір Ільіч, які вышмаргнулі трактарысты на Багушэвічавай сядзібе. Няма чаго шкадаваць. Ён ужо шмат гадоў як стаяў без сукоў і карані ў зямлі згнілі. Ён скора і без трактара паваліўся б. Пра Вашу думку наконт выразкі скульптуры я таксама чытаў. На Багушэвічавай сядзібе дзве старыя вялікія ліпы стаялі. Адну зламала бура, але частка сукоў засталася і растуць. Так што карані не гніюць. Пры нагодзе можна што-кольвек зрабіць. Пытаецеся пра вёску Крапіўна. Вёска Крапіўна была і цяпер ёсць, належыць да нашага калгаса. Едучы з Смаргоні, як пераязджаем праз жалезную дарогу, зварочваем направа шашой, а з пераезду праз метраў дзвесце пачынаецца вёска Крапіўна. Маёнтка Баніфацава, пра які пытаецеся, куды хадзіла на сувязь Багушэвічава дачка Туня ў 1863 годзе, цяпер ужо няма. Там, дзе былі будынкі гаспадарчыя і мураваны двухпавярховы палац пана Базарэўскага, татарына з нацыянальнасці, цяпер вадасховішча Рачунскай ГЭС. За польскім часам сам Базарэўскі быў прафесарам у Варшаве, а ягоны маёнтак Баніфацава ў Ашмянскім павеце быў найлепшым маёнткам. Старыя людзі ў нашай вёсцы паказвалі мейсца, дзе былі будынкі і студня Базарэўскага. Ад прозвішча Базарэўскі і назва нашай вёскі Базары. Былі два татарскія могільнікі. Адзін, што быў у самой вёсцы. Як брукавалі вуліцы ў вёсцы, дык пліты каменныя — без надпісаў — улажылі пад брук. Другі могільнік напроціў вёскі — ва ўрочышчы, які так і называецца — Магільнік. Пасучы коні, я хацеў на якой пліце знайсці надпіс, але надпісаў няма, толькі ў радок стаяць урослыя ў зямлю.

Трыколі… Мы былі ў Свірыды і ў Клуйшы, каб знайсці партрэты іх бацькоў, якія жылі ў адну пару з Багушэвічам, ведалі яго, бачылі яго, размаўлялі з ім. У Свірыды фатаграфавалі Вы, Уладзімір Ільіч. Свірыда яшчэ жыве ў сваіх Трыколях. Пра Васілеўскага з Забалоцця трэба яшчэ распытацца ў Васілеўскага, які жыве ў Ашмяне. Можа, ён што скажа. Яго бацька быў у Пецярбургу, і сынам далі мянушку Пецярбуржцы. Калі не памру, то дапамагу.

Ад шчырага сэрца жадаю Вам, Уладзімір Ільіч, і Вашай сям'і добрага здароўя і ўсяго найлепшага.

*М. Ляпеха.*
*Кушляны 20.I.79 г.»*

Падчас адной маёй чарговай пабыўкі ў Кушлянах дзядзька Міхал распавёў мне пра Багушэвічаву наймічку з вёскі Гудзяняты Амільку. Яна слугавала ў Багушэвічавым доме, дапамагала сям'і даглядаць хворага паэта. Паказвала, дзе стаяў ягоны ложак. Натуральна,мне захацелася раздабыць, калі пашчасціць, фотаздымак гэтай Амількі, сабраць жменьку звестак пра яе. І зноў жа, калі пашчасціць, сустрэцца з сваякамі гэтай Амількі. Яна часта, паводле слоў дзядзькі Міхала, забягала ў паэтаў дом і ўсё распавядала яму, дзе і што было ў песняровым доме: «От тут ложак стаяў, а тут грубачка грэла, ён ляжаў і ўсё глядзеў на зыркае полымя агню». Па-ранейшаму цікавілі мяне і кушлянскія дубы, балазе тут іх было цэлае поле — Дубелішкамі звалася. Імі абсаджаны быў і цэлы пралёт прысядзібнай дарогі. Пра гэта якраз і гаворка ў дзядзькавым лісце за 19 чэрвеня 1979 года:

«Дарагія і высокапаважаныя Уладзімір Ільіч,
Клара Барысаўна, Марат і Аксаначка!

Моцна прашу прабачэння за маю маруднасць напісаць ліст. Збіраўся ехаць, але ніяк не вырвуся. Унучак сёлета пакуль што ў Кушлянах няма, каб памагчы, работы — адну робіш, а дзесяць чакаюць.

Старшыня калгаса даручыў зноў ферму. Абяцаў дапамагчы мне падладзіць альтанку, упарадкаваць куток каля каменя «Памяці Мацея Бурачка».

Наконт дубоў. Быў у Стрыпунах у Фэлікса Абцэвіча. Казаў: помню. Былі ля дарогі. Адзін быў паваліўшыся. Падпалілі. Доўгі час гарэў. А пра абору мураваную нічога не помніць. Я кажу: "Сястра Аляксандра Каспяровіча помніць". — "Дык яна, — кажа ён, — за мяне шмат старэйшая. Яна ішла замуж, а я яшчэ быў малы, пацан". Яму цяпер восемдзесят тры гады.

Быў у Гудзянятах. Сын Амілі Цюлькевіч даўно выехаў на цаліну, нават на пахаванне маткі не прыехаў. Быў у тых людзей, што хавалі Амілю. Фота ніякіх не захавалася. Толькі паказвалі сынава фота ў вайсковай польскай форме. Стары казаў, што фота Амількі ёсць у Ашмянскім музеі: нехта сфатаграфаваў яе, несучы ваду. У Ашмянскім музеі я даўно не быў. Фота Амілі не бачыў.

Амілія Цюлькевіч жыла ў Гудзянятах, толькі не ў вёсцы, а на хутары. Ідучы з вёскі Гудзяняты да Жупранаў па левым баку дарогі, каля самай рэчкі. Будучы ўжо старой, пайшла на

рэчку мыць бялізну, звалілася ў рэчку і ўтапілася. Гэта было даўно — у 1954 ці 1955 годзе. Пра гэта мне расказвала настаўніца Навасёлкаўскай школы, якая была з вучнямі на экскурсіі ў Кушлянах.

Клуйша і Свірыда з Трыколяў яшчэ патроху рухаюцца каля сваёй хаты. Ад Касяровічаў з Польшчы ліста не атрымаў. Нешта не хоча паляк мець дачынення з беларусамі.

Здароўем хваліцца не магу, але краплюся. Надта хочацца зрабіць, што ўсім абяцаў: камень абгарадзіць жалезнай агароджай, альтанку на Лысай Гары; сонечны гадзіннік. Адным словам усё, што Вы, Уладзімір Ільіч, некалі пісалі ў газеце. Мушу вырвацца наведаць Вас і музейную майстэрню. А пакуль што ўсяго Вам усім самага найлепшага.

З шчырай вялікай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 19.VI.79 г.»*

У сваім лісце за 25 лютага 1978 года дзядзька Міхал паведамляў, што праз Кушляны дарожнікі вядуць новую дарогу — паўз слынныя кушлянскія Ваўкелы, Багушэвічаву сажалку. Навіна нібыта прыемная, добрая. Але ж яно так звычайна бывае: будуюць новае, каб старое знішчыць, зруйнаваць, заараць. А старая ж дарога — гэта ж таксама частка кушлянскай гісторыі, кушлянскага мемарыялу. Я затурбаваўся і пра свае трывогі напісаў дзядзьку Міхалу. Адказ на мае турботы быў такі:

«Дарагі і высокапаважаны Уладзімір Ільіч!

Чатырнаццатага лістапада быў у Кушлянах старшыня калгаса, чытаў Ваш ліст і прасіў мяне напісаць Вам, што ўсё будзе зроблена так, як было пры Багушэвічу. Дарога будзе пакінута і з дапамогай школы будуць пасаджаны дубкі. Для пасадкі саду заказаў у гадавальніку сто сорак саджанцаў. Камень звезлі і пачалі араць Багушэвічаў агарод — рыхтуем плошчу пад пасадку сада. Прасіў перадаць Вам, Уладзімір Ільіч, прывітанне з пажаданнем усяго самага найлепшага ў жыцці.

Матэрыял на абгародку каменя “Памяці Мацея Бурачка” цалкам завезены. У хуткім часе будзе зроблена абгародка. Капліччка таксама ў хуткім часе будзе зроблена. А рамонту дома покуль што яшчэ не пачалі…

Цяпер трохі пра сябе. Пуцёўкі ў санаторыю покуль што няма.

Пішаце, што хоча ў Кушляны прыехаць тэлевізія. Уладзімір Ільіч, скажыце, хай тэлевізійнікі, покуль не будзе зроблена каплічка, абгародка каменя, не едуць. Калі не зрабіць цяпер у хуткім часе, то гэта значыць, што зусім не зрабіць. Пра здароўе, покуль не будзе зроблена, пісаць не буду, бо няма калі хварэць.

Да пабачэння. З шчырай і вялікай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 16.XI.79 г.»*

Набліжаўся 1980 год, юбілейны для Францішка Багушэвіча. Беларусь мелася адсвяткаваць 140-ю гадавіну з дня народзінаў нашага Прарока. Мне зарупіла напаткаць Новы год разам з дзядзькам Міхалам. Трынаццатага снежня я напісаў:

«Шаноўны Міхал Сымонавіч!

Хутка Новы год! Ці не прыехалі б Вы да нас разам сустрэць Новы год? Калі б Вы прыехалі, змаглі б прыехаць, я б сапраўды адчуў бы і Новы год, і святочнасць настрою, і нямарнасць пражытых дзён. Вельмі просім. Абавязкова паведаміце, ці прыедзеце!

Перадавайце мае прывітанні абодвум Васілеўскім, Стэфе Клуйшы і шмат каму іншаму.

Шчыра

*У. Содаль.*

*P. S.*

Міхал Сымонавіч!

Ліст гэты я напісаў Вам трынаццатага ці чатырнаццатага снежня. Але ў той жа дзень я захварэў ці, больш дакладна, вярнуўся хворы. Але думаў, што выберуся з хваробы, перадыхну — і ўсё пройдзе. Толькі не так яно сталася. Сёння ўжо 22 снежня, а хвароба адпускае мяне спакваля. І ўсё ж я спадзяюся, што Новы год сустрэнем разам у нашай хаце. Буду чакаць ці самога, ці хоць якой весткі.

І апошняе. Вы мне абяцалі больш даведацца пра Цыбоўскіх, бацьку і сына, што наведалі Кушляны і пакінулі ў кнізе запісаў

свой водгук пра Багушэвіча. Што за Цыбоўскія? Адкуль яны? Ці ўдалося што-кольвек даведацца?

Прыязджайце, абмяркуем, як будзем рыхтавацца да Багушэвічавага юбілею.

Шчыра

*У. Содаль.*
*23.XI.1979 г.»*

Аднак напаткаць Новы 1980 год разам з дзядзькам Міхалам нам не давялося. Ён, не папярэдзіўшы мяне, з'ехаў аж на Львоўшчыну, у санаторый «Днестр». Адтуль яго апошні з 1979 года ліст, і, вядома ж, з клопатам пра Кушляны:

«Дзень добры, дарагія і высокапаважаныя Уладзімір Ільіч, Клара Барысаўна, Марат і Аксаначка!

Прашу вас, Уладзімір Ільіч, дараваць мне, што затрымаўся з адказам на Ваш ліст. На першае пытанне: "Як адчуваю сябе?" — хваліцца не маю чым. Найгорай шкодзе на здароўе тое, што не ўдаецца зрабіць, што павінна ўжо даўно быць зроблена на Багушэвічавай сядзібе.

Каб сабрацца ехаць у санаторыю, колькі часу і нерваў: дакументы, аналізы… Усё гэта не дало магчымасці ў пару даць адказ на Ваш ліст. Ужо знаходжуся ў санаторыі ў Украінскай рэспубліцы ў Львоўскай вобласці. Дастаўся шаснаццатага снежня вечарам у восем гадзін. Сягоння 17.12 першы дзень. Два дні прыйшлося мучыцца ў Вільні, каб купіць білет. Зрабіў памылку, што з Асіпанаў паехаў у Вільню падарожнай машынай, а не чыгункай.

Перад паездкай на Львоўшчыну быў у начальніка станцыі Солы, цікавіўся, як Вы прасілі, гісторыяй гэтай станцыі. Казаў, што Солы ў той час, як ехалі на пахаванне Багушэвіча, былі не станцыяй, а толькі раз'езд. А Солы былі там, дзе цяпер станцыя Ашмяны. Як вярнуся з санаторыя, то пастараюся ўсё напісаць. Цяпер, як пішу гэты ліст, моцна баліць у грудзях. Пытаецеся пра Яцэвіча Антона. Антон Яцэвіч жыве ў Солах, але да кушлянскіх Ясевічаў не належыць. Маладзіца Невядомская цяпер у Кушлянах не працуе. З ёй бачыцца не ўдалося.

Пакуль усё, што змог напісаць. Ад шчырага сэрца жадаю сустрэць Новы, 1980 год і пражыць яго ў шчасці і радасці.

З шчырай вялікай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Санаторый «Днестр» 17.12.79 г.»*

Пажадаўшы у Новым 1980 годзе шчасця і радасці, дзядзька Міхал надоўга змоўк. Адгукнуўся толькі ў канцы красавіка. Ягоны ліст прынёс шмат кушлянскіх навінаў. Адна з іх — наведванне Кушлянаў мінскімі чыноўнікамі.

«Дзень добры, дарагія і высокапаважаныя Уладзімір Ільіч,
Клара Барысаўна, Марат і Аксаначка!

Шчыра дзякую за ліст, за фота. Наконт, ці зроблена што з каплічкай? То пакуль што нічога не зроблена. Прычына такая: прыязджалі з Мінска начальнік архітэктурна-рэстаўрацыйнага аддзела Канаваленка Ал. Гр. І з рэстаўрацыйнай майстэрні Міністэрства культуры — аддзел аховы помнікаў Міністэрства культуры Варанкоў Ю. Г. Я некалькі разоў звяртаўся з просьбай да старшыні калгаса Карабінскага, каб як мага хутчэй зрабіць альтанку (каплічку). Старшыня не адмаўляецца даць майстроў, толькі кажа, каб потым не было прынцыпу, што не так зрабілі. Каб не заставілі перарабляць. У Вас, Уладзімір Ільіч, ёсць фота альтанкі, якая была пры жыцці Фр. Багушэвіча. Прашу, калі ласка, пад'едзьце да іх, каб яны напісалі, што згодны на работу такой альтанкі. Як будзе дазвол, то старшыня калгаса казаў: дам майстроў і за пару дзён будзе зроблена. Яны як былі, то абяцалі, што ў хуткім часе прыедуць зноў у Кушляны. Тады буду пытацца наконт бяседкі (альтанкі) на Лысай Гары…

У Кушлянах ужо распусціўся вербалоз. Падснежнікі растуць на Лысай Гары і на нямецкім могільніку. Падбел (маць-і-мачыха) расце каля берагоў рова, што зрабілі меліяратары.

Усяго самага найлепшага.

З шчырай вялікай павагай да Вас

*М. Ляпеха.*
*Кушляны, 28.IV.1980 г.»*

Зацікаўленне Кушлянамі чыноўнікамі сведчыла, што песнярову сядзібу чакае дзяржаўная апека, дзяржаўны клопат. А калі дзяржава за што бярэцца, то яна распачатую працу давядзе да

ладу, зробіць усё належна, дасканала. Так яно будзе і ў Кушлянах. Але на гэта спатрэбіцца яшчэ адно дзесяцігоддзе.

Як жылі Кушляны ў гэтае дзесяцігоддзе — 1980–1990, як увасаблялася мемарыялізацыя кушлянскай сядзібы — пра гэта хіба другім разам.

## «Аб сабе хачу пакінуць памяць...»

Гісторыя да беларускага народа і яе слаўных сыноў заўсёды была чамусьці не вельмі зычлівая. У дарэвалюцыйны час рабілася ўсё, каб пра беларускіх дзеячаў не заставалася ніякага следу, ніякай памяткі. Творы беларускіх пісьменнікаў знішчаліся цэнзураю, паліцыяй, жандарамі, а імёны кідаліся ў забыццё. Іх не запісвалі ў энцыклапедыі, не ўвекавечвалі ў помніках. Адзінае хіба выключэнне — Ф. Багушэвіч, імя якога яшчэ да рэвалюцыі было ўшанавана народам, і найпершай памяткай пра паэта з'явіўся вялікі шэры валун поблізу Кушлянаў.

Другая памятка з дарэвалюцыйных часоў пра Багушэвіча — мармуровая дошка з паэтавым партрэтам у жупранскім касцёле. Партрэт для мармуровай дошкі выканаў віленскі мастак Ян Арасімовіч. Права на пашану ў касцёле мелі толькі надзвычай заслужаныя людзі. І такім заслужаным чалавекам быў прызнаны акалічным людам Ф. Багушэвіч. Мармуровая дошка, гэтак жа, як надпіс на камені, была зроблена на сродкі і клопатамі ўсё тых жа Багушэвічавых сяброў. На ёй і адпаведны надпіс лацінкаю: «Францішку Багушэвічу. 1840–1900. Сябры».

У наш час памяць пра Багушэвіча ўшанавана на Беларусі скульптурным помнікам (аўтар — мастак З. Азгур, помнік заснаваны ў 1958 годзе) і надмагільнаю плітою з паэтавым барэльефам. Багушэвічаў барэльеф выканалі гродзенскія скульптары В. Данянкоў і В. Пятраеў. Аўтар жа праекта надмагільнага помніка — архітэктар К. Асадаў. Скульптурны помнік пры бойкай дарозе Мінск – Вільнюс. Выліты з бронзы Багушэвіч глядзіць на наша вірлівае жыццё і нібы працягвае мовіць словы

з палымянай прадмовы да «Дудкі беларускай»: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна беларускай…»

Пры жыцці Багушэвіч хацеў ад нашчадкаў няшмат. Усяго толькі пачуць «дзякуй» ад тых, хто спадабае яго вершыкі. Але час і гісторыя паказалі, што паэтычны і грамадзянскі подзвіг, здзейснены Багушэвічам, значна больш велічны, чым уяўляў яго сам паэт. Таму гэтак рупяцца нашчадкі, каб памяць пра вялікага песняра беларускага народа была вечная.

# Сучаснікі пра Ф. Багушэвіча

## З некралогаў

«Шчасце сваё бачыў у любві да народа, які ведаў нядолю і замілаванасць якога да роднай зямлі і жыццёвыя прыгоды апяваў так проста і з такім майстэрствам…

Багушэвіча любілі за справядлівасць і спачуванне да бедных кліентаў, асабліва да сялян, за ўзнёслыя грамадзянскія пачуцці; яго ставілі за ўзор тым калегам па прафесіі, якім кар'ерызм засланяў разуменне справядлівасці і гуманізму, не любіў арыстакратызму багатых адвакатаў, быў прасякнуты ідэяй дабра і служэння грамадству».

*Люцыян Узембла, віленскі літаратар і гісторык.*
*Часопіс «Век», 1900, № 164.*

«Гэта быў адзін з ідэалістаў у адвакатуры, характар узнёслы, чалавек сціплы, які яднаў сэрцы сваёй вялікай сумленнасцю, непахіснасцю прынцыпаў. Усёй душою незабыўны Багушэвіч адданы быў народу, мову якога ў яе беларускай галіне ведаў грунтоўна, гутаркі, казкі і скаргі якога сардэчна пераліваў у рыфмы».

*Люцыян Узембла. Часопіс «Бясяда літарацка»,*
*1900, № 24.*

«Нябожчык быў сапраўдны прадстаўнік прысяжнай адвакатуры “першага закліку”, увесь прасякнуты гуманнымі памкненнямі судовых статутаў 1864 года».

*Мікалай Радзін, віленскі журналіст.*
*«Северо-западное слово», 1900, № 507.*

«Не сварыў ён, мірыў, не раз’ядноўваў, а яднаў, схіляў багатых да ўступак, а бедных вучыў да ўдзячнасці».

*Люцыян Узембла.*

«Як чалавек — увасабленне высакароднасці, бязмерных маральных якасцяў, страшэнна ўражлівы на ўсякае зло. Абурала яго да глыбіні душы кожная беззаконнасць, на якую іншыя не звярталі нават увагі».

*Зыгмунт Нагродскі, Багушэвічаў віленскі прыяцель.*

«Па-польску пісаў мала, бо хацеў пісаць перш за ўсё для народа, які жыў у яго родных мясцінах (Ашмянскі павет) і гаварыў пераважна па-беларуску…

Цяжкую задачу паставіў перад сабой Ф. Багушэвіч, не маючы ні адпаведных узораў, ні дастатковых крыніц. Заставалася яму адно: чэрпаць поўнай жменяй з адной крыніцы — з народных вуснаў і здабыты матэрыял адпаведна апрацоўваць».

*Напалеон Роўба, віленскі публіцыст.*
*«Тыгоднік ілюстраваны», 1900, № 2/3.*

«Памяць памерлага Францішка Багушэвіча ўшаноўваю глыбока і вестку пра яго смерць прыняла з сардэчнаю слязою. Быў ён адным з найвысакародных людзей, якія служылі нашай зямлі, а для мяне асабіста адным з вельмі нешматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і самотныя».

*Эліза Ажэшка.*

# Багушэвічаў лік у мастацкіх выявах

Самабытная постаць Францішка Багушэвіча прываблівала майстроў пэндзля яшчэ пры ягоным жыцці.

Адзін з першых, калі не першы, хто намаляваў яго алейны партрэт, быў вядомы мастак Міхал Эльвіра Андрыёлі. Калі, у якім годзе ён увасобіў вобраз Мацея Бурачка, сёння дакладна невядома. Але знаёмства з жыццёвай і творчай біяграфіяй М. Андрыёлі дае падставу выказаць думку, што партрэт гэты быў намаляваны на пачатку дзевяностых гадоў XIX стагоддзя. Андрыёлі памёр у 1893 годзе, доўга жыў за мяжою, з 1883 да 1886 года — у Парыжы. У 1892 годзе ён сустракаўся з Багушэвічам, гутарыў з ім. То дзесьці між гэтымі гадамі, думаецца, і быў намаляваны партрэт песняра мужыцкай долі. Але ні пра мастацкія вартасці, ні пра самую выяву гаварыць не даводзіцца, бо партрэт у пасляваенны час знік з Кушлянаў, а датуль вісеў у салоне паэтавай хаты побач з жончыным партрэтам — таксама Андрыёлевай працы. Старыя кушлянцы згадваюць, што ў першыя пасляваенныя гады прыязджаў у Кушляны нейкі гарадскі пан, тады партрэт і знік. Глухія чуткі даносяць, што гэтым панам быў вядомы крытык Лука Бэндэ. Так, Бэндэ ў Кушлянах быў не адзін раз. Але, як сведчыць публікацыя ў маладзечанскай «Сялянскай газеце» за 14 жніўня 1948 года, Бэндэ сам бедаваў, куды дзеўся той партрэт. У 1946 годзе ён яго яшчэ бачыў. А што такі партрэт быў — памятаюць многія. У 1940 годзе яго бачыў Максім Танк, калі разам з брыгадай пісьменнікаў ездзіў на Ашмяншчыну на святкаванне сотай гадавіны з дня нараджэння Багушэвіча. Бачылі яго і іншыя дзеячы нашай культуры. Міхась Ларчанка, напрыклад, у 1940 годзе ў публікацыі «На радзіме Ф. К. Багушэвіча» ў «Звяздзе» за 26 верасня пісаў: «Значную каштоўнасць маюць вялікія партрэты Багушэвіча і яго жонкі, напісаныя алеем невядомым мастаком». Але, на жаль, ніхто не парупіўся, ніхто не здагадаўся забраць тыя партрэты ці хоць зрабіць фотакопіі. Праўда, М. Ларчанка кідаў кліч да грамадскасці, каб партрэты сталі набыткам дзяржавы, каб іх забралі з Кушлянаў і змясцілі

ў карціннай галерэі. Але гэты кліч не быў пачуты ў пару; потым вайна, пасляваеннае бязладдзе, і каштоўныя мастацкія памяткі нехта звёз з Кушлянаў. Добра, калі свядома. Тады, можа, з часам яны дзе-небудзь ды выплывуць.

Пэўнае ўяўленне пра паэтаў партрэт, намаляваны Андрыёлі, дае Багушэвічава ўнучка Станіслава Тамашэўская. Яна бачыла дзядулеў партрэт на працягу многіх гадоў. То ён ёй, больш як каму, у памяці. Паводле слоў Тамашэўскай, абодва партрэты, дзядулеў і бабулін, былі ў цяжкіх пазалочаных рамах, прыкладна 1 м на 70 см. Тамашэўская згадвае, што дзядуля быў намаляваны ў каўнерыку-стойцы, пры гальштуку, што Андрыёлі перадаў на партрэце ўсё дзядулева высакародства, яго інтэлект.

Наведаўшы Кушляны ў 1972 годзе, Тамашэўская шукала партрэты сваіх продкаў. Мясцовыя людзі казалі ёй, што дзядулеў партрэт нейкі час вісеў у доме Мніховіча, паэтавага зяця, да выезду адтуль нейкага рэпатрыянта Цада. То мо гэты Цад і звёз з сабой партрэты? У кожным разе, з пасляваеннай пары, пасля 1946 года, іх ніхто ўжо ў Кушлянах больш не бачыў.

Не дайшоў да нас і арыгінал алоўкавага малюнка з назвай «Ф. К. Багушэвіч у дзень смерці». Маем толькі газетную рэпрадукцыю. На ёй мы бачым Багушэвіча на смяротным ложку 15 (28) красавіка 1900 года. Францішак Казіміравіч мужна пераносіць боль. Пад галавой у яго высокая гара падушак… Коўдра ссунута з грудзей. Правая схуднелая рука ляжыць на левай, выцягнутай уздоўж цела. Твар павернуты да святла, Вочы прагнуць ухапіць апошнія праявы жыцця. А душа яшчэ тоіць надзею на цуд. Ды цудаў не бывае.

На думку знаўцаў, малюнак зроблены даволі прафесійна. Штрыхі на ім трапяткія, нібы красаныя, імпульсіўныя. Замалёўка пранікнёна перадае апошнія хвілі пісьменніка.

Зрабіў гэтую замалёўку дзевятнаццацігадовы паэтаў сын Тамаш. Малюнак знойдзены ў 1940 годзе ў Кушлянах. Тады ж яго рэпрадукцыя была змешчана ў газеце «Літаратура і мастацтва».

Некім з Багушэвічавых сучаснікаў бы намаляваны паэтаў партрэт пры яго жыцці і на знешняй старонцы двайнога аркуша з перакладам байкі вядомага польскага пісьменніка і мастака Артура Бартэльса «Свінні і бараны». Вось як пра гэта сказана

ў звяздоўскім паведамленні 26 верасня 1940 года: «З новых паэтычных твораў Багушэвіча ва ўнучкі пісьменніка ўдалося знайсці толькі адзін — байку “Свінні і бараны”, чыёйсьці рукой акуратна перапісаную на двух сшытачных лістках з подпісам “Францішак Багушэвіч”. На вокладцы нарысован алоўкам партрэт Ф. Багушэвіча і ўнізе партрэта напісана: “Ф. Багушэвіч, “Свінні і бараны”, тлумачана з польскай”».

Хто намаляваў партрэт на гэтым аркушы, для чаго ці для каго — застаецца пакуль таямніцай. Можа, што з часам і прасветліцца.

Маем мы і яшчэ адзін Багушэвічаў партрэт, маляваны яго сучаснікам. Ён каляровы, змешчаны ў жупранскім касцёле на памятнай мармуровай пліце. Намаляваны на меднай авальнай пласціне памерам 48 × 35 см. Адпаведна пласціне авальны і сам партрэт. Памер яго, натуральна, меншы. Вольная вакол партрэта плошча ў кругавой пазалоце. Гэта надае твору падабенства да абраза.

Партрэт зроблены даволі прафесійна, алейнымі фарбамі на белым грунце. Аблічча рэалістычнае. Твар аб’ёмны, маляваны цёмна-карычневай фарбай з пераходам да святлейшага, ружаватага тону. Сурдут шэры з мазкамі карычневага. Гальштук больш цёмнага колеру. Добра вымаляваны славутыя паэтавы вусы, валасы пададзены больш мякка.

Аўтар гэтага партрэта Ян Яроцкі. Яго імя, здаецца, у нашым мастацтвазнаўстве згадваецца ўпершыню, Сваё аўтарства мастак засведчыў у левым ражку выявы. Тут жа пазначаны год і месца працы: «1901 г., Вільня».

Твор Яна Яроцкага для нас найкаштоўны. Гэта адзіны намаляваны сучаснікам у колеры паэтаў партрэт, які дайшоў да нас. Ён дае нам уяўленне пра каляровую гаму паэтавай вопраткі. З-за недахопу звестак з іншых крыніц згаданы партрэт неацэнны і ў гэтым сэнсе.

З новай кагорты беларускіх мастакоў, мастакоў нацыянальна свядомых, першы звярнуўся да вобраза Багушэвіча Язэп Драздовіч. У 1929 годзе ён зрабіў вандроўку па паэтавых мясцінах і прывёз з падарожжа шмат замалёвак, звязаных з яго імем. А ў 1930 годзе, на пачатку лістапада, у Вільні завяршае вялікі алейны партрэт самога Францішка Багушэвіча. Гэта для

яго зусім натуральна. Багушэвіч для ўсіх пакаленняў людзей быў узорам адданасці народу, Бацькаўшчыне. Драздовіч увасобіў яго на грунтаваным зрэбным палатне. Акурат на такіх тканінах ён маляваў насценныя дываны. Партрэт у авале. Вуглы ж мастак аздобіў узорамі, якія нагадваюць узоры народных посцілак: чырвона-карычневыя пасачкі чаргуюцца з жоўта-бронзавымі, і вымаляваны яны так аб'ёмна, што ўспрымаюцца як нашыўныя ці вытканыя.

Па ўзорах — у верхніх кутах — даты: «1900–1930». А ўнізе, лацінскай вяззю, таксама стылізаванай пад тканы ўзор, выведзены крыптанімы. Злева «F. B.» — Францішак Багушэвіч, справа «M. B.» — Мацей Бурачок.

Сецэсійнымі ўзорамі аздоблена і чорная лакавая рама. Віточкі і ўзоры намаляваны бронзавай фарбай. Уверсе рамы завіткі сходзяцца на шышачцы, унізе — на ліры. Паэт у звычайнай сялянскай світцы з грубага сукна. Аблічча знаёмае, з апошніх гадоў жыцця, але пададзена ў Драздовічавай манеры, самабытна, у акруглых лініях. Цікавыя і зыходныя звесткі на адвароце. Вось яны, выпісаныя бурачковай фарбаю: «Партрэт Фр. Багушэвіча (М. Бурачка). Маляваў з памяці з 1897 г. (у ф. Кміты — на Дзісеншчыне). Я. Н. Драздовіч. Вільня — 4/XI.1930 г.»

Што ж азначаюць гэтыя звесткі, асабліва «маляваў з памяці з 1897 г.»? Магчыма, у маленстве, менавіта ў 1897 годзе, дзевяцігадоваму Язэпу Драздовічу давялося бачыць жывога паэта. Мо, які адвакацкі лёс, адвакацкія шляхі-дарогі і прывялі паэта на Дзісеншчыну, і там дзевяцігадовы хлапчук нейкім чынам пабачыў песняра, пачуў яго, запомніў на ўсё жыццё.

Вельмі магчыма, што «маляваў з памяці» — значыць, маляваў з памяці людзей, якія бачылі Багушэвіча ў 1897 годзе, але ж на палатне чорным па белым напісана: «У ф[альварку] Кміты». Вось гэтая апошняя дэталь і дазваляе меркаваць пра непасрэдную повязь мастака з паэтам.

Язэп Драздовіч маляваў Багушэвічаў партрэт на абшарах Заходняй Беларусі. Тут ні на дзень не спынялася змаганне за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Багушэвічава постаць у заходнебеларускіх умовах для нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, для ўсіх змаганцаў была ўзорам служэння народу,

прыкладам адданасці краю, мове. Да яго вобраза звяртаюцца шмат якія мастакі, малююць яго партрэты для розных выданняў і газет. Найчасцей гэта перамалёўкі з Багушэвічавай фатаграфіі 1891 года — у крамным пільчаку, пры гальштуку. Адзін з такіх графічных партрэтаў — яго арыгінал — захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ф. 3, воп. 1, с. 46, арт. 31). Прозвішча аўтара на графічным лісце не пазначана. Ёсць толькі рукапісная тэкстоўка: «Францішак Багушэвіч — бацька Беларускага адраджэнскага Руху». Рэпрадукцыя гэтага партрэта з такім надпісам публікавалася ў шматлікіх заходнебеларускіх выданнях.

У Заходняй Беларусі выдаваліся таксама паштоўкі з Багушэвічавым партрэтам у мастакоўскіх выявах. А што рабілася ў Савецкай Беларусі? Ці ўвасобіў хто з беларускіх савецкіх мастакоў слаўнага песняра? Звесткі пра гэта вельмі скупыя.

Народны мастак СССР Заір Азгур згадвае, што вобраз Багушэвіча прывабліваў такога масцітага майстра пэндзля, як Юры Пэн. Паводле слоў З. Азгура, ён на свае вочы бачыў у майстэрні вядомага віцебскага мастака паэтаў партрэт з прыгожымі, самабытнымі вусамі.

Рэпрадукцыя малюнка «Багушэвіч» В. Дваракоўскага змешчана ў пятым нумары часопіса «Маладняк» за 1924 год. Яна надрукавана ў сіняватай афарбоўцы. Сюжэт малюнка адвольны, ідзе ад матываў Багушэвічавай паэзіі. Мы бачым паэта ў вясковай хаце, за сталом з грубых, няшчыльна падагнаных адна да аднае негабляваных дошак, пры невялікім акенцы. Ён трымае доўгі, як звітак, аркуш паперы, чытае штосьці толькі што напісанае. Тут жа гусінае пяро ў чарніліцы. Намаляваны паэт на фоне вясковай варыстай печы. Над духам, на вяровачцы, сушыцца вопратка: порткі, шкарпэткі, розныя анучкі.

Паказ Багушэвіча ў такіх прыземленых, сялянскіх абставінах, мабыць, свядомы. Гэта найперш набліжэнне асобы паэта да самой тэматыкі творчасці, зліццё яго постаці з селянінам, мужыком. У Савецкай Беларусі над Багушэвічам, ды і над іншымі класікамі беларускай літаратуры, збіраліся хмары непрызнання, забыцця, абвінавачвання ў буржуазным нацыяналізме і іншых грахах. То малюнак В. Дваракоўскага ці не ёсць спроба «парата-

ваць» Багушэвіча, паказаць, што і ён сам, і яго паэзія, яго побыт спрэс сялянскія? Між іншым, у такім жа заземленым ракурсе паказвалі і Багушэвічаў дом. Калі глядзіш на такія малюнкі, дзіву даешся: як можна з даволі прыстойнай будыніны такую крывулю стварыць. На фатаграфіях, у натуры дом як дом. На малюнках ён скасабочаны, скрыўлены, напалову зменшаны праз гэтае скрыўленне, праз гэтае сціскание ліній.

Шмат гадоў выношваў партрэт «свайго Багушэвіча» і старэйшы беларускі мастак Пётра Сергіевіч. Яго, як і Драздовіча, Багушэвіч прываблівае перш за ўсё як асветнік і адраджэнец. Такога ён і намаляваў на сваім палатне. Высакародны, мудры, нібы з беларускай княскай дынастыі, у строгім фатэлі, з кнігаю. Калі глядзіш на гэты партрэт, гэтак і чуюцца паэтавы радкі — зварот ад імя сялян: «А дзе ж ксёнжкі для нас, мужыкоў?» Партрэт Сергіевіч скончыў у 1946 годзе і падараваў Літаратурнаму музею Янкі Купалы. Ён і цяпер там, штодня гутарыць з наведвальнікамі музея. Новая хваля цікавасці да Багушэвіча абудзілася ў мастакоў у сярэдзіне 1970-х гадоў. Графік Мікола Купава стварае партрэты «Малады Багушэвіч» (1976), «Багушэвіч у Вільні» (1979). Пра свае працы сам мастак гаворыць:

«Багушэвічаў вобраз мною асэнсоўваўся разам з вывучэннем і даследаваннем гісторыі паўстання 1863 г. поруч з постаццю Кастуся Каліноўскага. Францішак Багушэвіч як дэмакрат фармаваўся ў гімназічныя і студэнцкія гады, і вялікая роля ў гэтым належыць Вільні, гораду-музею, сэрцу беларускай гісторыі і культуры. Першы партрэт паказвае маладога Францішка ў віленскай бібліятэцы. Натуецца перыяд, які папярэднічаў паўстанню.

Другі партрэт, як і першы, з адзнакай Вільні.

Але гэта ўжо другі этап. Тут Багушэвіч сталы, юрыст, абаронца правоў Чалавека. У абодвух партрэтах Багушэвіч асветнік, гуманіст, дэмакрат. Такі ён быў, такім я яго ўспрымаю».

Дзве партрэтныя замалёўкі робіць і мастак Мікола Гуршчанкоў. Ён паказвае паэта на фоне краявідаў. Але яны — не толькі гістарычная прыкмета часу. Гэтыя краявіды — сацыяльныя мастакоўскія апавяданні пра раскошу і беднасць, пра цяжкую сялянскую працу і несправядлівую заможнасць маёнткаў. Усё на графічных аркушах суладна з думкамі песняра, з яго творчасцю.

Сам паэт, як і на Сергіевічавым партрэце, з кнігай — сімвалам навукі, асветы. На думку Гуршчанкова, Багушэвічава творчасць заслугоўвае пільнай увагі мастакоў. Шчырая, непасрэдная, глыбока праўдзівая, яна бясконцая для мастакоўскіх разваг і ўвасабленняў.

У 1984 годзе партрэт песняра стварае Міхась Басалыга. Кожны з мастакоў імкнуўся паказаць паэта ў сваім адчуванні, у сваім разуменні, у сваёй манеры. Аднак шмат у гэтым паказе традыцыйнага, фатаграфічнага, што перагукваецца з творамі папярэднікаў. Можа, таму што мастацкая іканаграфія Багушэвіча ніколі не вывучалася, не збіралася разам, не аналізавалася. У кожным разе, калі, скажам, параўнаем работы М. Басалыгі і П. Сергіевіча, то не ўбачым вялікай розніцы ні ў кампазіцыі, ні ў самой выяве паэта. На гэтую тэму можна шмат разважаць, аднак найпершы клопат гэтых нататак — прасачыць гістарычную цікавасць мастакоў да Багушэвічавай постаці, яго аблічча.

Як нам здаецца, найбольш удалы, а можа, больш арыгінальны Багушэвічаў партрэт з сучасных мастакоў стварыў Уладзімір Адамчык. Яго партрэт нідзе не выстаўляўся. Ён вісіць на трынаццатым паверсе ў адным з рэдакцыйных пакояў Беларускага тэлебачання. І калі дзверы пакоя расчынены, а гэта бывае даволі часта, паэт глядзіць на свет, на цябе журботна-шчымлівым, заклапочаным поглядам. Лоб напружаны. Напружанасць перадаецца глыбокімі складкамі. У гэтых складках тояцца глыбокія думкі. Партрэт драматычны. Настрой драматызму ствараюць розныя колеры: сінія, белыя, зялёныя, шэрыя. На партрэце яскравыя ўсе дэталі аблічча, вопраткі. Партрэт на фоне ні то расчыненага акна, ні то рамкі. «Чалавек за межамі свайго часу», — так, мабыць, чытаецца. Чалавеку гэтаму цесна ў рамках. На яго, здаецца б, глядзеў і глядзеў, такі ён выразны, такі ён характэрны, гэты партрэт.

# «Той люд жыве, што свае песні мае…»

Акрэсліваючы жанравыя абсягі Багушэвічавай творчасці, мы кажам: паэт, празаік, сатырык, байкапісец, перакладчык, публіцыст… І гэта ўсё так, усё праўда. Але пра Францішка Багушэвіча мы можам гаварыць як пра паэта, далучанага да музыкі, да песеннага жанру. Найперш ён збіраў і запісваў народныя песні, апрацоўваў іх. Як вядома, у «Смыку беларускім» ён змясціў аж цэлую нізку з дзесяці вершаў пад агульнаю назваю «Песні». Пераважная большасць з іх мае народныя вытокі. Але ёсць твор і літаратурнага характару. Гэта славутыя Багушэвічавы «Хмаркі».

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нігдзе ж для вас няма хатанькі…
Адпачынеце аж у Божанькі!

Гдзе радзіліся, гдзе ж вы, хмарачкі
Гдзе «тутэйшымі» называліся!
Леціцё усё, так як ярачкі…
Хоць бы трошкі гдзе затрымаліся!

Інтанацыя верша «Хмаркі» напеўная, тужлівая. Францішак Багушэвіч вельмі хацеў, каб гэты твор стаў песняй. Ён нават даслаў верш кампазітару Мечыславу Карловічу, які падахвоціўся напісаць на яго адпаведную мелодыю. Невядома, ці напісаў малады кампазітар музыку да «Хмарак», але захады Ф. Багушэвічам дзеля гэтага былі зроблены. Для зручнасці паэт падрыхтаваў пераклад верша на польскую мову.

Пра Багушэвічаву зацікаўленасць песенным жанрам сведчыць і ягоны ўдзел у конкурсе турыстычнай песні, абвешчаны віленскім прадпрымальнікам Зыгмунтам Нагродскім у 1897 годзе. Песня «Прэч бутэлькі, люлькі, карты…» на словы Ф. Багушэвіча заняла першае месца. Яе любіла (і цяпер любіць) ковенская ды віленская моладзь. Глыбока патрыятычны, бадзё-

ры, гэты твор кліча ў падарожжа, у вандроўку па родным краі. Думаецца, песню можна было б замацаваць гімнам і сённяшніх беларускіх краязнаўцаў і пілігрымаў.

А ці кладуцца на музыку іншыя Багушэвічавы творы?

Так, несумненна. Прыкладам — песні на вершы «Мая хата», «Думка». Музыку да верша «Мая хата» напісаў кампазітар Уладзімір Макарэвіч, які пэўны час жыў у Кушлянах. Пра гісторыю песні распавяла яе першая выканаўца Зарына Жамойціна, дачка паэта Алеся Жамойціна: «Песня напісана на словы Ф. Багушэвіча кампазітарам Уладзімірам Макарэвічам восенню 1989 года. Блізілася адкрыццё музея. Захацелася напісаць штосьці новае. Мы ўзялі зборнік Багушэвічавых вершаў, доўга гарталі яго і спыніліся на вершы "Мая хата". Прэм'ера адбылася тут жа, у Кушлянах, на свяце, прысвечаным 150-годдзю з дня народзінаў песняра. Поўная зала людзей, тэлебачанне — і поспех. Пасля песня была паказана сталічнай публіцы. Ёй, відавочна, таксама спадабалася, хоць я сваім выкананнем не вельмі была задаволеная».

Уладзімір Макарэвіч напісаў свой варыянт мелодыі на Багушэвічавы словы «Прэч бутэлькі, люлькі, карты…» («Спеў») — нагадаю, першая спроба была зроблена яшчэ пры жыцці песняра.

У 1985 годзе вучні сярэдняй школы № 50 г. Мінска з песняй «Прэч бутэлькі, люлькі, карты…» прайшлі па песняровых сцяжынках, праспявалі яе і на Багушэвічавай сядзібе пад славутай кушлянскай альтанкай.

Пэўна, кожны паэт — гэта заўсёды і музыка. У паэзіі, як і ў музыцы, вельмі важная гармонія гукаў, словаў, мелодыка, рытм, музыкальнасць. Без гэтых складнікаў паэзіі не бывае. Шмат хто з паэтаў іграе ці іграў на музычных інструментах. Францішак Багушэвіч не быў выключэннем. Ён сам пра сябе пісаў: «Граю трошкі на скрыпачцы». І сімваламі сваёй паэзіі ён абраў апрача скрыпкі смык і «дудку-самаграйку».

Багушэвічава паэзія далёкая ад лірычнасці. Тым не менш, зварот музыкаў да ягоных твораў сталы, зацікаўлены. У 1918 годзе агучыў мелодыяй Багушэвічаў верш «Мая дудка» знаны музыка Ян Тарасевіч. У 50-я гады мінулага стагоддзя да творчасці

Ф. Багушэвіча звяртаўся і кампазітар Аляксей Туранкоў. Ім напісаны мелодыі на «Маю дудку» і «Хмаркі».

Верш «Хмаркі» не раз вярэдзіў душу і нашага паэта-сучасніка Анатоля Кудласевіча, і ён таксама напісаў мелодыю да гэтага твора. Ён згадвае: «6-га сакавіка 1995 года ўсю ноч сядзеў і гартаў Багушэвічаў зборнік вершаў. Запыніўся на “Хмарках” і адразу заспявалася. Сумна, тужліва, амаль не да слёз…» Сваю песню на верш «Хмаркі» Анатоль Кудласевіч выканаў на адной з юбілейных вечарынаў, прысвечаных дню народзінаў аўтара «Дудкі беларускай» у Купалаўскім музеі.

На іншай юбілейнай вечарыне мне пашчасціла пачуць песню на Багушэвічавы словы — «А на вярбе». Напісаў яе вядомы кіраўнік залескай «Альтанкі» Сяргей Верамейчык.

На вершы Ф. Багушэвіча напісаў колькі песняў і Сяржук Чарняк — прадпрымальнік з Ліды. Сярод іх «Смык», «Знаць Чачота ўсе павінны», «Афяра» і інш. Найбольш яму ўдалася песня на верш «Афяра», што карысталася і карыстаецца найбольшым поспехам. Пісалася яна ў 1988 годзе. Гэта глыбокая, пранікнёная песня. Праспяваў яе С. Чарняк пад гітару на Першым ўніверсітэта конкурсе бардаўскай песні.

Неяк раз выкладчыца тэхналагічнага інстытута Валянціна Мароз, пачуўшы, што я цікаўлюся, як Багушэвічавы творы ўвасоблены ў музыцы, пахвалілася, што яе стрыечная сястра Ніна Загарэўская з вёскі Мікалаеўшчыны нядаўна стварыла мелодыю на Багушэвічаву «Калыханку». На думку Валянціны, атрымалася вельмі лёгкая, цёплая калыханачка. І філасофская. Бо ў вершы гаворыцца пра спрадвечнае: пра пашану да родных, да бацькоў і пра людскую чэрствасць.

Сучаснікі называлі Францішка Багушэвіча няйначай як песняром. «Я не называю Ф. Багушэвіча паэтам, але песняром, і раблю гэта свядома: гэты тытул песняра лепей дастасоўваецца да такога паняцця ў беларускай мове, хоць аўтар быў паэт усёй душою», — так ахарактарызаваў паэтычную сутнасць Францішка Багушэвіча ягоны біёграф і знаёмы Напалеон Роўба. Гэтую тэзу пацвердзіў і наш сучаснік бард Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён музычна агучыў нават празаічную прадмову Мацея Бурачка да «Дудкі беларускай», назваўшы яе «Маналогам Францішка Багушэвіча». Выконвае С. Сокалаў-Воюш «Маналог» пад гітару,

і з музыкай прадмова да «Дудкі беларускай» працінае душу кожнага, хто яе слухае. «Той люд жыве, казаў пясняр у сваім безназоўным вершы, прысвечаным варшаўскаму харавому таварыству "Лютня", — што свае песні мае». Гэтыя словы гучаць як напамін для нас, яго нашчадкаў.

## Свіранскі ручнічок

Багушэвічы, як вядома, пераехалі ў Кушляны ў 1846 годзе з Свіранаў. А ці ёсць зараз хоць якая повязь між радзімаю Францішка Багушэвіча і Кушлянамі? Безумоўна, ёсць. У кушлянскім мемарыяльным музеі спецыяльны стэнд прысвечаны Свіранам. Тут, найперш, копіі дакументаў аб нараджэнні і хрышчэнні Франуся, а таксама сціплы свіранскі ручнічок. Яго музейшчыкі раздабылі падчас адной з сваіх экспедыцыяў у Свіраны. Адна з удзельніц гэтай экспедыцыі Ірына Марачкіна з Басалыгаў пра той ручнічок адгукаецца вельмі прачула: «Просценькі такі, шарачковы, без асаблівай аздобы, але вельмі даўні, хораша вытканы». Зараз гэты ручнічок сімвалізуе два моманты: дзень народзінаў Франуся і вечную повязь між Свіранамі і Кушлянамі.

# Змест

Выданню гэтай кніжачкі фінансава і творча паспрыялі народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, колішняя легенда Беларускага тэлебачання; сям'я вядомага скульптара Льва Гумілеўскага (з творчай рупнасці яго і яго сына Сяргея ў верасні 2009 года ў Смаргоні ў гарадскім парку паўстаў велічны помнік аўтару «Дудкі Беларускай» — «Багушэвіч думае пра Беларусь»); супрацоўніца акадэмічнага Інстытута гісторыі Раіса Крывальцэвіч, Лявон Злотнікаў з Гомельшчыны, Людміла Ліцвінава і Валянціна Мароз з Мінска, Мікалай Апянёнак, Алесь Мазанік, Ася Паплаўская, Павел Русецкі, Станіслаў Папко з Бярозы, Ларыса Гедзімін родам з Ашмяншчыны і шмат хто іншы. Свой пасільны ўнёсак у выданне «Благаслаўлёных Кушлянаў» зрабіў і колішні спявак опернага тэатра Пётра Тарасевіч — шчыры прыхільнік паэтавай грамадзянскай мужнасці. Усім ім, а таксама дзецям сваім — Марату, Тані, Аксане, зяцю Міколу Чылікіну — аўтар удзячны за іхняе спрыянне.

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Уладзімір Содаль
Благаслаўлёныя Кушляны

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Аскерка*
Набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 10.11.2009. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Гарнітура Times. Ум. друк. арк. 7,56. Ул.-выд. арк. 5,9.
Наклад 300 ас. Зак. 979.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.